— Дык ты мне сама пра яго і распавядала, — здзівіўся я.

— Ну, распавядала, — уздыхнула галава. — Я ж казала, што ён кепска скончыць.

— Ну так — усё ідзе да таго.

**18.** Рыгор прачынаецца і думае: “Я хоць сам і раздзяўбай, але ж не цярплю свінячых адносінаў да працы з боку супрацоўнікаў. Тое, што дазваляецца кіраўніку, не мусіць быць прывілеяй падначаленых. Камусьці ж трэба працаваць. Таму бывае, што я хачу прыдушыць Капітоныча. Часам я звярэю, калі Капітоныча няма на працы, і добра, як на мае вышукі ён яшчэ можа нешта ў адказ рохкнуць. Ні гудкоў паравоза, ні гудкоў парахода, ні гудкоў тэлефона. Дзяцел не дзяўбе. Трамвай не скрыгоча. Сонца не свеціць. Вецер не дзьме. Цені не шэпчуць”. З гэтымі думкамі Рыгор выцягвае з альбома фотаздымак Капітоныча. На прэзентацыі кнігарні яны шмат фатаграфаваліся. Кожны супрацоўнік лічыў за гонар апынуцца пад шыльдай і пакінуць свой фотаадбітак для нашчадкаў. Рыгор прышпільвае фота з Капітонычам да сцяны і выцягвае вялікі кухонны нож: “Рохкай, Капітоныч, рохкай, свалата! Хутка мы цябе засмажым — парсюк ты гэткі!” Рыгор кідае нож у фотаздымак. Бах! Рох-рох! Ага! Бах! Рох-рох!

Насамрэч Капітоныч не рохкае і не смажыцца — няма паху. Толькі летні вецер б’ецца ў шыбы кнігарні і голас бухгалтаркі недзе здалёк кліча Рыгора з астралу: “Рыгор Вельветавіч, тут да вас з падатковай — хочуць пагутарыць”.

У кнігарні завялася маленькая свінка. Мы не ведалі, што рабіць. Свінка хавалася за шафамі. Была версія,

што гэты маленькі ружовы свін накапаў там норак. Нашыя шафы час ад часу падазрона кракталі і рохкалі. Мы празвалі свінку Партызанкай. Бо як такое магчыма, каб у кнігарні патаемна жыла свінка?! Яна нам не шкодзіла. Бо грызла адно малацікавыя і няздарныя кнігі. А вось што да вадкасці... Тут было значна горш. Гэты сабака, прабачце, свінка скрадала нашае піва і гарэлку. Мы ўжо цверазець пачалі. Пасткі і атруту Партызанка абмінала лёгка. Толькі аднойчы яна неабачліва выскачыла на вуліцу, і тады мы, радасныя, зачынілі дзверы на ключ. Аднак праз два дні Партызанка (можна сказаць — з боем) прарвалася ў кнігарню. Ускочыла разам з выпадковым пакупніком. Паводле адной з версій, гэтую свінку прынёс Капітоныч.

— Галава, — я радасна пацёр рукі. — Здаецца, нешта цікавае пачынаецца!

— Я б сказала — працягваецца. Усё ідзе да лагічнага завяршэння, — зрабіла выснову галава.

— А што думаеш пра Капітоныча? — запытаўся я.

— А сам што думаеш? — весела перапытала галава.

— Ну, такі мілы супрацоўнік, п’е разам з дырэктарам, ідэальны варыянт, таму не ведаю, чым ён не задаволены.

— Мілы, кажаш? — галава падазрона захіхікала.

— Так. Ну, не працуе — што з яго возьмеш? Бярэ прыклад з дырэктара. Сам хоча бухаць, а мілых людзей прымушае гарбаціцца на яго. Не, гэта не выйсце. Працаваць дык працаваць разам.

— Ну, чакай-чакай, — падазрона сказала галава.

**19.** НАЧНЫЯ ЗАПЛЫВЫ.

Мінула яшчэ дзён дзесяць. І ўсё, нарэшце, было падрыхтаванае для Начных заплываў. У кнігарні сабралося чалавек дваццаць пяць. Тут былі як вядомыя мажныя літаратары, гэтак і пачаткоўцы, якія яшчэ не ад'еліся ў жыцці і таму выглядалі вечна галоднымі. У цэнтры перад сталом стаялі ў гарнітурах (усё ж такі свята) Рыгор Каваль і Капітоныч. Рыгор Каваль нагадваў асятра. Гэтае падабенства было звязанае не столькі з дзіўным рабрыстым гарнітурам, колькі з ягоным носам, які быў сёння нeяк нязвыкла выцягнуты і падаваўся нават завостраным. Капітоныч, наадварот, у адрозненне ад свайго дырэктара, выглядаў сапраўдным паядальнікам рыбы, гэткім бурым мядзведзем. Было бачна, што ён настроены рашуча і мае намер узяць самы актыўны ўдзел у спаборніцтвах. Усе трохі нерваваліся і насцярожана пазіралі на стравы. Стол выглядаў шыкоўна!.. Праўда, даўжыні троху не хапіла — да дзесяці метраў ён відавочна не дацягваў, але метраў пяць былі нашыткаваныя!.. Шчыльна стаялі талеркі з самымі рознымі прысмакамі. Недзе з салаты вытыркаліся вясёлыя моркаўкі і сумныя агуркі. У цэнтры стала, як гара, узвышалася запечаная качка. Яе скура адлівала спакуслівай скарынкай. Здаецца, зубы сабраных ужо хрумсцелі гэтай вабнотай. Далей паказвала пашчу крывая, як шабля, рыбіна. З ускрайку падміргваў хударлявы парсючок. (І гэты парсючок некага падазрона нагадваў.) Нарэзка, ікра кабачковая, як кажуць, "заморская". Карацей, стол выглядаў паважна і размаіта. Натуральна, было шмат розных бутэлек: ад налівак вішнёвых, парэчкавых, кменавых да звычайнай хлебнай самагонкі. І тут супрацоўнікі "Кнігарні Марс" былі на вышыні.

Волма і Караліна пачалі збіраць грошы. Ніхто не ўпарціўся — усе здавалі, бо спаборніцтва выглядала вельмі

спакусліва і перспектыўна; ясная рэч, кожны хацеў адным з першых распачаць эстафету, каб прайсціся па меню, пакуль яно яшчэ цнатлівае.

Рыгор Каваль паглядзеў з сумам на кніжныя паліцы — да кніжак аніхто не дакранаўся. Усім было пофіг! Літаратура кацілася ў тартарары. Рабінзоны Крузы і Клеапатры, усе Томы Соеры і Сечкі, усе Праклёны і Цвікі — на ўсё гэта ніхто не звяртаў увагі. Відавочна наведнікаў цікавілі толькі парсючкі ды катлеткі. “Ы-ы-ы, — шчабеча кабета ў ільняной сукенцы ад аршанскай фабрыкі. — Я люблю высокамастацкую літаратуру! Але перад тым як перайсці да яе, мушу з’есці гэтую высокамастацкую катлету і выпіць гэтай высокамастацкай самагонкі!” “Гэта хто?” — запытаў шэптам Рыгор у Волмы, ківаючы на “высокамастацкую кабету”. “Гэта — вядомая крытыкеса. Праславілася тым, што, даследуючы постмадэрнізм у творах сучасных аўтараў, вынайшла наўпроставую сувязь чабурэка з кармай”.

Волма выцягнула нафарбаваныя вусны і абвесціла:

— Грошы сабраныя! Цяпер лёсаванне вырашыць, хто будзе першым!

Усе выцягнулі са спецыяльнага барабана (у якасці чаго скарысталі электраімбрык) паперкі з нумарамі. Кожны выцягваў асцярожна, нібы ў паперках хаваліся не толькі цукеркі, але і тарантулы. Першым выпала быць хударляваму нервоваму паэту, які так расхваляваўся, што анічога лепшага не прыдумаў, як узяць са стала курыную ножку, і марудна пачаў яе смактаць. Усе захіхікалі.

Волма абвесціла:

— Наступны!

Наступным апынуўся таўстун. Адразу было бачна адкормленага чалавека.

<...>

Волма выпрастала рукі ў розныя бакі і ўзляцела пад столь. З вышыні яна пазірала на дырэктара кнігарні і на прысутных. Потым разявіла рот — і адтуль раптоўна вылецела яшчэ адна Волма, але трошкі меншая. Потым гэтая меншая Волма таксама разявіла рот — і адтуль выскачыла яшчэ меншая Волма. І вось ужо ўся кнігарня ў Волмах, нібыта ў паветраных бурбалках. І ўсе гэтыя напаўпразрыстыя Волмы нешта нягучна прамаўляюць.

Дзясятым быў Капітоныч. Ён падрыхтаваўся. Стаяў як ганчак: галаву выцягнуў, лапы наперадзе — у іх бліскучая лыжка, ад якой адляталі светлавыя блікі. Нават сліна капала з рота, як празрыстыя слімакі. Усе госці прыціхлі, і, здаецца, аніхто не дыхаў.

У гэтай моўчы Волма скамандавала: “Старт!” І было гэта прамоўлена так, што прысутным падалося: “Фас!” Капітоныч кінуўся да бліжэйшай талеркі з салатай — раз! Агурок заляцеў у рот конікам — два. Ад ножкі качкі засталіся адныя косткі — тры. Капітоныч быў проста неверагодны: маланка, страла, куля, смерч! Ён увесь змакрэў, ягоная лысіна сталася падобнай да меднага люка. З выталупленымі вачыма ён нагадваў зэка, які выйшаў на волю! Твар зрабіўся барвовым, шчокі раздзьмуліся. Быццам на шпацыры сом!

Капітоныч быў у сваёй стыхіі! Гэта быў ягоны зорны час! Усё!!! Усе ўзравелі: “Перамога! ПЕРАМОГА!!!”

Капітоныч прайшоў дыстанцыю за адведзены час! Рыгор Каваль, таксама барвовы, злосна пазіраў на свайго калегу, які цяпер прэтэндаваў на касу. “Жывёла!” — толькі паспеў вымавіць дырэктар, як з Капі-

тонычам здарылася нешта нядобрае. Ён дзіка зароў, схапіў бліскучы кухонны нож і кінуўся на свайго шэфа. Ніхто нават не паспеў спахапіцца. Пачуўся хрып, фантан крыві заліў усіх прысутных, хрумст — і вось… Капітоныч адрэзаў, ці, больш дакладна, адпілаваў галаву свайго ўжо былога шэфа і, дзіка гледзячы яму ў вочы, прахрыпеў : “Сам жывёл-а-а-а!..”

Праз імгненне Капітоныч пачаў бляваць. Бляваў ён доўга і са смакам. Усе тыя далікатэсы, што нядаўна былі на сталах, цяпер выляталі з Капітоныча на галаву Рыгора Каваля. А шэф так і нічога не зразумеў і нават не паспеў спалохацца. Ён толькі сказаў: “Марс ё…” — і памёр. Цяпер ягонае цела ляжала на метр ад галавы. Галава была нейкая несапраўдная, быццам тэатральная. Здавалася, што вырачаныя вочы і высалаплены язык — гэта такая задума майстра. І плавала галава ў бог ведама чым: на носе ляжаў кавалак каўбасы, валасы таксама былі ў нейкай дрэні. Для паўнаты карціны забойства не хапала кетчупу.

А цела? Цела раскінула рукі, быццам збіралася сысці. Невядома навошта, але Волма з Дашуняй са слязьмі на вачах і ўсхліпамі выцягнулі цела былога шэфа з гэтага бедламу ў офісны кабінет, дзе пяшчотна паклалі на падлогу.

Галаву не чапалі… Складалася ўражанне, што тэатральная завеса апусцілася, дэкарацыі сталі непатрэбнымі, у манекенаў разрадзіліся батарэйкі. І толькі цяпер можна было разгледзець, што белыя пальцы нябожчыка сціскаюць кнігу Герберта Уэлса.

Выклікалі міліцыю і чамусьці машыну хуткай дапамогі.

Пакуль усе былі ў асноўнай зале кнігарні, цела знаходзілася без нагляду. Раптам… яно заварушылася, ціхенька

ўстала, адкрыла вокны ў кабінеце (гэта ж быў першы паверх) і незаўважна ад усіх выскачыла на вуліцу.

Калі прыехала міліцыя, цела не знайшлі. На месцы здарэння засталася толькі галава.

А Капітоныч стаяў на каленях, увесь дрыжэў і паўтараў бясконца адну фразу: “Гутаперчавы шэф… Гутаперчавы шэф… Гутаперчавы шэф…”

**20.** тут варта прыпыніцца, каб зрабіць кароткую інфармацыйную даведку. Што? Навошта? І дзеля чаго? Часам чалавек, зазіраючы ў люстэрка, знаходзіць там не сябе. У канкрэтна ўзятым выпадку, зазірнуўшы ў люстэрка, наш герой пабачыў там галаву птушкі. А калі дакладней, там была чайка! І гэта адбылося ў невялікім партовым горадзе Вентспілс.

Калі вы зазірняце ў Вікіпедыю, дык даведаецеся, што Ве́нтспілс (былая **Вінда́ва** (да 1917), латыш. *Ventspils*, ням. *Windau*) — партовы горад у Латвіі. Месціцца на беразе Балтыйскага мора каля вусця ракі Вента, бліжэй да поўначы ад Ліепаі і на захадзе ад Рыгі.

**21.** Голас скрыгатаў і ламаўся на аскепкі. Трэск быў моцны. У дынаміках скрозь перашкоды прарывалася:

— Я — Апалон!.. Я — Апалон!.. Выклікаю Марс!.. Выклікаю Марс!.. Адкажыце!.. У нас экстранная сітуацыя — забіты галоўны рэзідэнт!.. Я — Апалон, я — Апалон!.. Тэрмінова патрэбная вашая дапамога!.. З ана-

біёзу выведзены Сталін!.. Цукеркі падрыхтаваныя!.. Гарбата запараная!.. Пінгвіны пашыхтаваныя!.. Алей у Ганнушкі ўжо ў тэрмасе!.. Каровіну прысвоена новае афіцэрскае званне!.. Дом чакае!..

Далей бязладнае мармытанне і бясконцая чарада сігналаў. І раптам доўгачаканае: “Апалон!.. Апалон!.. Я — Марс!.. Адпраўляем новага рэзідэнта… Чакайце… Зефір і печыва не выкарыстоўвайце. Ліверку абмінайце!.. Бярыце каўбасу толькі вышэйшага гатунку!.. Мармелад у дарозе! Трымайце Сталіна ў напысніку! Да сувязі, Марс!”

* * *

Мне прымроіўся маленькі скунс. Ён быў у серабрыстым скафандры. Шлем нагадваў плафон з ваннага пакоя. У матавых блісах на мяне пазірала морда звеについては. Ягоныя вочы цямнелі і падаваліся касмічнымі чорнымі дзірамі ў мініяцюры. Скунс ашчэрыўся, паказваючы вострыя зубы, і прывітальна памахаў лапай.

“Праблема ў тым, што няма простага рашэння. Кісламалочныя буры ўжо супакоіліся. Адзін іншапланетнік, другі, трэці — гэта міф, гэта цені замшэлай кнігарні, прывіды літаратурных замкаў, памерлыя героі, якія нас тэрарызуюць. Мы спрабуем змагацца з гэтай туманнай рэчаіснасцю, мы спрабуем абуджаць свае асіплыя галасы. Намацоўваем у цемрачы свой шлях. Караскаемся ў вышыню да сонца. Чапляемся замёрзлымі рукамі за выратавальную лесвіцу. Несумненна, рашэнне з’явіцца ніадкуль, і будзе яно няпростым”.

Тыя, хто хоць некалі працаваў з кнігай, зразумеюць мяне.

Хто такі кнігагандляр? Правільна: маленькі папяровы бог. Шаман. Анестэзіёлаг. Кардыёлаг. Трэнер па фітнэсу. Кулінар. І многа хто яшчэ. Гэта па сутнасці праваднік у свет кніжных герояў. Экскурсавод у невядомае. Адным словам — гуру.

Наведнікі даволі часта робяць свой выбар, паслухаўшыся гандляра. Бо не ведаюць, чаго самі хочуць. Давяраюцца гуру. А яшчэ прэміі ўплываюць на выбар пакупніка. Не істотна, што за прэмія, — абы была. Хоць ад прыбіральшчыцы цёткі Клавы. Затое прэмія!..

галава не знікла. Яна засталася. Больш за тое, яна здабыла… цела! Ці цела здабыло галаву? Гэта было падобным не да працы хірурга, які прышывае альбо ампутуе, а хутчэй да працы ювеліра. Тут мне згадаліся яйкі Фабержэ. Не ведаю чаму, я больш уважліва пачаў разглядаць новасфармаванага чалавека. Так-так, вось там, дзе галава, — неверагодная інкрустацыя!.. Шыя — проста азарэнне працы майстра! Кадык — узор філіграннага таленту! А рукі… Рукі!.. Гэтыя пальцы, гэтыя пазногці — сапраўдныя апрацаваныя сапфіры, смарагды… І не толькі. Тут блішчэлі ўральскія, алтайскія і забайкальскія самацветы. І было яшчэ нешта, што адразу кідалася ў вочы, — у твары паменела дабрыні. Нават здавалася, што перад табой не чалавек, а ягоная скульптурная выява. Да таго ж з’явіўся важны атрыбут прыналежнасці да ўлады — капітанская форма. Фуражка, кіцель — усё як мае быць у сапраўднага капітана. Насупраць мяне сядзеў дзіўны марскі чалавек і маўчаў. Гэтая сцэна нешта мне нагадала з мінулага. Толькі што? Я не мог згадаць. А можа, і не хацеў.

Мне было неяк не па сабе. А потым сітуацыя ўбачылася досыць камічнай, бо раптам я зразумеў, што гэта ўсё плён маёй хворай фантазіі. Згадаўся рэжысёр Сэм Пекінпа і ягоны культавы фільм "Прынясіце мне галаву Альфрэда Гарсія". Капітан адразу неяк пабляк і пачаў выглядаць звычайным стомленым чалавекам. Тут ужо мне палепела, а капітан стаў падабацца значна больш, хаця форма на ім была сапраўдная, капітанская.

Капітанскія душы не старэюць, бо жывуць у рытмах мора. Не бывае і былых капітанаў. Гэта можна лічыць праклёнам, які пераследуе ўсё жыццё.

Я паглядзеў на лямпачку ў плафоне. Там скокала мушка ў нейкім нервовым танцы. "Ну вось, ужо нахлябалася рому", — паздзекваўся я з пакутніцы.

— Адчыняй! — пачуў крык і грук у дзверы.

На парозе стаяў чалавек. У такі запозні час гэта было падазроным і дзіўным. Твар незнаёмца быў увесь у барадаўках, і мне ён адразу не спадабаўся.

— Вы тут здымаеце кватэру? Суседзі кажуць, што вы ўчора ўчынілі дэбош. Скаргі паступілі на вашую кватэру.

— А вы хто?

— Я ўчастковы Мікалай Фёдаравіч Раманчук, — прадставіўся міліцыянт.

— Гэта, напэўна, нейкая памылка — я жанаты чалавек. Я тут зарэгістраваны. Аніякіх свараў тут не бывае апошнія гадоў восем. Жонка цяпер у камадзіроўцы. Прыедзе — можа пацвердзіць.

— Так? — запытаўся з недаверам Мікалай Фёдаравіч і звузіў левае чырвонае вока. Гэтае вока мне таксама не спадабалася, бо ў правым не было чырвані. Міліцыянт вытрымаў паўзу і запатрабаваў:

— А пашпарт ваш можна?

— А можна спачатку ваш дакумент? — запярэчыў я. — І скаргі якіх суседзяў? Хто? Хто канкрэтна паскардзіўся на нашую кватэру?

— Ды ёсць тут некаторыя, — неяк таемна вывернуўся вечаровы госць, але пасведчанне разгарнуў: усё правільна — Мікалай Фёдаравіч Раманчук, старшы капітан міліцыі.

Я прынёс і працягнуў свой пашпарт. Міліцыянт перапісаў мае дадзеныя ў зялёна-чырвоны сшытак, хрыпла ўздыхнуў і дадаў:

— Распішыцеся, што прэтэнзіяў не маеце.

Я распісаўся.

Міліцыянт паглядзеў на мяне нейкім смутным і нядобрым позіркам:

— Прабачце, будзем правяраць далей! — і праз імгненне запытаў: — А хто тут з суседзяў можа не даваць пакою? Мо сусед злева? Ці мо сусед справа?

— Не ведаю, ні злева, ні справа, ні пад столлю, ні пад падлогай — жывем па-сяброўску. Да пабачэння. — Я акуратна выпхнуў госця з кватэры.

Засталіся пытанні.

А пытанняў будзе яшчэ шмат. Схадзіце на могілкі і палічыце пахаванні — столькі, а магчыма, і яшчэ больш пытанняў.

**1.**

Звінеў вецер. Спявалі марскія хвалі. А на душы ў цябе было моташна, сябра. Карабельныя мачты не натхнялі на подзвігі. Ром у бутэльках нагадваў скіслае малако. Здаецца, што жыццё сёння пакрылася нейкай сіняй лупінай. Ты стаяў, глядзеў на адлівы і прылівы. Разглядаў згаслае зімовае сонца. Мацней захінаўся ў дзіравы плед. Сплёўваў праз крывыя карыесныя зубы. Спрабаваў згадаць санэт Шэкспіра. Ён, сабака, не згадваўся. Ты думаў пра надвор’е, яно, братка, гадаснае было. З рота выпаўзалі марозныя аблокі. Ты намацваў у кішэні кубінскую цыгару. Няўжо варта было псаваць марознае паветра ейным смуродам? Гэты пошук навобмацак так і застыў у прасторы часу. Ты не запальваў. Ты глядзеў на хвалі, на халодныя пыркі. Думалася, што дамы ператварыліся ў кубы лёду.

**а ў гэты час**
**кнігарня Марс**
**аўторак 19:00**

Дашуня наблізілася да маладога чалавека ў акулярах.

— Што вам прапанаваць, малады чалавек? Вы любіце сучасную літаратуру?

Малады чалавек зняў акуляры, і Дашуня пабачыла, што малады чалавек сляпы. Але там, у пустых чорных вачніцах, нешта было. Дашуня здзівілася. Яна пасунулася бліжэй і пабачыла, як маленькі чалавечак памерам з прусака махае ёй рукой. Гэты маленькі

чалавечак сядзеў у адной з вачніцаў, і яна пачула голас, ці хутчэй піск:

— Дашуня, прывітанне! Як вы пажываеце? Як гандаль? Як там нашыя несмяротныя аўтары? Колькі каштуе каўбаса? Як там Сталін?

Дашуня прыглядзелася і пазнала ў маленькім чалавечку дырэктара кнігарні!.. Рыгор Каваль уласнай персонай, толькі вельмі маленькі.

— Рыгор Вельветавіч? — прашаптала Дашуня. — Гэта вы?

— Хто ж яшчэ?

— А мы вас ужо пахавалі — дакладней, тое, што ад вас засталося. Капітоныча пасадзілі ў псіхіятрычную лякарню. Гандаль квітнее. Цяпер усім займаецца Сталін. Аўтары пасля вашага забойства ходзяць да нас касякамі — прыцягвае імідж нашай кнігарні... А куды вы падзеліся? Як вы? Як жа так? — шаптала Дашуня.

— Я — на адпачынку ў Вентспілсе. У працоўныя дні займаюся марской справай. А тут — так, праездам.

Пасля гэтых слоў сляпы малады чалавек насунуў акуляры і сышоў.

Расчуленая Дашуня затэлефанавала:

— Іосіф Вісарыёныч? Ён жывы. Хто? Рыгор Вельветавіч. Так. Так. Сама бачыла — на ўласныя вочы. Толькі нейкі маленькі стаў. Памерам з прусака.

## 2.

Я вытрас з кішэні цацачнага капітана. Ага. Вось ён. Блішчаць зубы. У руках — шабля. Прыгажун. Няма чаго казаць. Я паставіў цацку на тумбу і пачаў разглядаць. Мне падалося, што пачуўся голас:

— Ну што, з’еў?

Прыслухаўся. Цішыня. Тады я прыклаў цацку да вуха, нібыта марскую ракавіну. Шоргат ветру, і зноўку, толькі больш выразнае:

— Ды я гэта, я… З’еў, плюгавы?

Я адкінуў цацку падалей у цёмны кут, але і адтуль данеслася:

— Гаўнюк… Слухай мяне…

— Сам гаўнюк! Я — капітан! — закрычаў я.

**А)** Калі ты прыйшоў на вяселле да сябра і нажэрся як свіння, усіх абмацярыў, пацягаў за цыцкі святочных дзяўчат — што рабіць? Вешацца ці з грукатам ператварыцца ў танк, каб сысці ў падпольны запой? Што рабіць, капітан Барада?

**Б)** Самае галоўнае — не панікаваць. Калі ты абрыганы, дык зрабі выгляд, што гэта твой натуральны стан. Тарты часам выглядаюць пенай ад бражкі, але на смак можа быць якраз тое, што трэба. Таму папраў гальштук — і валіся пад стол. Святочны хроп, чым не музыка для вяселля?

**а ў гэты час**
**кнігарня Марс**
**серада 11:12**

Сёння на Караліне была сукенка ў гарошак. На твары груваcткі краявід з пудры, а вусны нагадвалі яркую чорную ракету.

Караліна азірнулася — нікога ў кнігарні пакуль не было. Яна выцягнула з-за шафы драўляны куфар, аплецены

палоскамі металу ў розных мудрагелістых арнаментах. Было ўражанне, што на куфры вісяць жмуты павуціння, настолькі ён быў стары. Караліна выняла з кішэні вялікі руды ключ, уставіла яго ў адтуліну куфра, "шчоўк", адкінула вечка. Потым з цяжкасцю ўздыхнула і ўзяла велізарную кнігу. Фаліянт быў запылены, таму Караліна на яго падзьмула, а потым пачала чхаць.

Супакоіўшыся ад чыху, працерла вокладку рукавом кофты. Выбліснулі пабляклыя серабрыстыя літары: "Магія. Чарадзей у шафе. Шкілеты".

— Мая ты чарадзейка, — прамармытала Караліна і пацалавала кнігу.

**3.**

Мне больш няма чаго рабіць, каб тлумачыць вам… Вы ж дарослыя людзі. Хіба не разумееце, куды ўсё гэта ідзе? Гэта рухаецца і не спыняецца ў адным напрамку — наперад!.. Вось туды! Там, дзе неба яднаецца з зямлёй, чорт спявае кіслыя песні, а бронзавая птушка скача па гарачым алеі на чорнай патэльні, семафор злосна грыміць і паказвае ўвесь час чырвонае святло. Там, у тых мясцінах маё сэрца супакоіцца і будзе абліваецца не крывёй, а таматным сокам.

**А)** Што рабіць, калі ты закахаўся ў шаснаццацігадовую дзяўчыну, а табе ўжо сорак шэсць? Твая галава ўпрыгожылася праплешынамі з выспачкамі сівых валасоў. На вачах сядзяць цяжкія панцырныя акуляры. Нос, нібы чырвоны багор, разразае твар. Шчэць фіксуе дзень ва ўсёй ягонай прыгажосці. Што рабіць, капітан Барада?

**Б)** Важна зразумець, што ты жывеш не ў Амерыцы. І цябе адразу не пасадзяць за краты. Але і не варта забывацца на народную прымаўку “за пятнаццаць даюць пятнаццаць”. Анікога не слухай. Каханне, братка, гэта святое. У гісторыі чалавецтва процьма выпадкаў, калі паміж каханымі ляжала бездань розніцы ва ўзросце. Але і не забывайся на бацькоў абранніцы. Бо твая старая чарапахавая галава можа ператварыцца ў грушу для бокса. А ўвогуле, бярыся тады за вершы. Што ж табе яшчэ рабіць у такім узросце? Будзе на гэтым свеце больш на аднаго недабітага графамана.

Капітан пасміхнуўся. Ён не здзіўляўся пытанням. Капітан адчуваў сябе здатным да кансультацый. Думалася, што ягоныя парады ідуць на карысць.

У кабінеце было ціха. Са столі сумна пазірала лямпачка. Вецер не пуржыў. Цягнікі не грукаталі. Птушкі не спявалі. Толькі нахабны пыл шчэрыўся алычовымі зубамі. Насупраць задуменна пакачваўся ў крэсле пажылы суразмоўнік.

Капітан падышоў да шафы, выцягнуў адтуль пузаты матавы графін з гарэлкай і, не доўга думаючы, сербануў з рыльца.

Пачулася: “Хопіць”.

Капітан прыгледзеўся: у графіне плавала аднавокая праспіртаваная пачварынка. І яна зноўку прабулькала: “Хопіць”.

— Што хопіць? — здзівіўся капітан. — Мне ўжо і не вельмі хочацца. Так і блевануць можна. Плавае тут невядома што...

**4.**

Ну, што? Час перакусу. Так. Дзе мая скураная торба? Вось яна. Уся ў замочках і заклёпках — стыльная чорная торбачка. Сюды якраз уціскаецца палка сыравяленай каўбасы “Мядовая” і пляшка гарэлкі “Хлебнае віно”. Прэзент ад сябра — капітана беларускага рачнога парахода. Вось, не былі дарэмнымі напаміны сястрыцы Глорыі. Яна заўсёды казала: “Прыйдзеш на бераг мора, выпі і закусі”. А што капітану яшчэ трэба? Калі ром закіс — гарэлку піць. Цяпер капітан Барада вып’е і закусіць. Як інакш можа быць на беразе мора ў Вентспілсе?

* * *

Слова “міністр” падобнае да слова “каністра”. Я смакую гэтае спалучэнне. У каністры можа быць шмат спірту. А ў міністры? Таксама можа быць шмат. Закаркоўваю міністра — старанна накручваю накрыўку. Потым трасу міністра і ён гучна булькае — ці гэта каністра?

**5.**

Шчыра кажучы, мне не падабаецца, калі мяне пільна разглядаюць. Ну, так, піў учора, і пазаўчора таксама. І што з таго? Мне цяпер павесіцца?!! Га?!! Я вас пытаюся? Мне цяпер не жыць? Ну, прыпух трошку. Ну, патыхае з рота. Ну, атруцілася ў трамваі ад майго подыху некалькі чалавек. Ну, адна жанчына лямантавала на мяне, што я сволач. Ну, наступіў на нагу таўстуну, які зароў, нібы мядзведзь… І што з таго? Гэта ж дробязь… Пабочны жыццёвы эфект. Цяпер бліжэй да справы. Зараз я вып’ю

куфаль піва і адкажу на ўсе вашыя наспелыя пытанні. Толькі памаўчыце хвілінку. Заткніцеся, я сказаў!.. Дайце я памасірую скроні. Нешта галава расколваецца…

**А)** Што рабіць, калі са свята цябе скрадае жанчына, старэйшая за цябе, і цягне да сваёй хаты? Яна, натуральна, разведзеная, і дома ў яе бегаюць дзеці. Жанчына прыгожая, аднак ейныя мазгі працуюць толькі на вытворчасць нашчадкаў. Жанчына выглядае на звычайную самку. У яе не дом — гняздо. Дома пузацяцца прадуктамі лядоўні. Па калідорах перапаўзаюць тоўстыя каты і робаты. Кватэра нагадвае касмічны зоркалёт. Але няма капітана. Папярэдні быў атручаны ці з'едзены на дэсерт. Ты не сэксіст, хаця пакрысе ў такога пераўтвараешся. Што рабіць, капітан Барада?

**Б)** Самае галоўнае — прадумаць шляхі ўцёкаў. Правер, ці засталіся ключы ў дзвярах. Пасля кубка гарбаты папрасі кубак кавы. Прымусь яе пакутваць. Не давай ёй расслабіцца. Няхай адчуе санлівасць, тады ёй захочацца спаць — і ў цябе будзе момант збегчы. Бо калі ты застанешся — зробішся звычайным самцом. Капітанам гнязда. Хаця ці не гэтага ты чакаў і шукаў? Гняздо, яйкі, пульхная самка пад пахай — можа, у гэтым ёсць сэнс?

**Кнігарня Марс**
**палёт нармальны**

— Давай паразмаўляем, — сказала Волма і паглядзела на калегу дзіўным позіркам. Здавалася, што ў ейных вачах плаваюць касмічныя караблі.

— Ну, давай, — пагадзілася Дашуня. — Я люблю размовы пра космас.

— Табе не надакучыла тут працаваць? — спытала Волма.

— Чаго гэта ты раптам? — спалохалася Дашуня.

— Не круці — адказвай, што думаеш, — настойвала Волма.

— Ды я не кручу — проста не разумею, чаго гэта ты раптам накінулася? — апраўдвалася Дашуня.

— Ды вось гляджу на цябе, і ў мяне ўзнікае такое пытанне. Заробкі ў кнігарні маленькія — я б нават сказала смешныя. А ты ж не звальняешся — працуеш.

— Люблю кнігі, — прызналася Дашуня. — У мяне заўсёды да кнігі было стаўленне, як да нечага сакральнага і таемнага. А ў нашай кнігарні яшчэ і цуды здараюцца.

Дашуня падышла да люстэрка, што вісела на ўваходзе ў кнігарню, расшпіліла кофту, прыпадняла майку, адчыніла дзверкі ля грудзей і выцягнула адтуль трэцяе вока. Потым узяла з-пад стала малаток, ударыла сябе па лобе і ў зробленую адтуліну запіхнула вока. Павярнулася да Волмы і залілася смехам. Волма падобна ўдарыла сябе па лобе малатком. Пырскі крыві развесялілі абедзвюх. Затым агаліла жывот і выцягнула адтуль трэцяе вока. І вось трохвокія дзяўчаты, узяўшыся за рукі, пачалі танчыць. Яны спявалі:“Нам не страшны шэры воўк! Шэры воўк! Шэры воўк!”

**6.**

Часам я думаў пра пластылінавых чалавечкаў, якія цяпер прыходзілі да мяне штодня. Яны наведвалі мае сны. У іх былі нядобрыя вочы, і доўгія рукі трымалі вялікія голкі.

Чалавечкі поўзалі па маёй галаве і час ад часу балюча калоліся. Я супрацівіўся: скідваў нахабнікаў, штурхаў нагамі, плюшчыў пальцамі… Усё было марна!.. Яны прыходзілі зноўку.

— Мы цябе не пакінем у спакоі! — крычалі чалавечкі. — Ты злоўлены! Табе капец!

**А)** Калі ты не любіш лекараў і спрабуеш іх наведваць як мага радзей (цябе ліхаманіць ад аднаго выгляду белых халатаў), а тут раптоўна забалеў зуб, што рабіць, капітан Барада?

**Б)** Ніхто не застрахаваны ад старэння. У будучым усе нашыя душы будуць спачываць на нябёсах, а састарэлыя целы застануцца ляжаць на могілках і карміць чарвякоў. Таму якая розніца: будуць на могілках ляжаць запламбаваныя ці дзіравыя зубы? А пакуль можна і патрываць. Самы просты спосаб: заліць зуб моцным алкаголем. Прыродная анестэзія. Толькі яна не надоўга — боль можа вярнуцца. Таму ёсць дзедаўскі метад вyратавання ад болю — пакласці на дупло кавалак сала. Не ведаю, як вам, дзеткі, а мне дапамагае. Дарэчы, не зашкодзіць папаласкаць рот вадой з соллю. На шклянку вады кладуцца дзве сталовыя лыжкі солі. Калі ж анічога не дапамагае — спрабуйце гада выдзерці! Поспехаў!

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**11:00 пятніца**

Кніга падляцела да столі і там знерухомела. Кніга была ўсім вядомая: яна апявала жыццё Рабінзона на Бра-

слаўскіх азёрах. Галоўны герой праславіўся тым, што спрабаваў даіць курэй і пераблытаў памідоры з буракамі. Караліна заўсміхалася, выцягнула аднекуль лук, прыцэлілася ў кнігу і стрэліла. Пачуўся лямант:

— Караліна, я табе адпомшчу, старая ты вядзьмарка!

Караліна паказала язык. Потым узяла швабру, села, нібы на мятлу, і паднялася да столі, дзе паспрабавала выцягнуць стралу. Але не атрымалася! Кніга плюнула ў Караліну жывым карасём і паказала дулю. Валасы ў маладой жанчыны злосна заварушыліся. Яна ў адказ таксама плюнула — агнём. Кніга абпалілася і папрасіла літасці:

— Даруй...

Задаволеная Караліна адшпіліла ад столі кнігу і апусцілася на падлогу.

**7.**

Нашто ты пайшоў у капітаны? З дзяцінства ж любіў лавіць рыбу. Ды есці крабаў, ракаў, мідзіі, вустрыцы. Распілаваны марскі краб нагадвае разламаны грэцкі арэх. Бярэш лыжку і чэрпаеш з панцыра смакату. Потым шчыпцамі расціскаеш клюшні і выцягваеш чырвонае мяса. Га — асалода. Выганяць цябе з партыі “Зялёныя”, капітан. Не шкадуеш ты нашых марскіх братоў меншых.

З катрынкі выскачыў гумовы капітан, загайдаўся, нібыта лялька-неваляшка. Потым гучна зарагатаў.

## 8.

Што здарылася з тваім караблём, капітан Барада? Чаму ты на беразе, нібы выкінуты за борт карабельны пацук? Твой сіні кіцель пашараваўся, але ж і дагэтуль здалёк ты нагадваеш кашалота…

Усё вельмі проста. На тваім караблі здарыўся бунт — уладу забралі жанчыны. Іх было сем. Яны прыйшлі з кухоннымі нажамі і апалонікамі. Жанчыны блішчэлі жалезнымі савецкімі зубамі і шоргалі скуранымі тапачкамі. Яны паставілі на палубу вялікі рондаль з баршчом, расклалі паўсюль алюмініевыя талеркі і лыжкі. Цяпер яны храбусцяць долькамі часныку і, сёрбаючы ружовае варыва, абмяркоўваюць апошнія навіны спорту, палітычныя выбары, даводзяць самі сабе, што жанчына эмансіпавалася. Яны зацята крычаць адна адной, нібы на базары, што замуж ісці — гэта не іх справа, а дзяцей хай нараджаюць гэтыя медузападобныя мужыкі. Усё б нічога, толькі карабель сеў на мель, а жанчыны працягваюць сёрбаць смярдзючы боршч і абмяркоўваць прыгажосць спадніцы ў гарохі, якую нібыта апранала Кандаліза Райс у гэты чацвер. Што сталася з тваім караблём, капітан Барада?

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**15:30 серада**

У кнігарню зайшоў вядомы аўтар. Вядомы ў вузкіх літаратурных колах. Праславіўся ён тым, што з'еў кіпарыс падчас свайго літаратурнага выступу. Літаратара суправаджала муза. Варта сказаць, што без гэтай музы ён не выходзіць з дому, бо, паводле ягоных словаў,

тады ў яго баліць галава. Вядомы літаратар ікнуў і сказаў гандляру Дробсу:

— Мне, калі ласка, "Уліс" Джойса.

— Французскую версію, — удакладніла муза.

— Так, менавіта французскую версію, — пагадзіўся вядомы аўтар.

У вядомага аўтара сёння быў кепскі настрой, бо ён пераблытаў малако з віскі. На ім — чорны гарнітур і кепка футбольнага фан-клуба "Спартак".

Дробс разгубіўся. Ён ніколі не чуў пра французскую версію Уліса, зрэшты, пра іншыя версіі ён таксама ніколі не чуў. Дробс прапаноўвае "Малую зямлю" Брэжнева, а таксама яшчэ нешта з класікі чырвоных кхмераў. Вядомы літаратар моршчыцца і не хоча купляць анічога.

— А можа, нешта феміністычнае? — асцярожна запытаўся Дробс і ператварыўся ў струк чырвонага перца.

— Так!!! — закрычалі ў адзін голас вядомы літаратар і муза.

Дробс расцякаўся па кнігарні, нібыта клякса атраманту. Ён выгінаўся і танчыў, жангляваў кнігамі і пускаў мыльныя бурбалкі, прапаноўваў ірландскі джын і бразільскую каву. Блазны заўсёды ў пашане.

## 9.

Дым запаўзаў ва ўсе шчыліны. Дым падымаўся клубамі. Цыгара ў жоўтых гарбузовых зубах выглядала як кавалак каўчуку.

— Амаль што туман, — сказаў задуменна капітан Барада і выпусціў на свабоду чарговую порцыю дыму.

Мне здалося, што яшчэ імгненне — і я сам паплыву ў гэтых шызых хвалях.

**А)** Дзядзька Барада, а ці пасуе мне гэтая спадніца ў гарохі? Ці будзе Федзя звяртаць на мяне ўвагу?.. У мяне, здаецца, прыгожыя ногі…

**Б)** Бяры прыклад з сястрыцы Глорыі, даражэнькая, — вось дзяўчына без комплексаў. Яна лічыць, што мужчына мусіць лавіцца на мазгі. Ці як яна кажа ласкава: на моск! Менавіта праз літару К. МосК вырашае ўсё! Я скажу табе так, даражэнькая. Мы, вядома, любім патураць жанчыне. Мы з ёй пагодзімся, што нас цікавіць выключна яе МОСК. Але гэта, безумоўна, хлусня. Ну, калі жанчына выглядае як супрацьтанкавая гаўбіца, то нафіг мне ейны МОСК? Я лепей са сваімі мазгамі застануся. Жанчына павінна быць гарманічнай! Мой ідэал: МОСК + ногі. Але некаторыя хлопцы лічаць, што калі ёсць ногі, дык навошта той МОСК? Самца цяжка перарабіць. Філосафаў сярод нас няшмат. Але ты апранай спадніцу ў гарохі. Яна вельмі табе пасуе. Такія белыя лапкі мусяць упрыгожваць менавіта гарохі. Федзю спадабаецца.

З табакеркі выскачыла не чарцяня — маленькі лысы таўстун з партфелем. Ён азірнуўся. Потым выцягнуў з кішэні насоўку і стаў абціracца ды чмыхаць.

— Ты хто? — запыталі мы таўстуна.

— Я тут мімаходзь, — адказваў таўстун.

— Навошта ты тут?

— Я тут па асабістых справах, — адказваў таўстун.

— Можа, ты ліха, якое нельга будзіць? — не спыняліся мы.

— Я ліхадзей, які ловіць людзей, — адказваў нам падазроны таўстун.

Таўстун нам зусім не падабаўся, мы схапілі яго за каўнер і запхалі назад у табакерку. Ён упарціўся, крахтаў, лаяўся і пляваўся. Табакерку мы закінулі на сервант і адразу пачулі адтуль грукат. Мы парушылі цішыню і стварылі сабе небяспеку ў часе. Хто гэты таўстун? Што гэта за ліха такое? Адкуль і навошта? І за што? Мы не ведалі — толькі маракавалі. Слухалі гадзіннікі.

## 10.

І ўсё ж твой капітанскі мосцік застаўся ў кавярні “Чорны кот”. Тут ты можаш заўсёды пачуваць сябе капітанам Барадой — сапраўдным закарэлым марскім воўкам. Тут заўсёды для цябе знойдзецца кубак з грогам або твой улюбёны ром “Капітан Джэк”.

— Я абышоў усе акіяны і палову мораў, — скажаш ты. І наведнікі кавярні спыняць свае гаворкі і ўтаропяцца ў твой твар. Усе будуць чакаць аповедаў пра піратаў, акул, чорныя выспы і штормы. Абавязкова знойдзецца нехта, хто запытае: “А як там — гарэмы сустракаліся? Га?” І ты згадаеш пра таемную зямлю каля Гавайскіх выспаў, дзе ты трапіў у палон да племені Фулюлю і як там цябе выратавала прыгожая мурынка Касціка. Табе заўсёды нальюць яшчэ. І ты працягнеш гісторыю сваіх вандровак вакол свету.

На матч клубаў "Гаўрыкі" супраць "Пакемонаў" капітан прыходзіў у параднай форме, сядаў на трыбунах і адшпільваў галаву. Гномы акуратна бралі яе за вушы і неслі на футбольнае поле. Гучаў свісток арбітра!.. Гномы ў белым супрацьстаялі гномам у чорным. Галава была за футбольны мяч. З гэтага капітан меў экстрэмальны адпачынак. Галава поўнілася адрэналінам. Такім чынам яна гартавала сілу волі. На полі не шкадавалі экзатычны мяч — гномы білі з усёй моцы. Галава лётала, курлыкала і стагнала: "Ах!.. Вох!.. Ууууу!.. Аааа!.. Ах!.. Вох!.." Потым капітан некалькі тыдняў залечваў фінгалы і кровападцёкі. Выпадковыя сустрэчныя палохаліся капітана, бо выглядаў ён напраўду вельмі неардынарна: галаву ўпрыгожвалі бінты, пластыры і зялёнка.

**11.**

Гэтыя наведванні капітана ператвараліся ў пэўную традыцыю. "У шаблон яны ператвараліся!" — заўважыць нядобразычлівец. Не будзем прыпадабняцца да насарога, як кажа адзін малавядомы філосаф, а працягнем аповед.

Капітан пахропваў у хатнім гамаку. Давялося яго пабудзіць — былі сур'ёзныя пытанні… Капітан, капітан, капіташа, капітоша…

**А)** "VANA TALLIN" — эстонскі лікёр… Ці п'юць яго ў Вентспілсе? Што вы можаце нам распавесці, капітан Барада? Кажуць, што пасля яго перад вачыма пачынаюць лётаць барвовыя ластаўкі? Ці праўда?

**Б)** Упершыню я пакаштаваў яго ў мараходнай вучэльні. Яшчэ за савецкім часам. Як цяпер памятаю, закусвалі яблыкамі. Цудоўныя былі часы. Маладосць. А ўвогуле гэта напой для дзяўчатак, не для марскіх валацугаў. Ластавак барвовых не памятаю, а вось хамячкі былі. Памятаю трох. Ляжалі — не варушыліся. Паздыхалі, мабыць, пасля таго лікёру. Рэкамендую хлопцам дзеля спакусы дзяўчат. П’яніць хутка. Моцны напой. Дзяўчат добра ім спойваць. Ага.

**Кнігарня “Марс”**

А яшчэ ў краме працаваў забойца. Звычайны забойца. Ягоныя пукатыя вочы былі страшныя, і зрэнкі наколвалі на сябе, нібыта мельхіёравыя голкі. Колер вачэй быў балотным, ад таго падавалася, што там жыве брудная жаба. Забойца любіў насіць капялюш, які хаваў ягоны твар, але не хаваў вачэй. Таму пакупнікі пабойваліся гэтага гандляра. У ягоную змену зазвычай наведвальнікаў было мала. Дзеці, пабачыўшы забойцу, крычалі, і маці выбягалі з кнігарні, падхапіўшы сваіх нашчадкаў пад паху. Забойца любіў распавядаць пра тое, як ён любіць котак і самаробную зброю. Пра гэта ён мог распавядаць доўга і са смакам.

## 12.

Мы пілі партвейн, і нам было добра. Мы не замарочваліся пра таемныя сэнсы, не білі сябе ў грудзі, не дзерлі кашулі. Мы адпачывалі. Слухалі вецер і пілі цудоўны салодкі партвейн.

— Мне гэты партвейн нагадвае спякотнае лета, — сказаў я.

— Ліпкае і сонечнае, — сказаў капітан.

— Моцнае і ўлётнае, — сказаў прывід.

— Потым паспрабуй згадай, што рабіў… каго біў, каго цалаваў… — я ўздыхнуў.

Прывід зарагатаў. Я ўсё аніяк не мог яго добра разгледзець, бо ён быў празрыстым, але пры гэтым кагосьці мне нагадваў… Каго? Каго?!! Няўжо? Я ўскрыкнуў:

— Гэта ты?!!

— Я, — спакойна адказаў прывід.

— Сталін, — змрочна прамармытаў капітан.

**А)** Ці апахмяляецеся вы, капітан Барада? Бо ўжыты з вечара ром можа справакаваць галаўны боль ранкам. Бывае, прачнешся пасля ўчорашняй пагулянкі, а ў роце ядзерная зіма, па скронях шпацыруюць нябачныя гімнасты, а цела — што тое бервяно. І гэта не ёсць добра. Кажуць, быццам піва здымае пахмельныя сімптомы… Што скажа на гэты конт прасолены морам прафесіянал?

**Б)** Памятаецца, быў такі расейскі даследчык Пахмелкін, дык ён вельмі не рэкамендаваў ужываць алкаголь да 16 гадзінаў вечара і пасля поўначы, каб алкаголь паспеў выйсці з арганізма да пачатку дня. Бо інакш у крыві застанецца шмат правакатыўнага рэчыва, а гэта наўпроставая дарога да алкагалізму. Таму я рэкамендую піць зранку кефір! Шклянка кефіру, нібы жывы эліксір, — гэта колер першай сняжынкі і смак свежага ветру! Самае галоўнае — не пераблытаць кефір з гарэлкай. Бо тады атрымаецца запой, і нічога добрага з гэтага

не будзе. А будзе ў хаце шмат бярвення, якое для будоўлі зусім непрыдатнае. Хіба распаліць печ…

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**11:34 панядзелак**

Дробс прыгледзеўся: чарвяк быў тлустым і нават, калі так можна сказаць, заможным. Ён быў падобны да сардэлькі, але ў адрозненне ад яе яшчэ і поўзаў.

— Хто ты такі? — запытаўся Дробс, як выхаваны чалавек.

— Я — Аўгуста Пінnetwork, — паведаміў чарвяк.

— Ого, — здзівіўся Дробс. — Няўжо той самы?

— Не, нашмат мацнейшы. Той здзьмуўся, быццам балончык. А я яшчэ ого-го-го! — І чарвяк пераможна напружыўся да малінавага колеру.

— Ну, так, ёсць такое, — пагадзіўся Дробс. — А што вас да нас скіравала?

— Шукаю кнігу "Капітал" Карла Маркса.

— Не можа быць, — яшчэ больш здзівіўся Дробс. — Аднак вы на правільным шляху. Нам якраз учора прынеслі яе ў букіністычны аддзел.

Дробс прынёс кнігу і паклаў побач з чарвяком. Той выпусціў фантанчык сліны і пачаў аблізваць фаліянт.

— Як вам заплаціць? — спытаў чарвяк.

Дробс быў уражаны тым, што адбываецца, таму замахаў рукамі:

— Нічога не трэба! Гэта вам падарунак ад кнігарні! Чытайце на здароўе!

— Дзякуй! — захрыпеў чарвяк і, як п’яўка, прысмактаўся да вокладкі. Потым аднекуль з’явіліся вялікія пластмасавыя крылы і чарвяк разам з кнігай падляцеў да адчыненай форткі і, як перагружаны карабель, ціха вываліўся на вуліцу.

— Да пабачэння! — яшчэ нейкі час гудзела ў паветры.

**13.**

Крывы доўга глядзеў на капітана і ціха насвістваў.

— Кінь дурное, — сказаў Барада.

— Гэта вы пра што? — здзівіўся Крывы. — Гэта вы мне?

— Табе-табе, — пацвердзіў капітан. — Канчай свісцеліць.

— Не зразумеў, — здзівіўся Крывы.

— Ведаеш, ёсць такая прыкмета, — сказаў Барада. — Дома свістаць — грошы губляць.

— А-а-а-а, — працягнуў Крывы, — тады зразумела. Пытанняў няма.

— Спадар Барада, там да вас наведнікі — чакаюць у калідоры, — нагадаў я.

— Клічце! — дазволіў капітан.

**А)** Я нядаўна закахалася ў хлопчыка… Ён такі сімпатычны: з рудой бародкай, у вачах ліхтарыкі і тэрмасы плаваюць, бровы танчаць італьянскія танцы… у вуху кліпса ў выглядзе цмокавай галавы… На руках срэбныя пярсцёнкі, напраўду блізкая мне душа… Ну, прынамсі, так падаецца. Штосьці яднае нас… Магчыма, гэтыя ліхтарыкі і тэрмасы… Мне нават падалося, што мяне

нешта працяла, мо куля якая? Я яму ў нэце напісала: “Гарбата — кароль усіх каралёў…” А ён маўчыць, сабака… Ён што, тупы ці дэбіл? Як вы думаеце, капітан Барада?

**Б)** Трэба было напісаць проста і ўцямна: хадзем на гарбату! А так ён, пэўна, яшчэ абдумвае інфармацыю… Разважае пра каралёў і троны. Раю набыць у сувенірнай краме цацачнага ката. Я памятаю, што ў дзяцінстве майму сябру адна дзяўчынка падарыла цацачнага бегемота… Дык мой сябрук ператварыўся ад радасці ў шчанюка… Так-так, падары гэтаму дэбілу вялізнага штучнага ката — ён тады стане спаніэлем. Упэўнены — на сто адсоткаў. А калі не дапаможа… Запрасі на гарбату і замест цукру падсып яму солі. Яшчэ на сустрэчу мусіць выпадкова завітаць твая маці. Перакананы, гэтае знаёмства падштурхне хлопца да патрэбных словаў. А калі ты яшчэ скажаш, што выдаткі на вяселле будуць агульныя, то — Амін! Кажаш, што і гэта не спрацуе? Тады згадай, што дзесьці ў шафе была бацькава пастка на мядзведзя. Яна спрацуе дакладна!

* * *

— Што думаеш?

— Мяркуючы па швах, працавалі саматужна. Сцяжкі непрафесійныя. І ўвогуле шыя прымацаваная спехам. Па ўсім бачна, што спяшаліся. У версію пра Коза Ностра я не веру.

— Лічыш, працаваў аматар?

— Мо і банда злачынцаў. Тут адразу не зразумець… Будзем думаць…

— Паглядзі, ніткі відавочна набылі ў бліжэйшай краме. Чырвоныя… А тут трэ было белымі шаўковымі. Аніякай павагі да сваёй працы…

— І не кажы…

— Хірургі хрэнавы… Ім бы толькі на гародзе з граблямі поркацца.

Першы бярэ ляльку і падносіць бліжэй да святла. Тая бездапаможна раскідвае бабаўняныя рукі і бяздумна пазірае на даследчыкаў пукатымі маціцовымі вачыма з гузікаў. Першы другому:

— Глядзі-глядзі… Ну, аніякай павагі.

Другі бярэ ў першага ляльку, углядаецца:

— Вельмі кепска. Халтура. Я б такіх уласнымі рукамі…

**14.**

Капітан Барада бавіў час у бары “Чорны кот”, калі з’явіўся ён. Гэта быў дзіўнаваты чалавек. Ягоны твар нагадваў пляцоўку для баскетбола, здавалася, што замест вачэй у яго два карычневыя мячы. Чалавек зняў руды капялюш, усміхнуўся, паказваючы нейкія ненатуральныя зубы, — відаць, яны былі выраблены з фарфору.

— Вы капітан Барада? — запытаўся незнаёмец.

Барада паглядзеў на гадзіннік — было без трох хвілінаў тры гадзіны. Стрэлкі паўзлі маленькімі катвігамі. На цыферблаце быў трохмачтавы срэбраны карабель. І варта дадаць, што гадзіннік не цікаў,

а ціхенька булькаў — вынаходка сучасных майстроў. Нехта яшчэ спрабаваў цешыць не толькі дзяцей, але і бывалых маракоў.

— Да шостага лютага — без трох хвілінаў тры гадзіны, — заўважыў капітан.

— У мяне да вас справа, — сказаў чалавек.

— Слухаю ўважліва, — капітан жэстам прапанаваў прысесці на суседняе крэсла.

— Найперш вы павінны зразумець, — пачаў незнаёмы, — што заўтра ўвечары да вас прыйдуць нашыя людзі. Юнга Калібры трапіў у вельмі непрыемную гісторыю. Яму дапамагчы можаце толькі вы. Але не пытайцеся, што здарылася.

— І як мне на гэта рэагаваць? — здзівіўся капітан.

— Як на дадзенасць. Вы можаце толькі дапамагчы. Падзеі рухаюцца ўжо сваім кірункам, спыніць іх ці запаволіць не ў вашых сілах. Набудзьце на вячэру вэнджанай камбалы — яна супакойвае нервы. А калі яшчэ ў страўнік закінуць куфаль піва, дык атрымаецца зусім выдатна. Поспеху.

Сказаўшы гэта, незнаёмец падняўся. Капітан адпіў рому і заўважыў ля дзвярэй кавярні яшчэ нейкіх падазроных асобаў.

— Я буду заўтра чакаць вашых людзей, — пагадзіўся капітан.

Было адчуванне, што крэветка на талерцы выгнулася, нібыта пацягваючыся пасля сну. “Ну-ну, давай без сюрпрызаў”, — падумаў, ці, хутчэй, папярэдзіў нахабную ружовую крэветку капітан. Відэлец расклаў усё па сваіх месцах. “Хруп!” — і вось ужо крэветка плыве ў хвалях рому.

* * *

— Я сказаў, што не жартую! Мой лоб узмакрэлы — паўзуць макрыцы!

— Бяры макароны і запіхвай станожак у рондаль! — крычыць мне юнга.

— Мой дарагі юнга, ты яшчэ не бачыў трыццаць тры моры і не выпіў трыццаць тры бочкі віскі. Пакінь вусякоў у спакоі.

— Выцягніце гэтае цела на святло! Паглядзіце — сонца пратыкнула яго сваімі прамянямі! Цені засохлі! — крычыць юнга.

— Дурны ты, юнга. Малады і пакуль без пёркаў.

Барада сплюнуў у попельніцу. Плявок зашыпеў, нібыта на патэльні. Заскварчэў, быццам скварка. І Барада адчуў сябе цмокам.

**15.**

Выратавання не было. Здавалася, што нехта гуляе ў падазроную гульню, дзе няма пераможцаў.

**А)** А што мне рабіць з катом Фердынандам? Я месяц таму падабраў на вуліцы чорнае кацяня — маленькае такое… Выглядала цацачным… плюшавым. І вось месяц мінае, і кацяня ператвараецца ў вялізнага ката — што тая свіння… Уяўляеце, калі па кватэры такое шматкілаграмовае скача? Што цяпер рабіць, нават і не ведаю… Падкажыце, капітан Барада.

**Б)** Складаная сітуацыя. Зноў гэтыя кацяры… распладзіліся. Але нешта трэба прыдумаць. Павінна быць выйсце.

Мардаванне голадам можа выклікаць непрыхаваную агрэсію. Хіба ў клетку пасадзіць драпежніка? Хаця гэта, вядома, зусім не гуманна. Ці завесці бультэр'ера? Парве як тузіка. Але ж таксама нібыта не гуманна… Што ж зрабіць?.. Вось, прыйшла нечаканая ідэя — падары Фердынанда ворагу! Падары мастаку Шышкіну — няхай вострыць свае кіпцюры аб ягоныя палотны! Так, гэта самае лепшае выйсце!

**16.**

"Родзім, заходзь, — усцешыўся я. — Усе даўно засумавалі. Нам не хапае тваёй юначай весялосці. Варта пагрукаць у той рондаль, што цябе чакае, і распавесці нам казку пра белага бычка".

Родзім усміхнуўся бяззубым ротам. Юначай весялосцю і не патыхала.

"Я цяпер даследую Максіма Багдановіча, — прызнаўся Родзім. — Працую на нашую культурную спадчыну".

"Дык ты і сам культурная спадчына, — заўважыў я. — Пры чым тут Максім?"

"Увогуле мне даспадобы кулямёт Максім", — прызнаўся Родзім.

"З гэтага і трэба было пачынаць", — сказаў я.

"Гэй, — крыкнуў нам Барада. — Тут мой прыём! Прэч!!!"

**А)** Што рабіць, калі на вуліцы завея, а на душы, як кажуць у народзе, шкрабуцца кацяры? Каханне сышло, шэф на працы азвярэў, душ зламаўся, тараканы паздыхалі… Што рабіць у гэтай сітуацыі, капітан Барада?

**Б)** Трымацца! Можна напісаць партрэт з тварам непрыемнага табе чалавека, а карціну выставіць замест мішэні. Вельмі добра шпурляць у ворага ножыкі і відэльцы. Завея і маркота знікнуць, нібыта страшны сон. Запі ўсё гарбатай, згрызі цукерку і пачынай думаць пра дабрыню.

**17.**

Дэкарацыі абвальваліся. Цацкі падалі са сцэны. На кухні я варыў малінавае варэнне. Я размешваў ягаду з цукрам і глядзеў, як ствараецца цудадзейная пена. Водар мяне ўзрушаў, і я пераносіўся кудысьці за горад… падаў у траву тварам і захлынаўся ад асалоды… І слухаў галасы прыдуманых герояў.

**Капітан Барада падумаў і занатаваў:**

**1.)** калі выпіваеш першы кілішак, ты яшчэ адэкватны. Твае паводзіны пакуль не палохаюць прысутных. Зазвычай з новымі людзьмі выпіваеш за знаёмства і сяброўства паміж народамі. Самае галоўнае, каб той кілішак натхняў. Гарэлачку пад цытрынку ці агурок, каньяк пад шакаладку. Глядзіш, і неўзабаве месяц над галавой ператварыцца ў кругляк галандскага сыру;

**2.)** калі выпіваеш другі кілішак — вока пачынае свяціцца вясёлым ліхтарыкам. На твары з’яўляецца глупая ўсмешка. Гэта кажа пра тое, што працэс пайшоў. Адразу згадваецца… тост “Яхада”! Але істотна, каб да гарэлачкі былі селядзец ці катлета, а да каньяку — шклянка халоднага яблычнага соку. Вось ужо і карагоды празрыстых людзей танчаць вакол цябе;

І салёны грузд выскачыў на талерку ды прызыўна захрумсцеў капелюшом.

**3.)** трэці кілішак зазвычай выпіваецца за каханне! Каб душа разлеглася на ложку. За гэта можна і шампанскага сербануць. Бурбалкі надзейна прышпільваюць цябе да нафарбаваных вуснаў невядомай дзяўчыны. Самае галоўнае — прачнуцца ў патрэбны момант і не забыцца на ананасы і кавуны. Закусвай, і тады не згубішся ў прасторы часу;

**4.)** чацвёрты кілішак — за бацькоў!

**5.)** пяты кілішак — “Будзьма”!

Прыгледзься да яго. Гэтая запацелая чарка. Кожны глыток — нібыта цябе абдымае гарачы акіян. У грудзях б’ецца вецер. І ты ўздымаеш угору кулак і непераможна абвяшчаеш сябрам: “Будзьма!”

Грукат і дзынькanne чарак. Месяц запальваецца на сталі. Жырандоля выпучваецца якарам. Карціны на сценах усміхаюцца спелымі яблыкамі. Гномы высоўваюцца з шафаў і радасна махаюць рукамі. Дамавік бяжыць па стале, хіхікае і раскідвае ботамі маласольныя агуркі.

Астатнія тосты лепш не згадваць. Бо пачнеш успамінаць свой стан на раніцу.

Па вялікім рахунку, кілішкаў шмат не бывае. Бываюць кілішкі ўдалыя і не вельмі. Бывае “цяжкая рука” — гэта

пасля якой алкаголь, як кажуць, “не пайшоў”. А ўвогуле наш чалавек гатовы і лёд грызці, калі ад яго будзе эфект, як ад “першаку”.

* * *

Зброя страляла не кулямі — з аўтамата вылятаў кілішкі з вадкасцю розных колераў. Кілішкі шапталі, усміхаліся і шыхтаваліся. Вадкасць дымілася, і адтуль выпаўзалі белыя тлустыя чарвякі, ад якіх падымалася пара. Чарвякі распухалі да саспелых бананаў, чырванелі і ператвараліся ў ружовашчокіх гномаў. І вось самы вялікі гном закрычаў: “Мутабор!” Усе гномы падхапілі: “Мутабор!” У сполахах навальніцы паветра задымілася і з’явілася Нешта. Гэтае Нешта было крывым, вялікім і чорным. Дым развеяўся — з’явіўся мужык у лапцях, у кажуху, з вялікай барадой, які раптам заспяваў: “Цудоўнае далёка — не будзь ка мне жастока! Цудоўнае далёка! Цудоўнае далёка!”

**18.**

— Усім пашыхтавацца! Зараз будзем выкрываць ворагаў беларушчыны! — крыкнуў генерал.

Морква, бульба, буракі — усе пашыхтаваліся. Дрыжаць, баяцца генерала. Толькі кавун-здраднік не слухаецца, ляжыць на ўзгорку, усміхаецца і пляваць яму на ўсіх.

— Устаць! — зароў на яго генерал.

— Пшоў да такой-та маці, — абазваўся кавун і зацягнуў песню: “Сабралася бедна басота ды гарэлку п’е!!!”

**А)** Як жа вы варыце яйкі, капітан Барада… Хто ж іх варыць разам з бульбай? Яны ж будуць сінія, як нябожчыкі… Не шкадуеце свайго здароўя… Зрабілі б сабе зупкі… Цела, яно не вечнае… Капусткі, гуркоў бы паелі… Душыцеся адной варанай бульбай і яйкамі ды яшчэ маянэзу і кетчупу да іх без меры… Нядобра гэта ўсё — так нельга.

**Б)** Што праўда, да яек я стаўлюся без належнай павагі. Толькі яны хоць сінія, хоць жоўтыя, але ператравяцца ў маім страўніку з вялікай ахвотай. Згадваю, як у дзяцінстве мы каталі яйкі ў лунку… Некаторыя прафесіяналы выйгравалі цэлымі вёдрамі. От былі часы! Жоўтыя і сінія, пратухлыя і свежыя — гэтак па-майстэрску лёталі над чырвоным полем. Гэх.

**19.**

Капітан Барада любіў у нядзелю наведваць рынак у Вентспілсе, гэта той, што знаходзіцца недалёка ад ратушы. Ну, там, дзе з брукаванкі вытыркаецца літаратурны помнік — закасцянелыя пёры. Тут ён адчуваў сябе марской кірляй. Прынамсі, нечым да яе падобным. Ён абтрасаў свой сіні кіцель, нібы крылы, надзімаў грудзі і нізка пралятаў паміж гандлёвых радоў, палохаючы патэнцыйных пакупнікоў. А паглядзець было на што. Як казаў сам капітан: “Рынак уражвае сваёй шматслойнасцю — гэта ж пірог. Адзін слой мясны, другі ягадны, трэці тварожны. Смак, як пасля добрай закусі пад гарэлку”. Але больш за ўсё капітану падабаўся марскі краявід з незлічонай колькасцю вылаўленых ратоў. Ён размяшчаўся ў драўлянай,

ледзь заўважнай прыбудове (на самым ускрайку рынку). Разнастайнасць прадстаўленага тут была неверагодная: ад скумбрыі, траскі, камбалы да сапраўднай вэнджанай акулы.

А гандляры на рынку — гэта ж песня! Капітану вельмі падабалася гутарыць з дзядзькамі, якія гандлявалі бульбай. Складвалася ўражанне, што і яны растуць гэтаксама, як бульба. Былі дзядзькі ў сваёй большасці круглыя і зямлістага колеру. Добрыя вясковыя вочы. Калі перадаеш яму грошы — здаецца, што кідаеш у зямлю зерне. Каб урадзілася.

* * *

— Па чым вашыя вочы? — наўпрост запытаўся малады чалавек у чорных акулярах.

Гандлярка — тоўстая ружовашчокая цётка — успрыняла гэта як жарт ці як пэўнае заляцанне. Заўсміхалася. Пачала міжволі папраўляць валасы:

— А можа, бульбачкі ці агуркоў? — І паказала тавар. Тут сапраўды было на што паглядзець!.. Капуста марынаваная, часнык, цыбуля, буракі, агуркі, бульба і г. д.

— Не, — сур’ёзна настойваў малады чалавек. — Мне патрэбныя толькі вашыя вочы.

Гандлярка засмяялася, вочы заблішчэлі:

— А колькі прапануеш?

— Па сто еўра за штуку, — сур’ёзна заявіў малады чалавек.

— А ты што, не мясцовы? Можа, і мяне з сабой забярэш? — працягвала какетнічаць жанчына.

— Не, не мясцовы, але вас з сабой не забяру. Патрэбныя толькі вочы.

— Ну, добра, — махнула жанчына жартаўлівай рукой і засмяялася. — Калі такі настойлівы, забірай па сто — за штуку.

На рынку ў такі час шматлюдна, і таму на гэты дыялог аніхто не звярнуў увагі.

Тым часам малады чалавек выцягнуў гаманец і адлічыў дзве купюры па 100 еўра. Гандлярка выталупіла вочы і прашаптала спалохана: “Ты што, усурʼёз?.. Не трэба мне тваіх грошай... Не трэба...” Але малады чалавек, адлічыўшы купюры, сказаў: “Дзякуй. Забяром сваё ў свой час!” І знік. Гандлярка пачала спалохана азірацца і злашчасныя купюры спачатку схапіла і прыціснула моцна да сябе, а потым з жахам адкінула, як нешта атрутнае ды гідкае. І ціха заскуголіла. Суседзі-гандляры пазіралі на яе дзіўныя паводзіны з непаразуменнем: “Што здарылася, суседка?”

**20.**

Я прачнуўся ўначы ад святла, якое біла наўпрост у вочы. Невядомы стаяў нада мной і сляпіў моцным ліхтаром. Я паспрабаваў закрыць вочы рукой.

— Хопіць! — крыкнуў. — Хопіць! Не трэба больш!

Праз імгненне адчуў моцны ўдар. Скурчыўся ад болю і стаў задыхацца.

— Спыняй свае гульні з кнігарнямі, — сказаў грубы голас. — Пакінь капітана ў спакоі. Ты сваё адгуляў. Табе трэба адпачыць.

**А)** Нядаўна зялёнае дзяўчо выклала ў нэце два фота з адным чалавекам. На адным ён вельмі тоўсты і стаіць

каля горада, пабудаванага з гральных картаў, на другім — худы, спартовы, а побач невялікі дамок з такіх жа картаў. Побач з фотаздымкамі яна змясціла наступны надпіс: "Выдаткоўвай час на сябе, а не на ўсялякае глупства!" Як вы пракаментуеце гэта, капітан Барада?

**Б)** Я — за таўстуна! Тлушч — гэта святое! Згадваецца, што з кітовага тлушчу некалі рабілі цудоўныя свечкі! Так і ўяўляю гральныя карты ў выглядзе агністых светлякоў!..

**21.**

Капітан Барада любіў гэты порт. Тут заўсёды ў вялікім мностве швартаваліся не толькі караблі, але і чародкі качак. Лёталі кірлі. У гэтым месцы моцна пахла рыбіным тлушчам. Тут можна было раскладаць святло на чорныя і белыя палоскі. Падчас гэтага занятку ў галаву капітана прыходзілі лекары ў накрухмаленых белых халатах і пачыналі пастукваць прабіркамі ды шпрыцамі. Зазвычай яны ў час гэтай незразумелай працэдуры ўсміхаліся і казалі: "Чыыыыыыз!"

Вы што — спаць нельга! Жыццё міне незаўважна. Традыцыя вячэры: бульба + куранё + квас, потым гарбата + булачкі, шакаладкі... Тэлевізар + тэ-ле + сон мусіць адсунуцца як надалей. Лесам! Гарамі! Палямі! Рэкамі і балотамі! Нафіг! Сказаць, што гэта нездаровы лад жыцця, — значыць не сказаць анічога. Справа не ў здаровасці — справа ў шкоднасці! Нават не для здароўя — для псіхікі! Жыццё імкліва мінае, а люстэркі на сценах

застаюцца тымі самымі, толькі адбіткі ў іх змяняюцца. (Бачыш? Што там за дзядок-гномік з сівой барадой, у акулярах? Усміхаецца бяззубым ротам? Весела, пэўна, яму?) Не магу сказаць, што гэта ненармальна — гэта супер, але лепш гэтых люстэркаў наогул не бачыць. Заплечнік — з кладоўкі, ногі — у кеды і наперад! Пехатой, роварам, аўтамабілем, самалётам, цягніком! (Толькі не інвалідным вазком!) Неба + вецер + птушкі, магчыма, каханая пад пахай (калі такая ёсць) — і наперад... Нават калі там самы смярдзючы ў горадзе бар. Ужо весела.

**22.**

Да мяне нахілілася крытыкеса і, пырскаючы слінай у твар, злосна засіпела:

“Ды што тут? Нон-фікшн, гэтак званыя п’яныя прыгоды ў натуральную велічыню? Ці гэта хворая фантазія дзеўбанутага паэта? Што тут, у цябе пытаюся?!! Мне пературмачваць тваё брыдоцце ну зусім няма жадання. Прызнавайся сам, і тады абяцаю: забойства будзе ціхім і не вельмі балючым!”

“Тут уся праўда! Я нідзе не схлусіў і напісаў пра вас усё, што думаю! Вы цвіль, якую трэба знішчаць! І з вамі гандляваца я не буду! Пайшла прэч!”

Крытыкеса мацюкнулася. У гэты момант якраз падышоў капітан Барада. Мы павіталіся. Крытыкеса скрывілася і выбегла.

Сёння на прыём да капітана Барады была чарга. Маладая дзяўчына чырванела, калі задавала пытанні.

**А)** А ці ёсць яно — каханне, дзядзька Барада? Можа, гэта мыльная бурбалка? Міф, прыдуманы кімсьці з далёкіх продкаў? Мне падаецца, што можна пакахаць кожнага… Згадайце, як у даўнейшыя часы зялёных дзяўчат выдавалі замуж за старпёраў… І што? Досыць часта атрымліваліся шчаслівыя шлюбы, бо дзяўчаты праз пэўны час пачыналі кахаць сваіх дзядуляў… Вось як…

**Б)** Не, даражэнькая! Ёсць яно! Калі самец у полі арэ і косіць, дык у нейкі момант з'яўляецца яна — мадонна! І падае яму збан халоднага малака. Бывае, і чарку самагонкі прапануе. Усяляк бывае… А здараецца, пакладзе, як дзіцятка, у калыску нямоглага і цягне па гарах, нібы куфар з золатам. Хіба гэта не яно? Каханне… Няхай часам і драпежнае, але шчырае, светлае і празрыстае, нібы тая душа пасля пахмелля. Усяляк бывае…

**кнігарня Марс**
**15:00 серада**

Волма ганялася за Карлсанам з выбівалкай. Караліна бегала з сачком за Пінокіа. А ў гэты самы час у кнігарню завітаў пакупнік — пажылы мужчына. Ён незадаволена назіраў за мітуснёй:

— Я туды трапіў? Тут кнігарня? Ці гэта дзіцячы садок?

— Гэта кнігарня! — крыкнула Волма. — У нас сёння ўвечары прэзентацыя кнігі для дзяцей, але непамыснасць атрымалася!!! Дробс няўдала змяшаў малочныя кактэйлі, і героі кніг пачалі разбягацца!.. Заходзьце! Заходзьце! Не саромейцеся!

Мужчына шморгнуў носам, выцягнуў з кішэні хустачку і выцер мокры лоб:

— Мне, калі ласка, што-кольвек пра Шэрлака Холмса.

У гэты момант Карлсан выслізнуў з-пад рук Волмы і з радасным зыкам прапелера прызямліўся каля наведніка:

— Добры дзень! — павітаўся ён. — У нас тут тысячы холмсаў і ватсаных!.. Можа, чагосьці больш арыгінальнага?

— Хм, — хмыкнуў мужчына. — Напрыклад?

— Магу прапанаваць кнігу "Карлсан на даху"! Самая лепшая і самая праўдзівая кніга тысячагоддзя!

— Гэта ж для дзяцей, — скрывіўся мужчына. — Мне чагосьці больш сур'ёзнага. Больш драматычнага.

— Ну, тады бярыце пра Пінокіа. Больш драматычнага і не прыдумаеш! Самы драматычны з найдраматычнейшых персанажаў тысячагоддзя!

Наведнік закашляўся:

— Не, не тое — мне для дзяцей не трэба.

У гэты момант Волма падкралася да Карлсана і накінула чароўную серабрыстую сетку. Карлсан знік.

— Прабачце, дык што вам прапанаваць?

— Мне, — раззлавана гыркнуў мужчына, — нешта драматычнае! Я ўжо казаў вашаму супрацоўніку!

— Прабачце, — загадкава ўсміхнулася Волма. — Гэта быў не зусім супрацоўнік. Я зразумела. Кніга пра рабыню Ізаўру вам пасуе?

— Якая яшчэ Ізаўра?! — ашалеў наведнік.

— Рабыня, — спакойна патлумачыла Волма.

— Не! — заенчыў мужчына. — Можа, у вас ёсць нешта пра Шэрлака Холмса?!!

— Так бы адразу і сказалі, — упікнула Волма і прынесла кнігу “Знак чатырох”.

— Дзякуй! — агрызнуўся пакупнік, расплаціўся і выбег з кнігарні, нібы яго апяклі кіпенем.

— Заходзьце яшчэ! — пракрычала наўздагон Волма.

**23.**

Дождж супакойвае нервы. Добра сядзець дома і слухаць, як кроплі барабаняць па шыбах. Ты слухаеш дробат і думаеш пра жыццё. У такія моманты адчуваеш сябе абароненым ад варожага свету. Нібыта дождж змыў усіх ворагаў і ўвогуле ўвесь негатыў. Сядзіш, цэдзіш з келіха ром, малюеш у галаве партрэт чароўнай незнаёмкі. Джаконду новага часу. Дождж — Джаконда — ром “Пірат Джон”. Цудоўна.

* * *

Тут згадаўся Войцэх Смажоўскі з прапагандысцкім фільмам “Пад моцным анёлам” для алкаголікаў існых і мінулых. Кадры кружлялі, быццам карусель. Бутэлькі грукалі і пырскаліся. Не — не пераадолеў польскі рэжысёр народную смагу. Ён паказаў блявоціну, ён забляваў гледача. Але ў чым быў сэнс гэтага фільма? Заблявацць? Тады, здаецца, атрымалася. Я выпіў за здароўе героя фільма Войцэха Смажоўскага. Трымайся, калега!

— Трымайся, калега! — адказаў мне сіплым голасам герой фільма.

Я паглядзеў на ягоныя баявыя раны, на абасцаныя штаны і… І выпіў яшчэ. “За здароўе пана!”

— За здароўе спадара! — адказаў мне герой фільма і ўсміхнуўся пакамечаным ротам.

**24.**

Я спадзяюся, вы разумееце, пра што гаворка. Не, плыні свядомасці тут няма. Гэта мае выпеставаныя думкі; развагі пра сутнасць чалавека — пра ягоныя хібы і поспехі.

На падваконні ў сонечных прамянях свяціліся кактусы. Здавалася, што яны перашэптваюцца.

Капітан Барада сядзеў пад вялікім пірацкім сцягам. Гэткі антураж яму быў вельмі даспадобы. Ён любіў выпендрывацца. На капітане была марская цяльняшка — сінія палоскі рабілі капітана нейкім сюррэалістычным. Ён папыхваў люлькай і сёрбаў з кубка квас. Надыходзіў час адказу на вашыя пытанні.

**А)** Што рабіць, капітан Барада, калі жанчына кепска разумее жарты? Ты ёй жартам: "У кожнага чалавека мусіць быць сакрэт". Яна ў адказ: "Сволач, кажы, хто яна!" Ты пачынаеш тлумачыць, што, маўляў, у кожнага чалавека мусіць быць маленькая таямніца. Згадваеш песеньку з мульціка пра "сакрэт у маленькай кампаніі". Яна ў адказ: "Сволач, што за кампанія?!!" Ты ёй: "Я ж фігуральна"…

**Б)** Галоўнае — не губляць пільнасць. Гэта як у шторм. Тут варта ўзважваць кожнае слова. З усяго відаць, што самка займаецца дрэсіроўкай самца. Як кажа мой сябра матрос Марэйна: "Палец у рот не кладзі — адкусіць". Што тут яшчэ параіць? Жартуйце! Жартуйце! Толькі не забывайцеся на качалкі, талеркі, прасы, выбівалкі, чарпакі — яны могуць у руках жанчыны быць галоўным аргументам. Самае небяспечнае — патэльня! Яна ў ма-

ленькіх пяшчотных ручках жанчыны ператвараецца ў магутную зброю. Каб супакоіць самку, старайцеся абыходзіць тэму сакрэтаў — хавайце іх глыбока, на самае дно хатняга куфра. А калі раптам ляпнулі нешта пра сакрэцік — пажартавалі дык пажартавалі, — тады трэба хлусіць! Пра таемнага караеда, што быў выпадкова распнуты вашым ботам. Пра карася, што сарваўся з кручка! Сакрэтаў заўсёды хапае! Некаторымі можна і падзяліцца. А ўвогуле — не гуляйцеся ў хованкі з раўнівіцамі, бо ад жартаўніка могуць застацца адно нос і вушы.

**25.**

— Дзядзька Барада, вы такі ўвесь насычаны ветрам і морам… Здаецца, што вашая душа падобная да аблачыны і набрыняла медавухай…

— Ужо адчуваеш, што цела ператвараецца ў катлету. Усе гэтыя мае ўлюбёныя напоі перанасыцілі цела… Прамокла душа. Змакрэлі пачуцці… Згадваецца, як у Францыі падвешваюць за галаву гусь і гвалтоўна залiваюць у ейную дзюбу віно… Адчуваю сябе фуагра…

* * *

— Ну, давай — здымай галаву. Трэба абмеркаваць падзеі апошніх месяцаў.

Барада прыціскае рукі да вушэй, напружваецца, крэхча і з трэскам аддзірае галаву ад шыі. Потым кладзе яе на стол побач з настольнай лямпай.

— Прывітанне, галава! Даўно не бачыліся.

— Вітаю! Так, неяк даўнавата.

**26.**

Дзеці, дзеці… Калі падумаць, гэта мой дзень. Жыццё знікае — а гэты дзень мой. Адразу згадаўся Джэймс Джойс і ягоны “Уліс”. Пясняр аднаго дня!

Мой дзень. Я хачу яго запомніць менавіта такім. Піўным. Пенным. Чорным з бурбалкамі, калі глядзець праз шкло куфля. З пахам аржанога хлеба, калі носам прасвідраваць белую пену. Мы штодня з нечым змагаемся. Кудысьці бяжым. А навошта?

Мяне натхняе гэтая потная халодная бутэлька піва. Я шкрабу пазногцем яе залацістую этыкетку. Выводжу на шкле неверагодныя іерогліфы. Думаю, што алкашы ў нечым лепшыя за цвярознікаў.

— Гэх! Даць выспятка гэтаму тэксту! Каб ён паляцеў да аблокаў! Каб раскарачыўся там у позе лотаса!

**27.**

Капітан Барада памацаў скроні. Пракашляўся. Пачухаў за вухам. І загнусавіў:

— *Зараз я праспяваю табе калыханку, даражэнькая. Да-ра-жэнь-каааааяя!.. Падрыхту-уууўйся!.. Гэтыя сло-вы не для нервоооо-в-ыыых…*

*Людзі — звяры! Звяры — людзі! Людзі — звяры! Звяры — людзі! Кашалоты-кракадзілы! Кашалоты-кракадзілы! У пашчы таго і ў пашчы гэтага! Каб толькі зубы не ба-ле-лі! Кракадзілы і гарылы! Акулы і ваўкі!*

*У пашчы таго і ў пашчы гэтага! Каб толькі зу-у-у-у-у-бы не ба-ле-лiiii!..*

Капітан Барада пракашляўся. І працягнуў:

*Навошта мне есці таго пушысціка? Я-я-я-я цябе з’е-е-е-ем! Людажэры — гэта шчырыя людзі-звяры. Звяры, якія не ядуць сваіх, не шчырыя! Гэта не звяры! Гэта не звяры! Гэта варожыя істоты! Гэта людзі-навалач! У-у-у-у-у-у-у-у-у!!! Каб толькі зууууу-бы не ба-ле-лі!*

Скроні нагадвалі кухонную плітку — белыя блішчастыя кубікі. Здавалася, што побач стаіць рамонтнік са шпатлем. Капітан памасіраваў плітку, краны пусцілі халодную ваду. І адразу ў ракавіну змыла тузін успамінаў.

Праляцеў аэраплан. Лётчык у акулярах высунуўся з-пад шкла кабіны і памахаў капітану Барадзе.

* * *

Я прачнуўся на пляжы. На мяне зверху пазіраў капітан Барада.

— Дзе я? — запытаўся я.

— Ты доўга спаў, — сказаў капітан Барада і выпусціў з рота клуб цыгарэтнага дыму.

— Так, ён дрых як сурок, — сказаў другі капітан Барада, што стаяў справа.

— У сне ён мармытаў, — сказаў трэці капітан Барада, ён стаяў злева за першым.

— Хто вы? — здзівіўся я. — Нешта вас зашмат.

— Нас? — здзівіўся першы. — Я тут адзін.

— І я адзін, — сказаў другі.

— І я адзін, — сказаў трэці.

Я сеў — галава расколвалася.

— Гэта ў цябе галюцынацыі, — сказаў першы.

— Піць менш трэба, — сказаў другі.

— А закусваць больш, — дадаў трэці.

Я паглядзеў на капітанаў. Усё падцягнутыя — такія бравыя вайскоўцы. Мітусяцца. Нешта балбочуць сабе пад нос. Няўжо прывіды?

**28.**

Муза мая квадратная! У тым сэнсе, што паходзіць яна ад квадраголікаў.

я выпаў з акна пад вечар, калі сонца было ў кішэні. Ад гэтага мае нагавіцы засвяціліся жоўтым. Я заспяваў: “Ты мне казала, што люблю я сала!” Па дарозе мне сустрэўся сусед з трэцяга паверха, з якім мы абмеркавалі апошнія міжнародныя навіны і выпілі баржому. Потым сусед са словамі “Мне — на лецішча” пакінуў мяне. Я працягнуў свой палёт. З нейкага акна выцягнулася жаночая рука і прапанавала талерку баршчу. Я з радасцю пагадзіўся, і жанчына, гадоў пяцідзесяці, засвяцілася кветкай. Я ўжо думаў пра сустрэчу з зямлёй, як раптам зразумеў, што рабіць. Выцягнуў з кішэні сонца, і яно, быццам магніт ці паветраны шар, падкінула мяне да самага сіняга неба! Зверху пракрычаў: “Тут файна — падымайцеся да мяне! Хопіць поўзаць па зямлі, быццам чарвякі! Тут можна паплаваць у аблоках і згуляць у нябёсны футбол!”

**А ў гэтыя самыя хвіліны…**
**кнігарня “Марс”.**
**Пад аблокамі чытання.**

Дробс ператварыўся ў злоснага патлатага чувака. Ягоны рот набыў абрысы драпежнай рыбіны, з якой вывальваліся рознакаляровыя зубы, што патыхалі гноем. Гандляр стукаў па клавіятуры, як па клавішах фартэпіяна. Раптам у краму завітала наведніца, якая паведаміла:

— Я — дзіцячая пісьменніца! Вы ж мяне памятаеце?

І, не чакаючы адказу, працягнула:

— Я толькі што прыляцела з Амстэрдама. Мне сёння вельмі самотна. Мяне адзін казёл не пазнаў.

Дробс выплюнуў чарговы зуб.

Дзіцячая пісьменніца, фарбаваная пад бландынку, ад нечаканасці заціхла, выпучыла празрыстыя вочы, выгнула вышчыпаныя бровы.

— Што вы сказалі? — заверашчала пісьменніца.

— Вам чаго не хапае? — спытаўся Дробс. — Што вам прапанаваць?

— Маю кнігу! — запатрабавала дзіцячая пісьменніца.

— Вашу? — здзівіўся Дробс. — Тут усе нашыя.

— У сэнсе майго аўтарства! — абурылася пісьменніца.

— Пра што? Пра што? — булькнуў бяззубым ротам Дробс.

— Пра бараноў!

— Каго-каго?..

— Ты што, баран?!! — раз’юшылася дзіцячая пісьменніца.

## 29.

Чатыры малаткі, нібыта сонечныя прамяні. Галасы. Чат у галаве развальваўся на сцяжынкі і палосы. Восы джалілі розум, і ў руках скакала не стопка — навязлівая кропка.

— Дзядзька Барада, а ты думаеш пра смерць? Я думаю кожны дзень, і мне страшна… А раптам метэарыт зваліцца на галаву, што тады?

— Зваліцца — значыць, лёс такі. Але я веру, што пайду на корм рыбам. Вельмі хачу, каб мяне пасля смерці кінулі ў ваду. Там быў усё жыццё — туды і жадаю сысці. А што, па вялікім рахунку, думаць пра кашчастую? Няма чаго. Мы яе пад метэарыт падкладзем, а самі яшчэ пажывем.

у прынцыпе, усё было лагічным. Нават той вялікі кот, што разявіў сваю пашчу. Я глядзеў на ката. Ён мне падаваўся мутантам. У ката была маленькая залацістая карона. І яшчэ мне здавалася, што з ягонай пашчы моцна патыхае гнілымі памідорамі. Кот-мутант ляжаў на ружовашчокім кіліме і вузіў вочы:

— Дзень сышоў, — сказаў кот. — Варта плаціць паводле рахункаў. Ці што ты там сабе думаеш? Табе дапамагчы скочыць у ваду?

Дзядзька Барада, дзядзька Барада… Не выпраўляешся ты.

**30.**

— Барада, адкрывай рот!

— Навошта?

— Адкрывай, кажу! Трэба. Зубы будзем правяраць. Выцягнем парачку гнілых.

— Э-э-э — не. Не трэба. Мне і так не кепска пачуваецца.

— Барада, трэба. Не супраціўляйся. Сёння дрэннае надвор'е, таму падарожжа да стаматолага — гэта добры адпачынак. Пальцы ў рот — адчуеш набліжэнне апетыту і будзеш захлынацца слінай. Не супраціўляйся.

— Я, калі бачу стаматолага, думаю, што сустрэў унікальнага чалавека. Ён жа пракладае тунэлі, будуе масты і магістралі. Ён шахцёр і бетоншчык. Ён рамонтнік нашых душаў. Але чамусьці я не хачу рамантавацца. Мне падабаюцца мае зруйнаваныя бастыёны, я прыхільнік даўніны, я — супраць рэканструкцыі. Я — за культурныя каштоўнасці.

— А я лічу сябе сантэхнікам, — усміхнуўся лекар белымі зубамі. — Калі бачыш такі забруджаны рот — іншых думак не ўзнікае. Перада мной каналізацыя. Я б яшчэ дадаў: кландайк лайна.

— Сумна.

— Гэй, гнілыя зубы! — скамандаваў стаматолаг. — Пайшлі з рота прэч!

Зубы з лёгкім цмоканнем пачалі выскокваць з рота капітана. Гэта было феерычнае відовішча. Стаматолаг анічога не рабіў, толькі, быццам дырыжор, махаў рукамі. А зубы самі выляталі і склад-

валіся на металёвай талерачцы ў раўнюткі чорны квадрат.

— Вось ён, супрэматызм! — весела сказаў стаматолаг.

**0.0.0.**

Барада захістаўся і рассыпаўся. Я не стрымаўся і пачаў яго збіраць ды складваць, нібыта пазл. Вось нос, вока, яшчэ вока, вуха з завушніцай, яшчэ вуха... Палец... Што гэта за палец? Мабыць, ад левай нагі. Так. Гэта што? Пупок. Так, тут прапускаем... Не для нервовых людзей. А гэта? Што гэта ўвогуле такое чырвоненькае? Нейкі чарвяк. Так. Што там далей? Корцік, фуражка. Здаецца, нешта атрымалася.

Я адышоў на некалькі метраў і агледзеў складзенага з фрагментаў капітана. Хоць цяпер на карабель і ў шторм! Сапраўдны герой.

Капітан заўсміхаўся. Атрымалася трохі крывавата. Але ён сам залез рукой у рот і паправіў сківіцу. Стала адразу лепей.

— Ну-с, — сказаў я. — Вы мяне здзіўляеце сваёй жыццёвай сілай. Вашая прага да жыцця перамагае ўсе буры.

— Дзякуй, мне таксама так падаецца. Неяк дыхаць стала лягчэй, — пагадзіўся капітан. — Учора кашляў крывёй і ўжо пачаў думаць пра самае горшае. Цяпер адчуваю, што рушыў на папраўку.

* * *

Раптам паветра закіпела. Абрынулася на патэльню сонца. Заенчыў хворы воўк. Выйшаў з лесу раскудлачаны вецер. І ў святле святлафораў мы запыталі сакраментальнае: “Хрэн заморскі, што ты тут робіш?” Спадар Заморскі не адказваў, маўчаў і злосна размінаў рукі. Потым усё ж прызнаўся: “Я тут дыверсіі правакую. Рыхтую збройнае паўстанне. Спадзяюся на кнігагандлёвую падтрымку. Вось так, гаўрыкі”.

Чалавек бег. Дрэвы праносіліся, нібыта чорныя цені. Змрок напаўзаў хмарай. Дзень заціхаў. Чалавек бег, бо за ім гналіся. Чуліся крыкі. Ракаталі верталёты.

Ці атрымаецца? Ці можна ўвогуле збегчы? Гэта рытарычнае пытанне. Бо відавочна, што збегчы ад сябе немагчыма. І ўсе гэтыя ўцёкі — адно аптычны падман. Мроі і рэальнасць — вельмі розныя рэчы.

Дзень. Яшчэ адзін. Чарада. Яны бягуць, спяшаюцца. За імі не паспець.

* * *

Я падумаў. Падумала галава. Падумаў капітан. Падумаў Рыгор Каваль. Зваліўся зверху аэраплан. Ружовы грэйпфрут.

Я сказаў, ці, хутчэй, прагудзеў у мікрафон скафандра:

— Галава тут не патрэбная. Капітану тут таксама не месца. А Рыгор Каваль — гэта ўвогуле хто такі? Што вы тут усе робіце? Гэта што за натоўп?!! Што вам ад мяне трэба? І скажыце, калі ласка, хіба грэйпфруты падаюць з неба?

Голас бухгалтаркі праз навушнікі: “Я ўсё разумею!.. Але што за кніжка такая «Імгненне бясконцасці»? Хто ведае?..”

Я шэптам: “Валянціна Іванаўна, праходзьце… Праходзьце… Не затрымлівайце сюжэтную хаду…”

Голас бухгалтаркі: “Я ўсё разумею!.. Але што гэта за кніга такая — «Рок пасля сняданку з парсючка»? Хто мне дапаможа?”

Я расшпільваю скафандр і выскокваю з касмічнага кокана. Размінаю рукі і ногі, кручу галавой. А потым гляджу на бухгалтарку. Што гэта? Што гэта за метамарфозы такія?.. Га?.. Валянціна Іванаўна калыхаецца, быццам медуза. Яе тлустыя рукі дрыжаць, па твары плыве зігзагападобная ўсмешка. Нібы я трапіў у пакой з крывымі люстэркамі. Валянціна Іванаўна аплывае і калыхаецца. З яе выходзяць гукі, як з надзьмутай лялькі, у якой адкрылі клапан.

Я раскладаю сказы на словы, словы — на склады, склады — на гукі… Я спрабую выць воўкам. Гэта не палохае Валянціну Іванаўну. Яна ўсё бліжэй і бліжэй… Тады я выпускаю з клеткі галаву. Яна выскоквае, як камень з прашчы. Галава распачынае танцы вакол бухгалтаркі, яна ўлюлюкае і выпускае мыльныя бурбалкі. Валянціна Іванаўна таксама пачынае танчыць. Я падыходжу да магнітафона і ўключаю “U2”.

Голас Валянціны Іванаўны: “Мяне ўчора не пусцілі ў метро, сказалі, што ў маім узросце трэба ездзіць выключна на трамваі. Я абурылася, я не пагадзілася!.. Які такі

ўзрост?!! Сорак пяць — баба ягадка апяць! Наступным разам я адкушу яму нос!”

Галава спынілася і знерухомела на крэсле, вочы свяціліся жоўтымі ліхтарамі, рудыя валасы нагадвалі ўсход сонца над возерам. Вусны выцягваліся дудачкай: “Мабыць, вы добра выпілі, Валянціна Іванаўна. Другіх думак у мяне няма. І, мабыць, гэта з далікатнасці ахоўнікі метро намякнулі на трамвай”.

Валянціна Іванаўна фыркнула: “Гэта вірус! Новая форма грыпу. Усе вакол хварэюць. Вось і я падхапіла!”

* * *

Заснежаны волат. Ён ідзе, а завіруха не сціхае. Гэта волат Каровін. Дырэктар булгакаўскага дома. Здаецца, што ўсе восем рэдакцый рамана аб’ядналіся ў ім.

Капітан хоча забіць волата. У пінжаку ён намацвае кастэт.

* * *

Чорныя як смоль пінгвіны выцягнулі свае крывавыя даўгія нажы і сказалі: “Зараз мы будзем усіх забіваць!” Першы пінгвін падбег да бурага мядзведзя і рассек яго напалам — гэта было забойства пачатку гісторыі. Другі пінгвін загрукатаў, як паравоз: “І я таксама стаміўся! Мне надакучыла! Няхай усё гіне!” З гэтымі словамі ён адкаркаваў галаву раз’юшанага тыгра. Гісторыя на ўзлёце! Яна нават заскрыгатала зубамі і выпусціла кіпцюры, ад-

нак не здолела анічога зрабіць. Не здолела выратавацца. Уздыхнула і ціха звалілася мёртвай пад шырокае зялёнае дрэва. Трэці пінгвін замармытаў, заклекатаў, зашыпеў: "Трупы, трупы, трупы! Яны ўпрыгожваюць свет!" Ад гэтых словаў зрабілася млосна ўсім. Трэці пінгвін падскочыў да дупла і забіў соннага пугача. Далей гісторыя зрабілася зусім змрочнай і малацікавай, ад яе кепска патыхала і хацелася бляваць. Але самым страшным быў чацвёрты пінгвін, бо ён меў замест аднаго два доўгія нажы. Гэты чацвёрты забіваў, нібыта машына смерці, усіх, хто трапляўся на ягоным шляху. Цяпер гісторыя сканала да рэшты. Не было кульмінацыі. Быў суцэльны пінгвінячы трэш.

* * *

"Метады ў нас такія". Гэтыя словы заселі ў галаве і не давалі супакоіцца. Што гэта за метады такія? Можа, якраз таму ўсё так кепска? Здаецца, што на галаву зараз упадзе лядзяш і ўсё — гамон!.. Я гляджу тэлевізар і з кожным разам усё больш пераконваюся: метады толькі такія. Гэты нязменны лысы чэрап не заварожваў і не адштурхоўваў, не наталяў таемнымі сімваламі — ён выглядаў тупой дэкарацыяй.

* * *

Я ляпіў гнома доўга. Пластылін супраціўляўся; галава апынулася квадратнай, нос нагадваў моркаўку, каўпак тырчэў пікай, рукі былі танчэйшымі за спагеці, толькі конепадобныя ногі выклікалі павагу. "Ты не скульптар", — казаў, ажываючы, гном. "І не прэтэндую", —

тлумачыў я. “Тады навошта ты мяне лепіш?” — абураўся гном. “Каб цябе раззлаваць”, — прызнаваўся я. “Але навошта?” — не мог зразумець гном. “Хачу падкінуць злоснага гнома Майклу Крывому”, — казаў я.

“Ды за што?” — не мог дацяміць гном. “За сяброўства”, — цьмяна тлумачыў я.

* * *

Містычным чынам мой настрой нагадваў рыбіну, якая пазяхае. Ейны язык высунуўся з рота. Вока пазірала так, быццам рыбіна ўжо засмажаная. Я пазяхнуў і падумаў, што, мабыць, някепска было б прыбраць з вокнаў гэтыя гідкія барвовыя фіранкі. Затым мне падумалася, што сяброў губляюць нечакана. Сяброў заўсёды губляюць нечакана. Найперш яны губляюцца падчас шторму або буры. І неістотна, з чаго тая навала. Гэта можа быць здрада, можа быць <…> У кожным выпадку, падумалася мне, трэба прыбраць гэтыя гідкія фіранкі, на якіх валяюцца тоўстыя каты. Катоў з фіранак не прыбраць, бо яны маляваныя. А вось самі фіранкі можна выкінуць на сметнік.

Я пазяхнуў, і мой настрой пазяхнуў разам са мной.

Мне прымроіўся Грэм Грын. Ці гэта быў напраўду ён? Прынамсі той чалавек, які сядзеў насупраць у крэсле і пыхкаў цыгарай, яго вельмі нагадваў. Па ягоным твары слізгалі жоўтыя маланкі. Грымела і барабаніла — нібыта за вакном была навальніца. Зразумела, што слыннага літаратара раней я мог бачыць толькі на фотаздымках. Той Грэм Грын, які сядзеў насупраць, быў ужо немалады — гадоў за семдзесят. Ён моўчкі выпускаў аблачынкі дыму (у гэтых аблачынках плавалі рыбы і кальмары, камары і мухі, самалёты і фрэгаты) і вузіў вочы, а потым нечакана заўважыў:

— Я піў заўсёды акуратна. Не злоўжываў. Хаця і былі пахмельныя сіндромы. А ты нашто гэтак п'еш?

— Эксперыментую. Зранку прачнуўся, заглыну пляшку віна, потым піва, а там глядзіш і бальзам знойдзецца.

— І нашто? Які ў гэтым сэнс? Нечага я не разумею.

Грэм Грын, ці той, хто быў да яго падобны, адной рукой трымаў цыгару, а другой — кудлачыў валасы на галаве. Было бачна, што ён у разгубленасці.

— Аднойчы, — раптам згадаў ён, — я шэсць тыдняў запар глытаў бензедрын і напісаў раман "Тайны агент". У мяне дагэтуль падазрэнне, што кнігу напісаў не я — а нехта другі.

## 31.

— Вы любіце адпачываць? — запытаўся Майкл Крывы ў прасталытке.

— Не. Я люблю працаваць, — адказала яна. — Я люблю, калі па маім целе перапаўзаюць пальцы механізатара, я люблю, калі па мне коўзаецца пуза банкіра. Яшчэ я люблю грамадзянаў без пэўнага месца жыхарства. Ад іх так файна смярдзіць. Не передаць словамі — грамадская прыбіральня ці гарадскі сметнік у параўнанні з імі — французская парфума. Ах, асалода-асалода. Таксама я люблю працаваць з карлікамі. Яны дыхаюць у пупок, і здаецца, што ты займаешся не сэксам, а прымацоўваеш да цела другое пуза, як нейкае механічнае прыстасаванне.

— Хочаце піва? — запытаўся Майкл.

— Не. Дайце мне кефіру. Ён мне нагадвае Барселону. Там паветра падобнае да яго.

— А ці не схадзіць нам у госці да капітана Барады, як вы думаеце?

— Цудоўная ідэя. Капітан такі выдумшчык. Ён любіць даваць карысныя парады. І, дарэчы, геніяльны вынаходнік. Нядаўна зрабіў баркас з хатняй шафы.

— Я памятаю, паводле словаў капітана, як ён уцякаў ад піратаў і схаваўся каля маразільнай камеры, дзе цэлы тыдзень харчаваўся малінавым марозівам.

— Капітан проста малойца.

— Так. А потым аднойчы ўначы, калі піраты паўпіваліся, ён усіх іх скруціў вяроўкамі.

— Вы любіце мачанку? Мачанка — гэта традыцыйная беларуская страва. Кавалкі каўбасак і мяса плаваюць у белым соусе. Ты бярэш блінец і макаеш у гэты соус.

**32.**

У прынцыпе. І без прынцыпу. З кілішкам. І без яго. Абавязкова з добрым настроем. Злосных мы скруцілі на фарш. І не супраціўляліся надвор'ю. Успрымалі летнюю спёку напоўніцу. Рагаталі, і здавалася, што наш вясёлы клёкат можна было запакаваць у слоік і захоўваць да зімы.

— Дзядзька Барада, што рабіць, калі на сэрцы туга, на душы — змяя, а ў галаве — прусакі? І на цябе насоўваецца амбал з кастэтам?

— Галоўнае зразумець, што той японскі меч, падораны на Дзень народзінаў, не адзінае выйсце з сітуацыі. Камусьці мо і набор кухонных нажоў падарылі. Самыя разумныя палкаводцы заваёўвалі краіны не толькі мячом і агнём! Прапануйце ворагу квасу, а лепш горкай настойкі! Ён моцна здзівіцца, бо гэта незвычайны і вельмі нечаканы ход. Супраць правілаў! Гэта ўдар пад дых. Паверце — ад нечаканасці ён разгубіцца і, хутчэй за ўсё, уцячэ. А калі не — вам не пашанцавала.

**Кнігарня Марс**

— Што ты робіш, Волма, калі пакупнік цябе пазбягае?

— Я спрабую на яго наслаць электрычныя хвалі.

— Гэта як?

— Я танчу.

— І дзейнічае?

— Зазвычай так. А ўвогуле наш наведнік — гэта стыліст жыцця. Шнягу яму ўцюхваць не варта — ён чакае эксклюзіўную кнігу.

* * *

нягучныя вятры
капітан крыкнуў каб не заміналі
Так-Так.
карабель разламае гэтае мора Капітан роў — ён нагадваў кіта з якога тырчэў гарпун Канаты рыпелі Сцяг лунаў Калыхалася фуражка. Матросы сноўдаліся цюленямі Цяпер ён у руках марской стыхіі Ён верыць Ён спадзяецца што выблісне боскае святло Капітан усміхаўся

франкенштэйн новага часу
пазл для інтэлектуала Здавалася, што далей усё будзе інакш Здавалася, што хмары ападаюць Чорнае неба і нягучныя вятры Толькі карабельны рып

капітан без карабля і без мора пакутуе на смагу і можа памерці

**33.**

Ты выйшаў са ступару і паспрабаваў узнавіць сюжэтную канву. Капітан Барада перасяліўся ў кнігарню і някепска тут пачуваўся. Ён спаў прама на кнігах — нельга сказаць, што гэта было зручным і камфортным. Тым не менш ён не бамжаваў.

* * *

Капітан Барада ішоў па цёмных калідорах горада. Вулічныя ліхтары асвятлялі ягоны змрочны твар. Капітан раздумваў пра тое, што някепска было б кульнуць чаго моцнага.

— І я так думаю. Калі змрочны настрой, цьмяная будучыня і фатальна-брыдкае надвор’е, хочацца выпіць рому. Прапаноўваю завітаць у бліжэйшы бар.

— Брытанцы сцвярджаюць, што ў гэтых мясцінах няма руху. Значыць і начны бар не адшукаеш.

— А прычым тут брытанцы? Чым горшыя за іх італійцы, гішпанцы, палякі?

* * *

— Пілуй-пілуй! — сказаў таўстун у форме міліцыянта. — Можа, нешта і атрымаецца!.. Давай — не спыняйся! Дакажы нам, што нашыя грошыкі пайшлі на карысную справу. Прадэманструй працу майстра.

Таўстун расплыўся ўсмешкай. Выглядаў, як памідор у форме. Можа, у яго ціск скача? Ці, можа, ён хранічны алкаголік? На працы шыфруецца — а дома не прасыхае? Хто яго ведае, гэтага памідора? Я ўважліва глядзеў на таўстуна і адзначаў, што ягоныя бровы мне нагадваюць брэжнеўскія. “У самога такія, — пакпіў унутраны голас. — Паглядзі на сябе”.

— Ды я стараюся. Пілую і пілую гэтую фанеру. Толькі яна трывушчая. Можа, разламаць?

— Не! — закрычаў таўстун. — Крый божа! Як разламаць? Толькі пілаванне — ніякай самадзейнасці! Усё павінна быць на прафесійным узроўні!..

**34.**

З кожным разам вецер рабіўся ўсё больш моцным. Здавалася, што ён гусцее і ператвараецца ў кісель. Галовы

каціліся па полі. Перакаці-поле. Капітан Барада адкаркаваў бутэльку, потым другую — але не адпіваў, а толькі ўздымаў дагары і глядзеў вокам эксперта на той напой, што там плюхаўся.

— Нашто ты гэта робіш? — запытаў я капітана.

— Часам даводзіцца рабіць дзіўныя рэчы — інакш ніяк, — адказаў капітан.

— Не зразумеў, — я хмыкнуў.

— Шыя баліць, — раптам прызнаўся капітан. — Відаць, мне засталося ўжо нядоўга.

— Аптымістычна…

— Здаецца, мне ўсе здрадзілі, — паскардзіўся капітан. — Раней у кавярнях налівалі задарма — цяпер патрабуюць грошы. Раней я спяваў гучна і мой голас не палохаў анікога, цяпер, калі пачынаю спяваць, кірлі ад мяне хаваюцца. Гэта здрада.

— Дзе ваш карабель, капітан? Магчыма, варта рушыць у мора?

— Мне, відаць, ужо не плаваць з рыбамі, закапаюць у зямлю, — сумна прызнаўся Барада.

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**14:00 нядзеля**

Па кнігарні гуляў вецер. Кнігі стукаліся і румзалі. Айчынныя аўтары дасылалі праклёны замежным. Кнігагандляры раздымалі самых агрэсіўных: Картасар кідаўся на Хэмінгуэя, Дастаеўскі спрабаваў павучаць Чэхава, Кафка чытаў натацыі Джойсу. Гандляры Караліна і Дробс бегалі па кнігарні, нібыта рэферы. Чорныя п’яўкі выпаў-

залі з фаліянтаў, і на іх кідаліся вялікія зялёныя жабы, жукі пікіравалі на вусеняў, аўстралійскія абарыгены крыкамі раздзіралі паветра шматпакутнага Марса. І раптам нехта з'явіўся на вялізным кані — усе сцішыліся. Талстой перапыніў цягаць сябе за бараду — ён пачухаў босую нагу. На кані сядзеў схуднелы і знерваваны чалавек — гэта быў Дон Кіхот Ламанчскі. Ён крыкнуў на ўсю кнігарню: "Махайце-махайце рукамі! Каб у вас іх было больш, чым у велікана Брыарэя, і тады б вас гэта не выратавала!"

**35.**

**Картасара заманілі ў госці беларускія партызаны. Месяц ён пражыў у Шабанах і з гора напісаў наступнае:**

Чарапаха мне не можа дапамагчы. Я прашу — не чапайце мяне. Бо я на службе ў князя сонца. Штодня палю люльку і п'ю гаручую каву. Мне пляваць на вашую рэакцыю. Не будзе рэінкарнацыі мазгоў. Будзе татальная ампутацыя. Я тапчуся на даху і мне хочацца скочыць уніз. Вецер мяне натхняе. Сёння такое цудоўнае штармавое надвор'е. Мне надакучылі тэлевізар, голас лысага вырадка, пасажыры трамваяў, п'яныя гандляркі і рыбкі ў акварыуме. Мне хочацца штовечар на вячэру марынаваных грыбоў і шклянку кефіру, хочацца крыку каханай на балконе. Хочацца веснавых песняў самак. Хочацца грукату аленевых рагоў. Я мару ператварыцца ў горнага казла. Я вам кажу шчыра: у мяне крызіс маладога ўзросту. Мне б скочыць з даху, ды я запісваю нерэальна прыгожыя газаваныя радкі.

**а ў гэты самы час**
**у кнігарні Марс**
**12:50 пятніца**

Чарапаха з сумам пазірала на Дашуню. У сваёй старой кастлявай руцэ чарапаха трымала пенснэ.

— Мне пра Бураціна. Ёсць у вас? Я так засумавала па гэтай кніжцы.

Сёння Дашуня была з высокай пірамідальнай прычоскай. Вусны нафарбаваныя — быццам адбылася атамная катастрофа.

— Ведаеце, Бураціна зноў ператварыўся ў палена. Папа Карла гэтак на яго раззлаваўся, што вырашыў: хопіць! З такім даўгім носам не варта палохаць людзей!

— Ды што вы кажаце? Што ж ён такое ўчыніў?

— Дэбош. П’яны дэбош, — не міргнуўшы прыдумала Дашуня.

Чарапаха разгубілася. Яна ледзьве не плакала.

— Але ў нас ёсць пра Чыпаліна. Яго папа зрабіў з цыбулі. Аналаг Бураціна. Будзеце браць?

— Ну, калі няма Бураціна… можна і Чыпаліна, — пагадзілася бедная чарапаха.

— А вас як завуць? — раптам пацікавілася Дашуня.

— Тарціла, — з сумам прамовіла чарапаха.

## 36.

Героі не спынялі сваіх дыялогаў. Я не ўпраўляўся запісваць.Таму ўключаў дыктафон, а потым перакладаў на паперу. Часам уключаў камп’ютар і набіраў тэкст

адразу на экране. Калі ж зусім стамляўся — усё кідаў і проста слухаў. Дыялогі былі тупымі. Хаця мне чамусьці здавалася, што яны хаваюць нейкі патаемны сэнс.

Заўсёды за спінай нехта стаяў і каментаваў маю працу:

— Фігня. На дэтэктыў не цягне. І з аб’ёмам ты відавочна лажануўся.

— Ідзі сюды, — пагражаў я. — Паразмаўляем як мужыкі.

Крытыкан не выходзіў з ценю. І злавіць яго было немагчыма — ён хаваўся, уцякаў. Гэта раздражняла. Больш за тое — моцна напружвала. Я зрабіўся вельмі нервовым. Але асабліва перайначыць нічога не мог. Вось так і жыў.

* * *

— Што ты хочаш дасягнуць сваімі выкрунтасамі? — запытаў нехта.

— Хачу, каб жыццё расквітнела напоўніцу! — сказаў капітан Барада. — Вельмі спадзяюся, што заўтра я сяду ў самалёт і ён зваліцца ў мора. Я, вядома, не патану і апынуся на бязлюднай выспе, дзе абавязкова даведаюся пра сэнс жыцця.

— Няўжо ты верыш у гэтую лухту? — не паверыў нехта.

— Я веру, што можна падысці да вазона і з’есці кветку. Веру ў чалавека з ягонымі забабонамі і бомкамі. Лічу смешным гыркнуць мінаку ў вуха: “Пальма засохла!”

— А ці верыш ты, што я ўчора сустрэў манашку…

— Веру.

— …якая саграшыла з дрывасекам. І цяпер прапагандуе сэкс на кожным рагу?

— Я люблю мясное рагу — таму не выключаю такой сітуацыі. Хтосьці любіць манастыр, хтосьці не можа жыць без сэксу — у кожнага свой шлях.

— І які шлях абярэш ты?

— Я, вядома, абяру свой шлях — я пайду да возера і буду лавіць рыбу. Я наогул хачу мець матрац, напханы рыбнай лускай, — мне падабаецца пах рыбы, бо тады я адчуваю мора.

— Рыбныя трупы, спаць на іх… Гэта ж брыдка. Ты б яшчэ напхаў у матрац рыбіных вачэй — сніў бы тады марскія буйкі. Падумай, цікавая ідэя.

— Чаму б і не? Можна абраць і трэці варыянт — плаўнікі.

**37.**

**Капітан Барада выціснуў слязу:**

смяецца дачка смяецца быццам вецер звініць смяецца як піянерскія горны смяецца як быццам расшпілілі партабак і рэха нясецца разам з гэтым смехам Смех і рэха скачуць па маім пакоі І мой настрой таксама заходзіцца ад рогату так добра смяецца дачка і немагчыма не падтрымаць яе цудоўны смех І вось ужо і сам сусвет нібы студзіна пачынае калыхацца ад рогату

Увага!
Падышоў да сейфа. Там за бранявымі заслонкамі мая галава. Ляжыць спакойна. Нібыта яна і не ў камеры сховаў. Нібыта яна на бранявым пляжы. Ляжыць сабе

і не ўсміхаецца. Выталупіла вочы, на шчоках — поўсць. Ляжыць дарагая. Слухае цішыню. Я адчыню сейф і пацалую гэтую сваю запасную галаву. Пацалую ў халодны мармуровы лоб. Падкіну ўверх, як футбольны мяч. І крыкну, што ёсць моцы: "Яха-ха! Мая песенька яшчэ не спетая!"

**38.**

І вось я вырашыў, што настаў той важны дзень. Рашэнне з'явілася з ніадкуль. Яно выбліснула з неба, быццам маланка. Мяне пацяла. Безумоўна, гэта быў той дзень. Учора ўвечары я атруціўся і не памёр. Выспаўся. Прачнуўся — жывы. Значыць, ёсць на свеце мілажаль. Выжыў.

* * *

Белы параход апускаўся на дно хутка. Равеў гудок. Грымелі хвалі. Я трымаў у руках чайку. Яна крычала. Біўся ў руках жывы камяк, махаў крыламі. А я глядзеў на сумны дым над вадой. Шкрабаў няголеную шчаку. Згадваў жыццё карабля. Перад вачыма вісеў выратавальны круг. Калі трубы схаваліся ў хвалях, высунулася сіняя рука з вады. Потым з'явілася аднавокая галава. З рота гэтай пачварыны загучала песня. Ціхая і нудная. Нейкія вар'яцкія спевы. А потым у бурунах сталі бачныя велізарныя плаўнікі. І вось ужо гучала мноства галасоў — хор. Песня была страшная — пра смерць марака. Я ўздыхнуў і запаліў люльку.

**39.**

Найперш варта зразумець, што капітан Барада — гэта не выдуманы персанаж. Капітан Барада прыляцеў з іншай планеты. Гэта здарылася ў аўторак, быў спякотны дзень. Ракета плаўна апусцілася на паляну, адкрыўся люк і на траву выскачыў шчаслівы капітан.

— А вы думалі, што я стаю ля штурвала толькі ў моры? — радасна прамовіў капітан. — Не, я люблю і касмічныя прасторы.

я паглядзеў на капітана, і мне ён падаўся нейкім зусім не жывым. Хаця, здавалася б, такая легендарная асоба!.. Легенды трэба без спыну мацаваць. Калі ты, як барон Мюнхгаўзэн, лётаў на ядры, значыць, ты самы сапраўдны капітан. І ўсё яшчэ толькі пачынаецца. Прыгледзься, у тваіх вачах плаваюць не проста думкі — там караблі. Самыя розныя — і з трубамі, і з ветразямі, і без іх; фрэгаты, карветы, эсмінцы, лінкоры, браняносцы, авіяносцы, лайнеры, цеплаходы, ледаколы, баржы. Нават калі ты капітан рачнога гандлёвага карабля, дзесьці пад падушкай у цябе мусібыць прыхаваны корцік.

**40.**

Тут жыццё змяняецца ў іншы рытм. У бункеры — усё інакш. Песні тут не спяваюцца, як пад небам, але мяне гэта задавальняе. Я тут адчуваю сябе механічным конікам. Скачу па пакоях.

* * *

І тады раптам з’явіўся Ён. Я чамусьці адразу зразумеў, што гэта менавіта той, хто за мной сочыць апошнія месяцы. Пэўны час я падазраваў у гэтым крытыкесу, але потым зразумеў, што памыляюся. Дык вось, гэты Ён не хаваўся, як раней. Больш за тое, Ён нібыта выклікаў мяне на дыскусію. На ім быў чорны палітон, вялікі клятчасты капялюш, тоўстыя акуляры. Ён глядзеў на мяне і, здаецца, чагосьці чакаў.

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**13:00 аўторак**

Гэты чалавек не зайшоў у кнігарню — заплыў. Рухаўся ён так, нібыта ягоныя ногі проста слізгалі па падлозе. Здзіўляў колер твару — колер марынаванай марской капусты. Волма запыталася:

— Што вам падказаць?

Чалавек зняў капялюш. І Волма пабачыла дзве маленькія памаранчавыя антэны.

— Я толькі што прыляцеў з планеты Марс. Мне паведамілі, што тут мае супляменнікі. У мяне сапсаваўся гравітацыйны рухавік, і мне патрэбная тэрміновая дапамога. Тым больш мае іфтыханскія рыбінкі даўно не елі... А вы ведаеце, хто такія іфтыханскія рыбінкі? Калі іх не пакарміць тыдзень — яны могуць згрызці ўвесь касмічны карабель. Разумееце, дарагая? Згрызці!.. Я туды трапіў?

Волма не разгубілася:

— Маем “Марсіянскія хронікі” Станіслава Лема.

— Там ёсць патрэбная мне інфармацыя?

— Відавочна, ёсць — ён вядомы аўтар. Больш за тое, прызнаны ва ўсім свеце. Ён, пэўна, найлепшы знаўца ў галіне касмасферы.

**41.**

Калі рука капітана вымкне з-пад аблачынаў… калі сонца выплыве з хваляў рому. Калі фуражка падымецца дырыжаблем у неба, а вецер зноўку зайграе сваю музыку, менавіта тады ластаўкі скукожацца і пачнуць падаць, як пераспелыя дзічкі. Потым яны пачнуць ажываць і ператварацца ў маленькія ганарлівыя караблікі.

* * *

Я выцягнуў руку ў кірунку гор і адразу адчуў, як набліжаецца вялікая хваля. Твар абмачыла халоднымі пырскамі. Неба ўмомант пацямнела, і здавалася, што зараз распачнецца навальніца. Мне надакучыла стаяць на капітанскім мосціку, і я спусціўся ў кубрык.

Здавалася, што горад счарнеў.

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**11:30 панядзелак**

Гэты чытач — мужчына ў сінім паліто — паклаў свае зубы каля кнігі. Сківіца была залацістай і прыцягвала ўвагу

наведнікаў. Затым ён паклаў побач празрыста-сіняе штучнае вока. Яно прыемна дзінькнула, быццам было з металу доларавай манеты.

Потым мужчына адкруціў руку.

**42.**

Пасля выпітай пляшкі віна, пяці бутэлек моцнага піва і шклянкі малдаўскай самагонкі думкі разбегліся і ніяк не могуць сабрацца разам.

Разумею адно: чарговая сустрэча з Майклам Крывым не была дарэмнай.

— Майкл, вось ты ўсё крыўдуеш, маўляў, я з табой рэдка сустракаюся. Ды ўся марская пена зайздросціць нашым кубкам. Я гляджу на цябе і дзіўлюся. Ты чалавек ці робат? Калі добра прыгледзецца, здаецца, што чалавек. Тыя ж падфарбаваныя валасы, прыхаваныя залысіны… Нават нос і ўсмешка ад Спанч Боба — усё знаёмае. Але не магу зразумець, чаму на тваім лобе гарыць зорка, падобная да медузы? І жывой — бо варушыцца. А яшчэ — чаму ў цябе замест пальцаў шчупальцы? Такія маленькія і жоўценькія? Можа, гэта аптычны падман?

— Ты мяне паважаеш? — раптам пытаецца сябра.

— Так. Я цябе паважаю. Але скажы, адкуль зорка?

— Адкуль-адкуль. Ад куль, — злуецца сябра.

Раптам я заўважаю, як з яго галавы выскоквае вока. Скок! І давай скакаць, быццам на спружынках. Скок!

Скок — па асфальце, і нічога яму! Скача, блішчыць. Я, натуральна, у жаху. А сябра стаіць і п’яна ўсміхаецца. А я — у жаху! Можа, гэта зомбі?!! На лобе зорка блішчыць і варушыцца, адна вачніца — пустая! Мой сябра ці невядома хто гэтым вокам падміргвае і неяк нядобра ўсміхаецца!..

Трэба ўцякаць! Зараз схопіць, пачне горла грызці. Гэта ж не жарты! Дакладна — побач зомбі! А ногі нешта не слухаюцца! Штосьці са мной гіпнатычнае адбываецца. Я спрабую драўляным крокам рушыць.

А мой сябра (ці не мой):

— Куды ты сабраўся?

Адчуваю, што горла перахапіла, таму паказваю, маўляў, у прыбіральню вельмі хочацца. Ну, трэба — паміраю!

Невядомы сябра пачынае аплываць і ператварацца ў некага іншага. Прыглядваюся — стаіць плюгавы дзядок і цягне ў мой бок рукі, на якіх замест пальцаў шчупальцы. Я — у паніцы. Спрабую драўляным крокам рушыць. Дзядуля — за мной. Таксама ідзе марудна, але не адстае. Узяўшы, як кажуць, волю ў кулак, мармычу:

— Ды чаго вы прычапіліся? Мне трэба ў прыбіральню.

Праўда, чую, што голас не мой. Голас як быццам з кружэлкі, што запаволілася. Дзядуля-зомбі маўчыць, толькі моцна пыхціць і адным са шчупальцаў спрабуе ў пустую вачніцу вока запхаць, але нешта ў яго не атрымліваецца.

Насустрач без спеху ідзе дзяўчынка, такая лёгкая — проста дзьмухавец. Падзьмуць — валасы і разляцяцца. Ногі — у кедах, у руках — партфель. Ідзе — нейкую

песеньку напявае. А дзядуля не адчапляецца! Я пачынаю дзяўчынцы махаць рукамі, маўляў, ратуйце, людзі! Але яна пачынае з падазрэннем нас абыходзіць. Як кажуць, за палову кіламетра! Тады я што ёсць моцы выціскаю з кружэлкі:

— Дзя-я-яўчы-ы-ына, да-а-апа-а-ама-а-ажы-ы-ыц-е-е-е па-а-ажы-ы-ыло-о-ому-у-у ча-а-ала-а-аве-е-еку-у-у! Но-о-огі-і-і не-е-е слу-у-уха-а-аю-ю-юцца-а-а!

Дзяўчыну як ветрам здзьмула. Быў дзьмухавец — і няма! Што рабіць? А дзень — ужо блізкі да вечара. Сонца схавалася — людзей вакол не бачна. Тут заўважаю, што рукі ў мяне пачынаюць сінець. Да таго ж вельмі хутка і луска з'яўляецца. Мацаю твар і адчуваю, што замест барады — луска! Усё, думаю, дапіўся!

Тут нехта моцна тузае за плячо. Абарочваюся — Майкл! Стаіць — увесь збялелы і перапалоханы. На лобе аніякіх зорак, толькі мокры нейкі. Узмок.

— Што з табой? — пытаецца сябра. — Нешта ты пасінеў увесь. Я цябе ўжо і па мор… прабач, і па шчоках лупцаваў. А ты не рэагуеш. Думаў ужо хуткую выклікаць. Можа, сэрца прыхапіла.

— Так нешта, — адказваю, — прыхапіла, дык прыхапіла.

І з палёгкай абціраю лоб… і скідваю залацістую луску. Рыба пад піва — гэта заўсёды добра і смачна. Асабліва калі гэта сухая таранька.

— Аб чым думаеш?

— Ні аб чым. Думкі разбягаюцца, нібыта мурашы.

— Паглядзі на сваю руку — яна нейкая зялёная.

— Сама такая — запрэсавала ты мяне зусім. Няма чым дыхаць. Паміраю. Увесь час чую крыкі старой каргі.

— Як такіх трымае свет?

— А што табе не падабаецца?

— Не, проста канстатую факт.

— І як мне цяпер з гэтым быць?

— Здымаць майткі і бегаць. Ха-ха.

— Ну-ну, пажартуй — можа, лягчэй стане.

— Ну дык натуральна стане — нават і не сумнявайся.

**43.**

Фантастычна. І практычна. Будуеш да гэтага арганізма драбіны. Потым уздымаешся. Спатыкаешся. Прыступкі рушацца. Гледзячы на прыступкі, думаеш, што яны пагрызеныя часам. І пытаешся ў сябе, як такое можа быць? Бо драбіны нібыта новыя, толькі што зробленыя. Гэтае пытанне застаецца рытарычным.

Зрэзалі баравік — адтуль выпаўз слімак і закрычаў: “Восень з баракудамі!” Мы слімака падхапілі ды паклалі ў кошык з павукамі — і там нарадзіўся таемны госць. Госць быў склізкім і вясёлым — ён адразу нам спадабаўся. Потым ён сказаў сакральнае: “Набліжаецца зіма — я накармлю вас баракудамі!” Мы падзякавалі і налілі госцю кавы з тэрмаса. Разам з глыткамі восені гучаў шэпт ветру: “Павукі, слімакі, краты, баракуды — распалі вогнішча — засмаж слімака — учыні восеньскае забойства...” Было халодна і страшна. І над лесам лётаў паветраны шар.

**44.**

— Як ты можаш піць столькі кавы? Калі ціск, нібы ракета, імчыць па венах? У галаве выбухі бомбаў, і здаецца, што яшчэ імгненне — і там вырасце ядзерны грыб… Няўжо кава так моцна бурыць арганізм?

— Кава-кава. Кава — гэта фантастычна. Пачынаецца мяккае “ка”, выплывае цягучае “ва”. Ваў! Пякучая, чорная, духмяная. Яна забягае быццам на пяць хвілінаў, а не сыходзіць ніколі. Прачнуцца зранку і выліць у сябе кубачак-другі чарадзейнага напою.

“Я люблю трэніраваць свой ціск, — задуменна кажа капітан Барада. — Калі ты не можаш займацца спортам — гэта ўжо вердыкт. Жыццё сыходзіць. Сэнсу смярдзець застаецца мала”.

Вецер узбурыўся і скінуў фуражку з галавы капітана. Дарэмна ён спрабаваў яе выратаваць. Яна ўзляцела, нібы крык горна.

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**12:45 серада**

Дашуня сядзела ў мяккім фатэлі з кубкам кавы і лічыла ўслых грошы за прададзеныя кнігі: “Два, тры, дваццаць, сорак пяць, дзвесце пяць...” Як раптам заўважыла, што на паверхні напою нехта цялёпкаўся і пішчэў!.. Ейная ўлюбёная аксамітная кава Lavazza адразу падалася брыдкай і няўежнай!.. Як такое магчыма, каб тут

плавалі вусякі!.. Дашуня паднесла каву да вачэй, прыгледзелася і ёй зрабілася млосна — на паверхні кавы маленькі, з багоўку, чалавек!.. І ён пішчаў: "Не пі мяне! Не пі! Атруцішся! Карова ты сякая-такая!"

— Ты хто? — выціснула з сябе Дашуня.

— Не раві, карова тупая, аглухну! І не дыхай так моцна!!! Хіба не бачыш? Пісьменнік я — Майкл Крывы. Аўтар шэдэўраў усіх часоў і народаў!

— Гэта той, што пра лайно напісаў? Вуй, прабачце, пра жар-птушку! — узрадавалася Дашуня.

— Ён-ён! — пішчаў Майкл Крывы.

— А што з вамі здарылася?

— Ды з гэтым, як яго, Барадой ці Кавалём, халера іх разбярэш! Сустрэўся — выпілі! І вось прачнуўся тут! Сам не ведаю як!!!

— З Барадой ці Кавалём? А вы ўпэўнены, што з вамі самім усё добра. Мо і ў вас падваенне асобы? Нешта такое паранаідальнае?

— Карова ты, я выпіў!

— Ды я зразумела... І што цяпер з гэтым рабіць?

— Адкуль я ведаю, карова?!!

— Не лайцеся! Інакш раззлуюся і не буду вам дапамагаць.

Дашуня яшчэ раз паднесла каву да вачэй і паспрабавала разгледзець маленькага пісьменніка. Ён вельмі нагадваў мульцяшнага героя Спанч Боба, толькі што быў жоўты. А так амаль копія. Тым часам пісьменнік заціх і, здаецца, нават пачаў румзаць.

— Ну, — раззлавалася Дашуня. — Дарослы мужчына і адразу ў слёзы. Бярыце сябе ў рукі — мы нешта прыдумаем. Я зараз Волму паклічу.

Дашуня ўзяла мабільны тэлефон і набрала Волму:

“Волмачка, вітаю! Сонейка, тут такое здарылася!.. Нават не ведаю, як і распавесці… Я памятаю, што сёння не твая змена, але пад’язджай тэрмінова!.. Інакш я тут звар’яцею!..”

Па прыездзе Волма адразу ўсё зразумела.

— Віскі з каньком мяшалі? — злосна запыталася яна.

Крывы вінавата кіўнуў маленькай галавой.

— Півам запівалі? — працягвала Волма.

Крывы абурыўся:

— Запівалі, натуральна, ну так па літры — не болей!..

— А вершы потым чыталі? — не супакойвалася Волма.

Крывы цяжка ўздыхнуў:

— Чыталі.

Волма пляснула рукамі і хітра звузіла вочкі:

— Ну, вось і эфект. Добра, што ўвогуле не выпарыліся. Невядома цяпер, што з вашым сябруком адбываецца.

— І што мне рабіць? — збянтэжана запытаўся Крывы.

— Ёсць адзін сродак, але ён вам не спадабаецца.

— Давайце! Давайце! — нецярпліва запэўніў пісьменнік.

— Ну, я вас папярэдзіла — тады слухайце. Трэба адшукаць лайно каня і туды скочыць з крыкам: “Вушка голкі, бяры тое, што засталося!” І ўсё.

— Усё? — здзівіўся Крывы. — Ну, дык шукайце хутчэй мне лайно каня! Інакш я памру!!! Мяне ўжо два разы павукі ледзь не загрызлі!!! А гэтая карова, — пісьменнік тыцнуў у бок Дашуні, — хацела зжаваць!!!

— Супакойцеся, зараз усё зробім.

* * *

Прынесенае лайно каня з суседняга заапарка шлёпнулі на падлозе кнігарні. Атрымалася нешта падобнае да мініяцюрнага басейна, каб пісьменнік Крывы мог разагнацца і, выскачыўшы з кубка, трапіць прама ў выратаванне!

— Гатовы? — запыталася Волма.

Крывы незадаволена кіўнуў.

Волма скамандавала:

— Скачы!!! — і незаўважна перасмыкнулася.

Крывы разагнаўся, заціснуў нос пальцамі і загнусавіў: "Вушка голкі, бяры, тое што засталося!"

Бабах!

Крывы ўвесь выпарыўся. Ні лайна, ні пісьменніка.

— І куды ён падзеўся? — спалохана запыталася Дашуня.

Волма пацiснула плячыма:

— Напэўна, вушка голкі забрала.

Увесь у лайне каня, Майкл Крывы прачнуўся на пляжы ў Вентспілсе. "Жыццё наладжваецца", — думаў ён, пабачыўшы, што вырас да памераў нармальнага чалавека. Побач праходзілі шматлікія турысты і заціскалі нос.

**45.**

— Злітуйцеся, нябёсы, — казаў капітан Барада. — Я зноўку спазняюся. А я ж раней устаў і, здаецца, добра пагаліўся, прыняў гарачы душ. Магчымае спазненне

было непрадбачаным — я проста зблытаў час. Што ж так не шанцуе? Нашто гэтае няшчасце на маю галаву?

Здавалася, што ад напругі валасы капітана не пасівелі, а зрабіліся сталёвага колеру (калісьці былі рудыя)…

— Уваткніце мне ў шыю нож!

У Барады зазваніў тэлефон.

— Слухаю, — сказаў капітан.

— Добры дзень, — пачуўся ліслівы голас. — Як пажываеце?

— Вашымі малітвамі, — адказаў капітан. — Не патануў.

— Не забывайцеся на нас. Мы за вамі сочым. Мы ўсё пра вас ведаем.

— Не сумняюся, — буркатнуў капітан.

— Трэба сустрэцца, папіць кавы.

— Калі?

— На наступным тыдні. Вам пасуе?

— Пасуе, — згадзіўся капітан.

— Я вам яшчэ патэлефаную, — запэўніў голас. — Не забывайцеся на нас.

— Ніколі, — пацвердзіў капітан. — Думка пра вас каля самага сэрца. Я вам гітару прэзентую. Хочацца слухаць вашыя спевы зранку і прачынацца ў халодным поце. Да пабачэння.

**46.**

Нечакана капітан Барада зразумеў, што яго нехта схапіў за нагу, — гэта быў хобат таямнічай жывёліны. У драпежніцы было аднае жоўтае вока, і яна раўла —

капітан нагадаў ёй пра доўгачаканы сняданак. Было чуваць, як клацаюць моцныя зубы. Капітан выхапіў шаблю. Але хобат быў з нейкай трывалай гумы — шабля толькі слізгацела па шэрай скуры і не секла драпежную пачварыну. Тады капітан злаўчыўся неяк вывернуцца і патрапіў нагой у жоўтае вока. Пачуўся дзікі рогат з віскатаннем, і Барада вызваліўся.

— Ты разумееш, прыехаў маньяк з Квебека і пачаў тут наводзіць парадкі.

— Пра што ты?

— Ды ёсць такая мярзота — лепіць з людзей маржоў.

* * *

Мерзнуць рукі. Пакрываюцца ці то лакам, ці то шэранню. Пазногці чарнеюць і адвальваюцца. Праплываюць зубатыя ўсмешкі і нанізваюцца на шампур. Твар робіцца драўляным. Стукаю малатком па стале. Вось і снежная лавіна абрынулася.

* * *

Давай, запрасі мяне ў госці! Будзем ламаць косці! Будзем свідраваць сцены і абавязкова зруйнуем клазет! У фантанах змыем з сябе заскарузлую скуру! Пафарбуемся ў аранжавы колер і закрычым пра свабоду! Закрычым так, каб абрынуліся балконы! Закрычым так, каб звялі мухаморы! Закрычым так, каб прачнуліся бесы! Грымнем гучна ў каструлі і зруйнуем сталы! А потым праз вокны на волю! Выслізнем як п’яўкі, выпаўзем як тхары! Давай — запрасі!

**47.**

Сіні твар капітана Барады пакрэмзалі зморшчыны. Яны разбягаліся вясёлымі дарогамі. Можна было па іх праімчацца на хуткім аўтамабілі. Тады адчуваўся вецер. Барада зблізу — гэта сапраўдны лес, дзе жывуць розныя звяры. Тут ёсць экзатычныя птушкі, якія спяваюць гісторыямі, казкамі, легендамі. Птушкі самыя розныя, але чамусьці больш за ўсё тут сустракаліся птушкі чырвона-жоўтых колераў. Дзіўна, але яны нагадвалі сцягі, магчыма таму, што іх пёркі трымцелі ад ветру.

Барада ляжаў ціха, і птушкі заліваліся напоўніцу. Прыслухаўшыся, можна было пачуць пра пірацкія войны і рыцарскія турніры, пра палёт на паветраным балоне, пра вандроўкі на падводнай лодцы.

**48.**

Гучала музыка. І здавалася, што цыклопы пачалі скакаць да неба. А вось ужо і неба заскуголіла ды распаўзлося, агаляючы шыпы халодных зорак. Джала выпаўзла з лесу і, не знайшоўшы ахвяру, стала раскручвацца жгутом у шалёных танцах.

* * *

Крытыкеса глынула кавы і заўважыла:

— Ламай не ламай — новы свет не пабудуеш, бальшавік смярдзючы…

— Гэта чаму? — абурыўся я.

— Дзе муза?!! Дзе каханне? Дзе сэкс? — патлумачыла крытыкеса.

— Мода на блакітныя шорцікі? — са здзекам запытаўся я.

— Навошта мне твая блакітная рамантыка? — здзівілася крытыкеса.

— А талерантнасць?

— Я і так табе замнога дазваляю, — бухнула крытыкеса. — Жанчыну мне падавай! І сэксу паболей!

— Дзіўныя ў цябе прыярытэты, — з сарказмам заўважыў я.

— Пшоў прэч! — гыркнула крытыкеса.

* * *

У адным з сэкс-шопаў я набыў гумовую жанчыну. Я нёс у торбе каханую і казаў услых: “Цяпер я не адзін — цяпер я з Маняй”.

* * *

Маня была ружовая бландынка. Здавалася, што яна аб’елася пончыкаў. Маня сядзела насупраць мяне і пазірала тупымі блакітнымі вачыма.

— Маня, — сказаў я. — Я буду вучыць цябе альфабэту. Скажы: а-а-а!

Маня маўчала і не жадала за мной паўтараць. Яна нібыта чакала. “Сэкс, — падумаў я, — Маня здатная толькі на сэкс.

Яна не хоча вучыць альфабэт”.

# НОВАЯ ЛОМКА ДРУГОЙ ЧАСТКІ,

## альбо

## Руйнаванне свядомасці



Я не вытрымаў і ўдарыў. Чалавек сагнуўся ад болю.

— Табе не збегчы, — працадзіў ён скрозь зубы. — Усё роўна мы цябе знойдзем і раструшчым твае пазванкі…

Я не слухаў. Я ўжо бег. Наўздагон чуў брудную лаянку, але гэта мяне не спыняла. Я мусіў як мага хутчэй адсюль зваліць!.. Цяпер мяне бянтэжыла толькі адно пытанне — дзе мой пашпарт? Куды ён мог падзецца? У якім казіно я пакінуў куртку з пашпартам і ключамі? У горадзе дзясяткі казіно, і ў якім з іх вырашыў марнаваць свой час п’яны ідыёт? У якім?!!

* * *

Пасля наведвання чарговага казіно ў раёне стадыёна “Дынама” я канчаткова згубіў надзею адшукаць куртку з дакументамі. “Усё, — пранеслася ў галаве, — усё марна!.. Куртка адляцела да продкаў!” І толькі я пра гэта падумаў, як адчуў моцны ўдар па галаве. У вачах пацямнела, і я страціў прытомнасць.

* * *

Скрозь шум у галаве пачуў:

— Дакапаўся, сцука. Мы ж яго папярэджвалі. А ён усё разнюхвае і разнюхвае. З мянтамі скарыфаніўся. Што цяпер з ім рабіць, га? Як ты лічыш, Бармалей?

— А што з ім цацкацца? — адказаў другі, відаць, Бармалей. — Нам жа адной галавы было мала. Паглядзі, якая ў яго ладная мазгаўня, свежанькая… Шнараў амаль няма. Толькі адзін… над левым вухам… — І рука Бармалея пачала мяне абмацваць. — А яшчэ тут адзін пад носам… А так — нішцяк. Тое, што трэба.

— Можа, пілой? У мяне там у багажніку ёсць, — прапанаваў першы.

— Ды ну яго! Яшчэ і пілу на яго псаваць!.. Сякерай самае тое. Раз — і гатова!.. — І задаволены сабой Бармалей загыгатаў.

Я адчуў на твары цяжкі подых з перагарам і расплюшчыў вочы.

— Глядзі, — узрадаваўся той, што, мабыць, быў Бармалеем, — ачухаўся, падла.

— Ну што, падла? — звярнуўся да мяне другі, з прыплюснутым носам. — Будзем рэзаць цябе на жгуты?

Той, каго звалі Бармалеем, заўсміхаўся гнілымі зубамі. Круглая паголеная галава пазірала на мяне, як на недарэчнасць.

— Хлопцы, — прамармытаў я, — можа, неяк палюбоўна вырашым?..

Мяне свідравала думка, што трэба збегчы. Збегчы!.. Як? Пакідаць мяне ў жывых, хутчэй за ўсё, не ўваходзіла ў планы бандзюганаў. І прыдумаць нешта трэба было ўмомант, бо ўключаны таймер майго жыцця.

— Дайце выпіць, — раптам папрасіў я.

Бармалей здзівіўся:

— Слухай, Мозга, — так ён звярнуўся да першага. — А падла яшчэ варушыцца. Вады, сцука, захацеў?!!

— Гарэлкі, — прасіпеў я.

— Ну што, Мозга, дамо яму на развітанне сто грамаў? — запытаўся Бармалей.

Той, які быў Мозга, мабыць, сумняваўся, аднак не стаў пярэчыць:

— Ну, гэта як апошняя цыгарэта… Трэба наліць пацану…

Рэзкім рыўком бандзюганы паднялі мяне на ногі, падцягнулі да стала і кінулі на крэсла. Бармалей аднекуль выцягнуў пляшку “Сваяка” і разліў на траіх.

Мозга хмыкнуў і паведаміў з сарказмам:

— Ну што, братаны, за нябожчыка, як кажуць, не чокаючыся.

Бармалей зарагатаў. Бандзюганы кульнулі, і я таксама. Толькі цяпер я зразумеў, што вельмі баліць патыліца — усё ж прыклалі мяне ад душы. Але пасля выпітага ў галаве надзіва праяснілася і я быў гатовы дзейнічаць.

Бандзюганы расслабіліся і згубілі ўвагу — момант быў зручны. Не доўга думаючы, я схапіў са стала паўпустую пляшку гарэлкі і з размаху раструшчыў яе аб галаву Бармалея. Мозга ад нечаканасці аслупянеў, і я абрынуў на яго крэсла. Абодва бандзюганы з хрыпам паваліліся. Не чакаючы, пакуль злодзеі ачуняюць, я кінуўся прэч. Выскачыў за дзверы, збег па лесвіцы ўніз і апынуўся ў нейкім незнаёмым двары. Хутчэй-хутчэй на цэнтральную дарогу!.. Вунь, вунь яна!.. Пабачыў,

што едзе таксоўка, і замахаў рукамі. Служба 135. “На вуліцу Якуба Коласа падкінеце?” — запытаўся ў кіроўцы. Хлопец гадоў трыццаці, у майцы “БАТЭ”, добразычліва ўсміхнуўся: “Сядай!” І толькі ўжо ў машыне я з палёгкай уздыхнуў: “Жывы…”

Мабыць, мне давядзецца абвязваць сябе вяроўкамі, бо анічога не атрымліваецца. Не магу спыніцца — і там і тут з мяне вытыркаецца атрутная поўсць. Я пазіраю на сябе і разумею, што чалавечага ў маім абліччы мала. І для паляўнічага я — спакуслівы трафей. Гэтак і ўяўляю загалоўкі ў газетах: “Паляўнічы Макс забіў пісьменніка-пярэваратня!” альбо “Сантэхнік Іваноў выратаваў грамадства ад небяспечнага вырадка-зверугана!”

**49.**

— Сярод іншага я часам адчуваю, што не заўсёды быў чалавекам. Мне здаецца, што я мог быць ягадай — малінай. Так і ўяўляю сябе пад пякучымі прамянямі сонца і раптам чую непрыемнае казытанне. Прыглядваюся: ба! Гэта ж таварыш чарвяк. Ды так падобны да майго знаёмага гэбэшніка. Такі ж ліслівы, такі ж увесь мяккі — хоць бяры яго і прыкладай да цела. Дык ён і сам прыкладаецца: адчуваю — пачынае смактаць

з мяне сок. Я трываю, а сам думаю: “Зараз як гыркну! Вася, пайшоў прэч! Сволач — я жыць хачу!” Вішу, значыцца, чырванею ад злосці, прыслухоўваюся да чарвяка-крывасмока. Тут — вохці мне! Птушка прылятае, дзюбкай — цмок! І скончылася маё малінавае жыццё.

Малінавы катафалк на свежым паветры ў сонечны летні дзень. Аркестр. Шыпіць вецер ці гэта душа выветрываецца праз шчылінкі труны? Ты ў новым чорным гарнітуры. Дзеецца пахаванне гісторыі. Учора было ўсё інакш. Чуліся вясельныя песні, а цяпер кранты — герой знік.

**50.**

— Даўно трэба, — сказаў худы. — Колькі можна трываць? Я б цябе стукнуў па галаве — ды шкада. Дасталі гэтыя бязвольныя іпахондрыкі.

— Я штодня бегаю, — апраўдваўся тоўсты, — бегаю пяць колаў. Далей ужо сілаў няма. Дакладней, сілы ёсць, а вось паветра не хапае — задыхаюся.

— Будзе табе навука. Трэба заўсёды займацца спортам. Цяпер навёрствай. Зразумела, лёгкія — гэта радыятары, таму варта трэніраваць дыхалку.

Тоўсты і тонкі спыніліся каля машыны — нейкі “Мэрсэдэс”.

Тонкі:

— Я адчуваю — ён недзе тут. Пахне капітанам.

Тоўсты:
— Ты не памыляешся?
— Сам панюхай, — тонкі паказаў на колы машыны.
Тоўсты прысеў да шыны і прынюхаўся:
— Сапраўды, моцна смярдзіць. Нагадзіў чувачок.

**51.**

— Гэй, вы, хвастатыя! Шашкі агалілі! Пісталеты ашчэрылі! Вочы выталупілі! Грудзі надзьмулі! Сцягам махнулі! Пляшкай булькнулі!

Гэй, вы, хвастатыя, варта выцягнуць той паласаты матрац, накрыць яго той зялёнай коўдрай, пакласці на іх той завэзганы тэлевізар і гучна крыкнуць: “Прыйшла восень!”

Восень грыміць заіржавелым лісцем. Восень быццам замыленая вайсковая фуражка, што прымушае шчоўкнуць далонню па казырку і адправіцца на фронт.

А дзе яна, тая вайна? Яна — тут і там. За тым узгоркам, у гэтых грудзях і ў гэтым сэрцы. Сум дзярэ на шматкі ад срэбных куляў. Разлятаецца імгненна і назаўжды.

Маленькі пінгвін піскнуў і скочыў у ваду з крэйсера “Аўрора”. За ім бег марак Васіль Пятровіч Шпарага, які хацеў злавіць пінгвіна, але не паспеў. Сіні бушлат весяліў паветра. Марак раптам папярхнуўся, схапіўся за горла і вырачыў сінія вочы. З рота Васіля Пятровіча вылезла Чорная адаманская гадзюка, якая засыкала: “Кожнаму пінгвіну бушлат Васіля Пятровіча”.

**52.**

Азіраешся вакол. Што я тут раблю? Я — мікроб. Брушка напяў — кроў пад скурай пабегла палоскамі. Бяру запалку. Пстрык. І ўсё. Імгненне. Выдуманае жыццё. Скок — з трампліна, скок — з даху. Пум — іду ўжо па вуліцы. Навыдумваў. Усё вакол гульня. Дзе мой футбольны мяч? Бум-бум! Мой любімы ў квадраціках сябра. Гульня ў стасунках, у мэтах, прыярытэтах, ідэях. Ну, намудрагеліў. Чалавек захацеў быць значным. Ча-ла-век! Ау! Ты дзе?! Чалавек зна-а-ачны!!! І што з таго атрымалася? Анічога. Капнеш глыбей — і пустэча. Бяру рыдлёўку — капаю. А раптам куфар з золатам знайду? Гы? Вежы і піраміды насамрэч штучныя і, ледзь што, рассыпаюцца ад лёгкага дакранання часу.

**53.**

Капітан прачытаў: “Аўтобус грымеў, нібыта звязка пустых бляшанак на вяроўцы. Выцягваў гэтым гукам з душы ўсялякае брыдоцце. Здавалася, што ўсё сышло. Усё! Перад вачыма чысты аркуш паперы, і ты можаш вывесці першае слова — «друхло». Гэтае першае слова натхняла і наталяла злосцю, атрутным кашлем і алкаголем. Зноўку хацелася жыць”. Капітан хмыкнуў, выцягнуў з кішэні біклажку з ромам і адпіў. Гаркавы смак асвяжыў горла, цеплыня пралілася на дно страўніка.

**А ў гэты самы час**
**Кнігарня Марс**
**17:00**

Чым адметная кнігарня Марс?

Завітаў электрык, нацягнуў дрот паўз усю кнігарню, і раптам на месцы дрота павіслі ліяны, на ліянах апынуліся калматыя малпы, з валасоў якіх пачалі вылузвацца маленькія вусені, што размаўлялі на дзіўнай мове, вельмі падобнай да суахілі. Хмаркі заплылі пад столь іператварыліся ў антэны. Загучаў вальс. У гэтую музыку ўскочыў чытач, а вылез ці то бык, ці то морж, які апазнаўся праз паэтычныя гукі. На кнігах пачалі ўспыхваць вогненныя іерогліфы. І таемны шэпт застаўся рэхам.

**54.**

Калі чарадзей адпусціць вяроўку — самае галоўнае не ляснуцца аб асфальт, бо будзе балюча. Хаця калі табе пашанцуе, дык ты ператворышся ў блінец. Падаць трэба абачліва, на рукі і ногі, у паставе сабакі. А лепш за ўсё мець схаваны парашут, каб пацягнуць за кольца і — бах: над табой чароўная белая аблачына, падай сабе на здароўе. Гэты чарадзей мне не падабаецца — падазроны суб’ект. Таго і глядзі — адпусціць вяроўку.

* * *

Кнігі не ствараюць герояў. Яны захоўваюць муміі. Ты трапляеш у склеп нябожчыкаў, і ад гэтага бывае вельмі сумна. Чытаеш, а здаецца, што вядзеш бясконцую размову з трупамі.

* * *

Здараецца, што гэты дзень табе не падабаецца адразу. Прачынаешся зранку і разумееш — дурны дзень. Жонка ляжыць побач злосная, быццам ты яе ўкусіў ці, дакладней, не ўкусіў. І тады здагадваешся — усё дрэнь. Можа, сёння магнітныя буры? Хто яго ведае, магчыма. Надвор'е нейкае напраўду пахмурнае. Што рабіць? Пасылаем працу нафіг. Жонцы кажам — я на працу. А сам? У адзін бар, потым у наступны. І гэтак далей. Карагод. Ці кеглі? Піва супакойвае нервы. Вось колькі заракаўся не пісаць пра алкаголь — а не атрымоўваецца. Я люблю бухаць. І навошта я бухаю? Бо думаю, што нашае жыццё — імгненне. Хтосьці калупаецца ў носе, хтосьці песціць прышчы, а я — бухаю. Нічым не горшы за астатніх. Некаторыя захопленыя баблом. Потым будуць у труне валяцца ў банкнотах. Я ж бухаю!.. Гы-гы. Буду булькаць у труне.

**55.**

— Ты сёння выглядаеш значна лепей.

— Натуральна, бо ў завязцы. Галоўнае ўмець вязаць марскія вузлы. Здараецца, што настае такі момант, калі гэты навык робіцца вельмі патрэбным.

— Галоўнае стрымаць сябе на шляху да крамы.

— Не, туды трэба ж заходзіць па прадукты, а вось не падысці да піва, віна і гарэлкі — справа значна цяжэйшая. Там так прывабна пузацяцца цьмяныя і светлыя супергероі.

— Выпіў і ўжо ляціш на крылах?

— Так. А ўвогуле, я выглядаю лепш таму, што забараніў сабе перад сном чытаць казкі. Гэта ж немажліва — потым сніцца розная брыдота, усялякія бабулькі, здыхлікі бессмяротныя, лясныя хаткі, каты з балалайкамі. Прачынаешся зранку з апухлым тварам і чырвонымі вачыма. Галава цяжкая, нібыта пасля пахмелля. Карацей, мне казкі не заходзяць, як і гарэлка.

Капітан Барада паглядзеў на суразмоўцу — той сядзеў нібы барон; увесь у чырвоным, разваліўся ў фатэлі, пацягвае нейкі карктэйль. Не, гэты суразмоўца не падабаўся капітану. Бо ў ягоных вачах была пустэча. Не свяцілася там анічога. Хацелася схапіць губку і сцерці з твару ўсе абрысы (нібы крэйду), потым узяць аловак і намаляваць новы нос, вусны, вочы… намаляваць барадаўкі ды шнары, колькі фурункулаў. І глядзіш — перад табой сапраўдны герой сучаснасці. А так — няма пра што казаць.

**56.**

*Капітан Барада любіў за сняданкам пачытаць тоўстую газету. Асабліва прыемна было гэта рабіць на скразняку. Валасы цярушыць вецярок, па падбароддзі паўзе выпадковая мушка, а ты разгортваеш "Новы час". У газеце ўсяго хапае — яе мог чытаць не толькі капітан, але і матрос, ветэрынар, кантралёр білетаў, паэт. Можа, нават альбатрос?.. Хто яго ведае? Падабалася капітану вычытваць у літаратурнай укладцы цікавыя думкі… Магчыма, ён там мог сустрэць і наступнае:*

"Самае небяспечнае ў выдавецкай сферы, калі табе трапляецца істэрычны суб'ект. Тут праблема паўстае

з неадэкватнасці персанажа, а не з яго сквапнасці. Што ні рабі, як да яго ні падплывай — канфлікту не пазбавіцца. Прапілуе цябе ўздоўж і ўпоперак”.

*Яшчэ капітан любіў шоргат газеты. Так прыемна за кубачкам кавы разгарнуць велізарныя папяровыя лапухі. Цыгара з кішэні, спіралькі магнітнай кавы, дым духмянай цыгары і шоргат папяровага лісця — гэта натхняла на добры настрой. Яшчэ закінуць нага на нагу — і поўны камплект. Паважны, як чапля.*

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**16:30 панядзелак**

Аднойчы ў кнігарню запоўз інтэрнэт-вірус.

“Добры дзень! — сказаў ён і адразу прадставіўся: — Я ваш сябра, інтэрнэт-паразіт. Я да вас назаўжды! Я зараз буду вас грызці. Давыпендрываліся гаўрыкі. Навошта палезлі ў інтэрнэт-продажы? Сядзелі б у сваім балоце і не крумкалі. А цяпер атрымаеце па поўнай! Я вас буду ікламі калечыць і кіпцюрамі драць”.

Паразіт зыркнуў на Волму і нешта трохі спахмурнеў. У віруса было пяць ног і шэрая бліскучая скурка — ён у пэўным сэнсе нагадваў вусеня. Але твар... ці, хутчэй, пыса была гідкая і ўся ў іклах. Вачэй мелася дзесяць. Адным словам — мярзота. Волма не разгубілася. Махнула газетай “Трах-цібідох!” — Вірус пачаў пішчаць і матляцца па кнігарні. Што гэта была за газета? Застаецца таямніцай. Калі б хто ведаў, яе наклад быў бы неверагодным!

**57.**

— Сабакі!

— Якія такія сабакі?!!

— Тыя самыя. Яны ўчора адгрызлі нагу пісьменніку Л. Ён больш не будзе хадзіць.

— Хіба ён хадзіў? Ён і на дзвюх нагах толькі поўзаў.

— Ты залішне злосны. Я нават сказаў бы больш жорстка — ты садыст.

— Не я ж адгрызаў нагу ў пісьменніка Л.

— А хто гэтых сабакаў выпусціў?

— Хіба я?

— Ты прынамсі прычыніўся да гэтай справы.

— Можа, у сабак ёсць такая патрэба? Яны нібыта санітары прыроды.

— Адгрызаць ногі — у гэтым санітарыя?

— Гледзячы чые ногі. Вось Л. без нагі, можа, нарэшце створыць шэдэўр.

— А што, з нагой не мог?

— З нагой не было ў ягоных творах трагізму. А цяпер дакранешся вокам да тэксту, а ён напяты, нібыта пад гільяцінай.

* * *

— Дзядзька Барада, а што рабіць, калі наступіў на шкло і прапароў нагу?

— Быў у мяне аднойчы выпадак. Разбіў я дома фужэр для шампанскага. Шкло разляцелася па ўсіх закутках. І вымятаў яго (як быццам вылізваў палубу), а нешта ўсё роўна прамінуў. Між іншым, я люблю дома швэндацца басанож, прыемна адчуваць ступакамі дрэва. І вось

шлёп нагой на ладны кавалак шкла!.. Выцягваў яго, выцягваў, як у вядомай рускай казцы старэча рэпку… не хоча! Спатрэбілася ўначы выклікаць хуткую дапамогу. Забралі ў дзяжурную частку, дзе хірург вызваліў мяне ад шклянога сюрпрыза. Нечым прадэзінфікавалі, павязку наклалі і гудбай.

А далей — проста песня! Мой лоцман параіў добра змазаць ранку маззю Вішнеўскага, што я і зрабіў. І тут пачалося! Нагу маю расфігачыла да памераў нагі слана! Ляжу з тэмпературай, паміраю, думаю, што трэба ехаць у паліклініку і адразу пісаць спадчынны тэстамент. Мараль: паранілі нагу — пакладзіце яе ў тазік са спіртам — эфект самі пабачыце! Праз дзень яна сама будзе прасіцца прыняць спіртавыя працэдуры! Стане выстукваць пальцамі рытмы Шапэна, шлёпаць па лядоўні пяткай што ёсць моцы! Калі не пойдзеце ёй насустрач, зробіць забастоўку — адмовіцца наведваць прыбіральню, давядзецца цягнуць гвалтам! А калі вы з ёй паразумееецеся, будзе булькаць і спяваць песні, адасобіць сабе жылую плошчу і навучыцца размаўляць па-ангельску! Праверце — я праўду кажу!

Адыходзім ад тэмы. Ціхенька адпаўзаем. Немагчыма весці бясконцую гаворку ні пра што. Хаця не — хлушу. Гаворка, безумоўна, канструктыўная і закранае акрэсленую тэму. Усё тлумачыцца адсутнасцю сістэматычнасці ў маіх аповедах. Я час ад часу засынаю, ці бухаю, ці займаюся сэксам і паміж гэтымі працэдурамі спрабую давесці да вас дзюрчэнне сваёй думкі. Гэта не проста. Вось калі зусім не жэрці і не хадзіць у клазет, калі зусім не бухаць і не бухцець з сябрамі, тады, магчыма, нешта з мяне вартае і выбліснe. Магчыма. А можа, і не. Можа, я ўсох бы ўвесь, як цытрына на санцапёку. Хто яго ведае? Пра гэта застаецца адно фантазаваць.

## Кнігарня Марс
## Палёт нармальны

Выпрастай руку — і па пальцах пабяжыць саранча. Паглядзі, якая яна прыгожая, — як лісце ад гарбузоў. Бяжыць і скача, а рука не заканчваецца. Рука як прамень да сонца. І ты ўжо просіш: "Спыніся, саранча, на імгненне, каб паглядзець у твае незямныя вочы, каб атрымаць несусветны кайф, каб выцерці ўзмакрэлыя вусны, каб заліць у перасохлае горла глыток квасу, каб крыкнуць: "Э-ге-гей!" Падкінуць саранчу высока-высока, раскінуць рукі і працягваць крычаць: "Э-ге-гей! Саранча!"

Дробс праходзіў скрозь кніжныя шафы — такія фокусы ў яго атрымоўваліся выключна ў сонечныя і радасныя дні. Ён сам не ведаў, адкуль у яго гэтыя здольнасці. У кнігарні было цяпер ціха, і ён проста дзеля забавы, праходзячы скрозь шафы, здзьмуваў пыл з кніг. У сонечных промнях гэта выглядала надзвычай гіпнатычна.

Раптам дзынькнуў званочак над дзвярыма. Дробс кінуў забаўкі і накінуў на сябе сур'ёзнасць: надзьмуў шчокі ды сеў за касу.

Госць быў падобны да чалавека-кракадзіла. Уся ягоная вопратка была пупырыстая і зеленаватая. Вочы былі светлыя.

— Добры дзень! — павітаўся Дробс.

— Добры, — адказаў наведнік і запытаўся: — Будзе нешта халодненькае?

— Магу прапанаваць піва, — не разгубіўся Дробс.

— Колькі будзе каштаваць? — здзівіўся чалавек-кракадзіл.

— За кошт установы, — абнадзеіў Дробс і працягнуў госцю бляшанку піва. У Дробса былі свае запасы, любіў ён выжлукціць на працы бляшанку-другую.

**58.**

Капітан Барада пачухаў патыліцу і запісаў:

“Што такое Дзень нараджэння?

П’яныя танцы на стале. Торт памерам з антылопу, з якога тырчаць шакаладныя рогі. Сябры — апухлыя, чырвоныя і вясёлыя. Стрэлы коркамі шампанскага. Грузінскія спевы да раніцы. Аэрапланы і дырыжаблі. Самалёты і цягнікі. Экскурсіі па майстэрнях. На раніцу — расол і піва. І дзіўныя звяры ў люстэрках.

Потым падыходзіш да акна — Фрыдрыхштрасэ”.

Капітан уздыхнуў, паставіў кропку і зірнуў у вакно: “Гэх, Вентспілс-Вентспілс”.

* * *

— Яну, — сказаў пузаты мужык. — Я шукаю Яну.

Мужык быў увесь круглы і салодкі.

— Вам трэба адшпіліць шчокі — яны набрынялі таматным сокам.

— Гэта яшчэ чаму? — пакрыўдзіўся мужык.

— Таму што вашыя мазгі пераўтварыліся ў рагалік, — патлумачыў я.

Штосьці засвісцела і выбухнула. На стале ляжаў кекс і дыміўся.

— Свежанькі, — сказаў мужык.

* * *

— Ну, што думаеш — супакоіцца ці пачне чарговае скавытанне?

— Гледзячы на яго, можна сказаць, што кароль — голы! Але ўсе маўчаць, і ў гэтым галоўная бяда.

Галава шлёпнулася на падлогу і глыбакадумна заўважыла:

— Зразумела, што гэта рытарычнае пытанне. Можна разважаць колькі заўгодна пра шчасце і бяду, пра карму і лёс, але сітуацыя вымагае радыкальных рашэнняў. Трэба зрабіць змову ў галовах, і няхай целы жывуць як хочуць. Тады і будзе вынік. Адбудзецца крышталізацыя прасторы.

Пашча развілася, і туды запоўз цягнік.

Грукаталі колы і зубы, і было адчуванне, што ты знаходзішся на нейкім сталеліцейным заводзе.

Крывы са свістам выдыхнуў, але здолеў устаяць на нагах, хаця яго цягнула да зямлі, нібыта магнітам. “Праклятая гарэлка”, — працадзіў скрозь зубы Крывы.

— Зімой цюлені прымярзаюць да колаў аўтамабіляў, — заўважыў Гарыныч.

— Гарыныч, — сказаў я. — Мне здаецца, што твой нос на марозе прымёрз да рыльца бутэлькі. Яшчэ трошкі — і сапраўды ў бутэльцы будуць плюхацца цюлені.

— Я — тваё сумленне! — зароў Гарыныч і моцна ўчапіўся за мае плечы. Здавалася, што ён хоча вытрасці з мяне словы прабачэння.

— Я сам сусам! — адказаў я. — Яшчэ ўчора быў перакананы, што мне жывецца горш за гномаў! А сёння ўпэўнены, што я абраны герой! Мой лоб — ціхая гавань для караблёў!

— Я ем свой хлеб не дарма! — ашчэрыўся Гарыныч і з усяе моцы штурхануў мяне.

Я не ўтрымаўся на нагах і паваліўся на бетонныя пліты.

Крывы п’яна зарагатаў.

— Вы — дурні! — крычаў ён. — Я самы сумленны баклажан на свеце!

— Вы тут што, белены аб’еліся? — раптам запытаў невядомы барадач. Ад барадача падымалася пара, быццам ён выскачыў з парыльні. Яго чырвоны твар абсякалі жоўтыя шнары. Ён нечым нагадваў чалавека з іншай планеты.

— Вы, пэўна, іншапланетнік, — спытаў я і паспрабаваў устаць. Ногі ледзь слухаліся.

Міма пргрукатаў трамвай.

Невядомы нават не ўсміхнуўся і сказаў:

— Усіх вас.

— У сэнсе? — не зразумеў я.

— І не шкадуючы, — дадаў невядомы.

Крывому гэты дыялог не спадабаўся:

— Валі адсюль, дзядзька, — параіў Крывы.

— Я люблю футбол, — нагадаў Гарыныч.

— Думаю, што сябры маюць рацыю. Валі адсюль, барадач. Мы цябе не ведаем і нам не падабаюцца цьмяныя пажаданні.

— Ніякай цьмянасці. На свеце скончылася свята. Цяпер толькі адрыжкі і сумныя пацалункі на развітанне. Верыш не верыш, але мусіш жыць па законах гэтай тэрыторыі. Мы — першыя.

— Ы-ы-ы-ы!!! — зароў раззлаваны Гарыныч. — Я магу зрабіць балюча!

— Я і кажу, сонца закацілася на захад. Выратавання няма. Гучыць гонг лёсу. Грып скасіў сёлета лепшых. Мы паміраем.

— Прыбярыце гэтага ідыёта! — заенчыў Крывы. — Я зараз яго прыдушу!

— Здохла, — сказаў барадач. — Здохла. І выплюнула. Засохла. Ляжыць непрыкметна і смярдзіць. Немагчыма трываць.

Мы, не згаворваючыся, кінуліся на барадача. Крывы ўчапіўся ў бараду, Гарыныч — у валасы, я — за куртку.

Хрып, крык, слёзы і пляўкі.

І раптам барадач кажа:

— Я — за восень!

Мы аслупянелі і выпусцілі дзівака. Нібыта экзатычную рыбіну. А ён гэтага толькі і чакаў. Фыррр! І хутчэй ад нас да трамвайных рэек. Заскочыў у нару трамвая. І махае адтуль жоўтым плаўнікам. Сядзіць за шклом быццам не барадач, а ягоны прывід. І гэты прывід махае рукой. І паказвае нам крыўдныя жэсты. Ах ты, сволач!

Трамвай паведаміў:

— Учора падаражэў праезд! Зайцоў ловім на салодкае і потым пускаем на каўбасу! Так што не жартуйце са мной, хлопчыкі!

Калі ў гэтай краіне напаткае цябе шчасце? Ніколі! А мо хоць некалі? Не-а, і не спадзявайся. Паглядзі, паглядзі, рассунь фіранкі, вытыркні нос за вакно! Магчыма, нешта і здарыцца добрае. Пустая бутэлька праляціць над галавой і цябе не зачэпіць. Мент, нібыта пералётная птушка, таксама праляціць над галавой, нешта пракурлыкае і памахае добразычліва вялізнай рукой. Галоўнае своечасова адпаўзці, вывернуцца. Каб цябе не зачапіла, не аглушылі. Тым болей, каб не ўзнагародзілі дзяржаўнай прэміяй!..

Па прыступках, па прыступках — выпаўзці змяюкай на паветра, агледзецца і хутчэй да мяжы!.. Да мяжы нашай з вамі свядомасці. Дзе няма гэтай рэчаіснасці. Так-так. Туды, дзе гэты дзікабраз не тыркаецца сваімі голкамі і не нюхае вашыя кеды.

* * *

Я паглядзеў фільм “Любоў і нянавісць у Лас-Вегасе”. І задумаўся пра сваё жыццё.

Выпіў. Пасля гэтага на наступны дзень быў абавязаны напісаць некалькі старонак тэксту. А калі нічога такога не зрабіў, значыць не апраўдаў уласнага даверу. Мне складана ўявіць пісьменніка цвярознікам. Нейкі ён не сапраўдны тады. Быццам ненатуральны. Сумнае жыццё і сумныя кнігі. Жыць трэба напоўніцу і пісаць гэтаксама. Гэта не аксіёма правільнасці, крый божа, але тым не менш.

— Дык мо наогул пасадзіць цябе ў бутэльку? Сядзі там і булькай. Мне часам здаецца, што ў цябе замест крыві плюхаецца каньяк. Твае банальныя формулы — усяго толькі няўдалае апраўданне сваіх учынкаў.

* * *

Калі я напіваюся, я раблю неверагодныя рэчы. Мяне не пазнаць. Па-першае, я выцягваю з шафы валізу і хаваю туды галаву капітана Барады. Затым я выбягаю з дома, бяру таксоўку і еду ў казіно. Па дарозе яшчэ даганяюся каньяком. Я магу і не даехаць. У кожнага пакалення ёсць свае культавыя месцы. Да такіх месцаў

прыглядаюся і я. Можна заруліць і на Зыбіцкую, дзе спусціцца ў нетры бара “Дно”.

Але спачатку пра казіно. Вы ўяўляеце, як я граю ў рулетку? Пад сталом ляжыць валіза з галавой Барады.

Я пытаюся:

— Ну што, колькі паставім на суседзяў?

— Анічога не паставім! Дапівай свой каньяк, даядай цытрыны і валі дахаты! Да жонкі! Да дзіцяці! Валі, кажу! Усё роўна ты банкрут. Яшчэ некалькі ставак — і ты ў пралёце!

— Маўчы, спецыяліст дзяўбаны. Куды ж ты падзеў сваё цела, недароблены?

Валіза пачынае падскокваць і брыдка лаяцца. Круп’е падазрона на мяне паглядае. Я б’ю нагой па валізе.

— Калі ты зараз не супакоішся, я цябе з капустай замарыную.

— Лашара, ты ж затэрарызаваў жыхароў гэтага дома!
— Стараюся! Гы-гы.

Я ўсміхнуўся. Потым прыбраў з твару ўсмешку і схаваў у кішэні. Дзень быў пахмурны. Не доўга думаючы, я адкруціў пару пальцаў, потым ногі і папоўз да шафы. Схаваўся ў яе. І з палёгкай уздыхнуў. Дробнагабарытны. Заснуў.

Сон накаціўся. Нібыта шторм. Ён чакаў мяне, гэты сон. П'яны і цяжкі. Здавалася, што я ў сюррэалістычным сіропе. Цікава, як можа выглядаць сюррэалістычны сіроп? Неба было цьмяным, амаль чорным. У вялікіх навальнічных хмарах. Гмахі нахіляліся над галавой, падалі. Здавалася, што жыццё беспрасветнае. Я стаў разважаць пра каштоўнасці. І тут жа сябе спыніў. Ну якія могуць быць у мяне каштоўнасці? Нават смешна. Мая каштоўнасць — гэта бясконцая дарога, якая адзіночыцца са змрочным небам. Гмахі і бетонныя тарты гармануюць з маім светаўспрыманнем.

паміж радкамі, запісанымі падчас кашлю лектара, ты вылоўліваў птушак, што хаваліся ў каве. Даводзілася браць лыжку і бразгаць. Птушкі, нібыта мініяцюрныя цюлені, выскоквалі ў суседскі кубачак, дзе плюхаліся, фыркалі і палохалі калег. Па стале качаўся бублік. Зрэшты, адпіваючы кавы, ты разумеў, што не ўсе птушкі паспелі ўцячы, бо яны казыталі горла, пішчалі і, верагодна, патрабавалі свабоды. Адрыгваючы, прызнаваўся, што паглынальнік музыкі, і дэманстраваў пуза, якое гудзела, нібы вулей, бо там, апроч кавы і птушак, магчыма, былі жабкі, саранча і пэўна шмат якія інсекты…

цягнік грукоча, і хочацца спаць, але нельга.

— Ты ўжо мусіш піць гарбату, — сказаў праваднік. Выглядаў праваднік на капыл цацачнага салдаціка, выплаўленага з волава. І ён быў з адной нагой. Неверагодна! Першы раз у жыцці мне сустрэўся праваднік без нагі! Але што гэта быў за праваднік?!! Ён круціўся ваўчком. Быў нейкім гнуткім і ўчэпістым, нібыта малпа. Здавалася, што яму хапіла б і адной рукі, настолькі ён быў рухавым і спрытным. Было нешта яшчэ, што ўражвала. На ягоным твары трое ў фуфайках пілі гарэлку і гралі на гармоніку. Да таго ж яшчэ двое ў піжамах пілавалі дровы. А побач тлустая баба гатавала яечню. Калі яна пачала падгараць… я не вытрымаў і паспрабаваў спыніць гэтую какафонію:

— Гарыць! — залямантаваў я. — Гані сябрукоў прэч!

— На заводзе людзі плавяць руду, — адказаў праваднік. — А вы тут сёрбаеце гарбату і робіце недарэчныя заўвагі!

У гарбаце варушыўся руды мураш, і ён таксама азваўся:

— Вы тут п'яце гарбату і не заўважаеце простых дальнабойшчыкаў! Трэба асцярожна ўжываць гарбату! Асабліва ў вагонах! Гэта вельмі небяспечная справа.

цягнік ператварыўся ў вусеня. Я хацеў злавіць яго ротам. Адчуваў сябе карпам. Згадваў пра тое, што люблю лавіць рыбу голымі рукамі. Гы. Цягнікраструшчыў мае рэбры.

я адступіў і ўпаў.

“Усё — каюк”, — пранеслася ў галаве. Толькі ўсё ляцеў і ляцеў і ніяк не мог упасці. “Дзіўна, — думаў. — Здаецца я не ем галюцынагенных грыбоў”.

— Затое яны ядуць цябе, — сказаў мухамор.

Я прыгледзеўся. Побач са мной падаў Майкл Крывы. Ягоны твар быў чырвоны і ў белых плямах. Мухамор!

Я заплюшчыў вочы і сказаў: “Мухамор-мухамор, я дыму не ем! Адпусці маю душу — вярні рэальнасць”. “Гы-гы, — засмяялася рэальнасць. — Я тут лячу побач — трымай мацней, каб не збегла”.

І праўда, побач з Майклам ляцеў кебаб — вялікі і рэальны. “Зараз-зараз”, — пагадзіўся я і паспрабаваў злавіць таямнічы кебаб. А ён, сволач, добра запёкся, выслізвае, не даецца. Плюецца гарчычным соусам.

Голас соуса: “Я — соус. Я хачу быць самастойным! Жалься мне — і, можа, я табе дарую!”

Я прыглядаюся, а там, у соусе, сядзіць мой заклятые вораг Бельгон Белагонны, ці папросту — Пельпень Пышнабровы!

* * *

Менск заціхае даволі рана. Горад, чыё паветра засмечанае міліцэйскімі мігалкамі, кадэбэшным шэптам, п’янымі позехамі рабочых са шматлікіх заводаў. Горад з цьмяным мінулым і з цьмянай будучыняй. Горад-прывід. Горад-інвалід. Ужо няма веры ў гэтыя шырокія праспекты, ужо няма той гераічнай песні ў гэтых каменных шыротах. Здаецца, паветра тут яшчэ атручанае няўлоўным паралітычным газам.

— Пі не пі — лепшым не станеш, — сказаў Майкл Крывы і ўсміхнуўся.

— Я ведаю цудоўнае казіно — можа, зазірнем? — прапанаваў я.

— Не веру я ў гульню з аўтаматамі.

— Ну чаму з аўтаматамі? Я якраз прапаноўваю згуляць у рулетку.

— Рулетка можа быць электроннай.

Рулетка круцілася, і разам з ёй замест шарыка бегала штучнае вока. Нешта было жудаснае ў гэтым відовішчы. Лічбы мільгацелі, нібыта адлічваўся старт ядзернай ракеты.

***Першая мазгавая атака:***

У сераду я выйшаў з хаты і падумаў, што сэнсу існавання няма аніякага. Усё брыдка. І мне надакучыла.

Прычым не істотна, п’еш ты ці не п’еш. Колешся ці валяешся абдзяўбаны пад лесвіцай. Жыццё ідзе дзіўнымі зігзагамі. І самае прыкрае, што мы цалкам заангажаваныя ў побыт. Ён для большасці — адзіны арыенцір. Я не здзіўлены. Абывацелі калі не галасна, дык шэптам заяўляюць, што іх культурныя каштоўнасці — гэта каўбаса і ўнітаз.

бярэш малаток і прыбіваеш да падлогі гэты партрэт

вусы вытыркаюцца з яго, нібыта жывыя. Ты выцягваеш з кішэні грабеньчык і спрабуеш расчасаць чорнае валоссе. Потым прылізваеш. Ні халеры не атрымоўваецца. Тырчаць, нібы калючы дрот.

Аднекуль выпаўзае дзядзька. У вас узніклі правільныя асацыяцыі; сядзіш у пакоі адзін, а тут, быццам змяюка, нейкі выпаўзень. Такі яшчэ досыць малады выпаўзень. Недзе трыццацігадовага ўзросту. Гэты дзядзька ў гарнітурчыку, пры гальштуку. Твар — пырскі дажджу. Складаецца адчуванне, што пратрэш яго анучай — і ўсё змыецца незваротна. Будзе страчаны чалавек назаўсёды. Гэта як забруджанае шкло ці люстэрка — дыхаеш, плюеш і сціраеш рукавом. Дык вось. Гэны выпаўзень вузіць вочы і кажа:

— Ну і якога хрэна ты расчэсваў яму вусы?

*Здавалася, што жонка лобзікам выпільвае ў галаве дзіркі.*

*— Ыгы-ыгы, — кажаш ты.*

*Ты ўяўляеш, як галава танчыць на чырвоных вуглях. Пішчыць і нэндзіць.*

*— Ну, не румзай, вушастая… Выратуем.*

*Потым галава цяжка ўздыхае.*

*Сэнс пытання: калі? А калі невядома. Магчыма, у панядзелак ці аўторак. Чаму? Ды таму, што трэба. Бо ветру няма і сонца свеціць. Вось так і адбываюцца зрухі ў нашым жыцці. Без наплываў магмы. Кропкава. Змеяў павыкідалі ў сметніцу.*

***Другая мазгавая атака:***

— І колькі можна? — я ўжо стаміўся чакаць.

Затым паглядзеў на медузу — нешта мне не падабалася ў ейным колеры.

— Бл., — сказаў. — Якая бл. гэтая ваша заліўная рыбіна!

Сеў у машыну. Так. Счапленне, тормаз, здымаем з ручніка, уключаем першую перадачу. Счапленне… Газ!.. Інакш заглухне. Анічога не параблытаў? Бл. Бл. Бл. Не, здаецца, анічога не параблытаў.

Машына была яшчэ тая звяруга. Раўла, нібыта леў. Трыццацігадовай даўніны. Матор без голасу быў не маторам.

Ззаду захіхікаў брыдкі чалавек.

Барада задумаўся і запісаў: “Я — кубік Рубіка. Мой настрой залежыць ад надвор’я — сіні, чорны, чырвоны,

белы. Трушчу цела і ягоныя кавалкі складваю ў шкатулку. Я — біг-мак. Я жару сябе і пукаю глуха ды непрыгожа. Гэта як жыццё з маім любімым лысым дыктатарам. Я — біг-мак. Я — кубік Рубіка. Я — вадасцёкавая труба для блявоціны. Я — сусвет і я — пустэча. Кубік Рубіка і біг-мак грукочуць музыкай каменных прэрый. Музыкай чыстай смерці".

Пстрыкнуў пальцамі. І з неба апусціўся чалавек з вялікім шарам.

— Што трэба? Добры настрой? Няма праблемаў — вось табе марозіва, вось шатландскі віскі, вось карона і вось спартовы аўтамабіль. Чаго яшчэ?

— Жадаю танцаў у адзіноце каля вогнішча на бязлюднай выспе.

— Жадаеце? Калі ласка — атрымайце!

І вось ужо чалавецтва ператварылася ў далёкі міф. Вакол — зорнае неба, вогнішча, крыкі начных і нябачных птахаў. А ты танчыш і равеш на ўвесь свет. Равеш, і аніхто цябе не спыняе. Бо няма каму! Гэта свабода. Дык чаго вы жадаеце? Аўтамабіль, залатую карону, віскі, марозіва, шакаладу ці проста маленькі глыток паветра свабоды на бязлюднай выспе?!! Га?!!

* * *

— Гары, ён здаў! — крычаў нехта зверху. — Гэта неверагодна, але гэта факт!

Голас напаўняўся п'янай сілай. Гучаць ноткі цёплага віскі і летняй ліпкай газіроўкі. Голас аплятаў усё сваім павуціннем.

— Гары, ён здаў! Гэта неверагодна! Як ён будзе кіраваць?!! Гэта ж самазабойца. Ён пацалуе першае дрэва! Гары, я не веру ў ягоныя здольнасці! Мо ён сапраўды купіў тыя дакументы?!! Га? Гары? Паглядзі, у ягоных вачах свецяцца купюры! Ён жа хабарнік! Гары! Гары! Дрэвы са мной салідарныя — яны махаюць галінамі, яны скідваюць ад злосці сваё лісце!

* * *

Уверх — уніз. Паралельна. Уздоўж і ўпоперак. Назаўжды. Прыбяры! Рыба-меч — наперад! Зрэзаць гальштукі! Зрэзаць сосны і дубы! Бы кабы — грыбы! Грабі!

* * *

Я — дырыжор. Лес — гнуткія і пругкія струны. Дакранаюся да верхавін — чую стук дзятла і гудзенне мачтавых соснаў. “Учора мы забілі пчаляра!” — крычыць пугач. Рэха: “Забілі! Забілі!” Зноўку дакранаюся да верхавін — здаецца, тысячы гітараў шкамутаюць цішыню. “Навошта мы забілі пчаляра?!!” Рэха: “Навошта?!! Навошта?..”

* * *

Глухія нетры навальваюцца на плечы. Няхай тут растуць ананасы і бананы. Запальваю святло на гары і слухаю галасы цацак. Яны гучаць як свідравальныя агрэгаты. Пацалункі атрымліваюцца мёртвымі і патыхаюць рыбай. Я надзьмуваю вялікі жоўты шар і праціраю акуляры.

У маіх акулярах свет выглядае ружовым. І я не магу зразумець, падабаецца мне гэта ці не? Фары асвятляюць квадратных людзей. І здаецца, што на небе кветкамі распускаюцца ракеты.

* * *

Не хочацца пра тэракты, не хочацца пра крэматорыі. Тут пахаваная дзяржава, тут — золата ў трунах, якое не патрэбнае нават пацукам.

Маленькія прэзідэнты, канцлеры, дыктатары, дэпутаты і ўсялякая чынавенская шушамець — усё гэта булькоча ў катле. Ты падліваеш смалы. Ярка гарыць агонь. Спёка. Ты п'еш. Усміхаюцца два буслы. Ты п'еш, ты цэдзіш гаркавыя кроплі. Глядзіш на чырвоныя языкі. На журавінавыя галовы, якія тырчаць са смалы. У гэтым клёкаце. У гэтую спёку. У гэтым настроі ты чытаеш кнігу. Кнігу пра менеджмент.

Першы чытач быў хударлявы і бляклы, з прычоскай "а-ля меч вікінга", з залатымі зубамі, з срэбранай завушніцай у вуху, у тыльняху. Ён бясконца напяваў песеньку: "Першай справай самалёты... ну а дзеўчыны... а дзеўчыны потым..." Першы чытач выйшаў у вакно і пераўтварыўся ў дырыжабль. Гэта было паласатае паветранае судна.

Другі чытач быў жоўтым і з густым рабаціннем. Ён прыкідваўся дэндзі — на ім быў чорны гарнітурчык і чорны матылёк, пантофлі бліскалі, нібыта халадзец. Калі ён запальваў цыгару, з'яўлялася белая аблачына дыму.

Калі размаўляў, здавалася, што побач не чалавек, а рухомая лялька. Ягоныя паліраваныя зубы выдавалі штучнасць. Хацелася ўзяць рашпіль і дапрацаваць робата.

Другі чытач выйшаў праз дзверы і пачаў гаўкаць.

Трэці чытач нагадваў малпу. Здавалася, што на твары няма вольнага месца ад валасоў. Ён быў надзвычай нервовым — увесь час махаў рукамі. Вочы былі падобныя да секундамераў — круціліся як шалёныя. Апрануты ён быў вельмі дзіўна — нейкі руды камбінезон і сіняя пластыкавая каска.

Трэці чытач узяў цясак і расцерушыў паветра сваёй злосцю. Цясак блішчэў, быццам люстэрка.

Чацвёрты чытач — у валасах матылькі. Нос моркаўкай. Бровы — драпежныя нажніцы. Рукі — хвасты рыбіны. Усмешка падобная да бетоннага моста. Вопратка як у медбрата — шапачка і белая піжама.

Чацвёрты чытач распрануўся да майткоў і пачаў танчыць.

Пяты чытач быў на бульдозеры. Ягоны твар свяціўся радасным семафорам. Ён быў у сіняй форме. З неба падалі не зоркі — светлякі. Чытач заспяваў, як оперны саліст. Птушкі заціхлі, людзі спалохана азіраліся, здавалася, што нават бульдозер заглух.

Шосты чытач без спыну грыз чэрствую булачку. Ягоная даўгая шыя нагадвала белую калону. Казліная бародка падкрэслівала, што ейны ўладальнік прэтэндуе на інтэлігентнасць. У перапынках паміж жаваннем ён

уздыхаў і галасіў. На чытачы быў спартовы гарнітур і тапачкі, падобныя да янотаў. Калі пачуліся параходныя гудкі, чытач перабраўся на карабель і памахаў на развітанне рукой.

Сёмы чытач у шаленстве разарваў кнігу зубамі. Я прыгледзеўся. Нешта было нязвыклае ў гэтым сёмым. Ну, радзімкі і шнары не здзіўлялі. Хіба кідалася і гіпнатызавала адзінокае вока, якое было пасярод твару, над носам. Так! Гэта быў цыклоп!.. Жоўтае вока пазірала на мяне не злосна — у ім было пытанне даследчыка. Гэты сёмы быў не простым чытачом — ён хацеў прэпараваць, бо меў вялікую цікаўнасць да медычнай навукі.

Я люблю кожнага з пералічаных чытачоў. Вы ўсе неверагодныя! І вас значна больш за лічбу сем! Прынамсі я ў гэта веру! Веру — у сто першага чытача!

— І што, дзе кульмінацыя? — запытаў сто першы чытач. Чытач быў мажным, часта дыхаў і хапаўся пухлымі рукамі за сэрца. Па ўсім было бачна, што яму кепска.

— Я пытаюся: дзе кульмінацыя?!! — ужо крычаў ці хрыпеў таўстун. — Што, так паэтычна ўсе і распаўзуцца па сваіх норах?!!

— Не! — запэўніў я. — Не паспеюць!!!

* * *

Генерал атрутна заўсміхаўся, падышоў да пульта і, доўга не думаючы, націснуў на вялікую чырвоную кнопку.

Загрымела, заклекатала. "Першая пайшла", — працадзіў скрозь зубы генерал і зняў фуражку. Першая ракета накрыла Мюнхен.

"Другая пайшла", — працадзіў генерал, зноўку націскаючы на кнопку. "Трэцяя пайшла"...

# КАЗКА

## пра Караліну, якая збегла ў лес, і пра ейную бараду, якая заўсёды вырастала пасля кефіру



**1.**

Кефірная Барада ўздыхнуў, паглядзеў у люстэрка і ўсміхнуўся. Кефір патрапіўся смачны. Адлюстраванне было з гэтым згоднае. Учора Барада зарокся больш не сумаваць. Гэта ў яго звычайна атрымлівалася, калі ён не чытаў дэтэктываў. Сёння Кефірная Барада раптам вырашыў напісаць казку пра маленькую смелую дзяўчынку. (Праўда, невядома, што з гэтага атрымалася.) Ён пачухаў белае падбароддзе, выпацкаў пальцы ў кефіры і пачаў нашэптваць на дыктафон дзіўную гісторыю. Мазгі напружваліся і спараджалі цудоўныя кефірныя вобразы.

* * *

Караліна была вельмі добрай і прыгожай дзяўчынкай. Яна слухалася маці, любіла варэнне, сушкі, батон з маслам, грушы, яблыкі, персікі і проста не магла жыць без малявання. Яна была невялікая ростам, але ейныя вочы заўсёды свяціліся тым таемным і светлым, што многія блытаюць з рамантычным глупствам… Не, гэта было нечым іншым, бо яна любіла сваволіць. Хм.

## 2.

**Дзённікавыя нататкі капітана Барады, якія ні да чаго не абавязваюць:**

Сёння мы цэлы дзень шукалі Караліну і не знайшлі. Усе падазраюць шэрага воўка. Паводле словаў ягоных знаёмцаў ліса і шакала, напярэдадні ён паводзіў сябе даволі дзіўна; схадзіў у краму і набыў два кілаграмы цукерак “Кароўка”, тры пачкі сушак “Кусарыкі з карыцай”, пяць літраў розных сокаў і два кілаграмы бананаў. Калі шукалі Караліну, яго ніхто не бачыў. Сваю нару ён чамусьці не зачыніў. І ў мяне ўзнікае сур’ёзнае пытанне: дзе гэты ваўчара?

Нехта ж абавязаны адказаць на пытанні.

Няхай пытанні застаюцца прысыпаныя цукрам.

Выцягні сіняе вока і не думай пра наступствы.

Магчыма, усё толькі пачынаецца. Вецер і снег.

У галаве поўзаюць метэарыты. Мабыць, змяняецца надвор’е. Усё да лепшага.

Абшукалі ўвесь лес. Здаецца, не было елкі, пад якую не зазірнулі. Вожык Антось прапоўз пад кожным карчом. Няма.

Заўтра да пашуковай групы далучыцца атрад буслоў. Спадзяюся, што менавіта заўтра нашыя пошукі будуць паспяховымі.

**3.**

— Бардак, — сказала жонка.

— Слова “бардак” няма ў беларускай лексіцы, — замармытаў патаемны голас. — Мажа, бедлам? Вэрхал?

— Не! — крыкнуў я. — Гэта быў менавіта Бардак! Не істотнае ягонае паходжанне!

— Мажа, татарскае? — замармытаў голас.

— Гэты Бардак — персанаж, які прыехаў да нас з Фінляндыі. Звычайны Дзед Мароз, — сказаў я.

— Не мудрагель, — папікнула жонка.

Бардак усміхнуўся. У ягоных вачах гулялі сполахі любові. Толькі барада, падобная да ватнай, была не белай, а жоўтай. Бардак зноўку ўсміхнуўся, і мне падалося, што з ягонага рота выскачыў зуб. Я прыгледзеўся. І сапраўды, за шафу схаваўся не прусак, а звычайны паедзены карыесам памаранчавы зуб. Я паказаў на ўцекача пальцам:

— Глядзіце, зуб выпаў.

— Дзе? — не зразумела жонка.

Тым часам зуб знік.

— Ён даў нырца за шафу, — канстатаваў я.

— Мажа, гэта прусак? — засумняваўся Бардак.

— Не! — сказаў я. — Гэты псеўдапрусак выскачыў з вашага рота!

— З майго? — здзівіўся Бардак. — Мо падалося? Здаецца, усе зубы на месцы. — І Бардак пачаў корпацца бруднымі пальцамі ў роце.

У гэты момант мы пачулі:

— З твайго! З твайго! Мне надакучыла!

Бардак ледзьве не папярхнуўся і здзіўлена вылупіў вочы. Ды і мы з жонкай адчувалі сябе не вельмі ўтульна.

— У мяне галюцынацыі, — сказала жонка. — Я зараз вярнуся — пайду вып'ю валяр'янкі.

І яна паспяшалася на кухню.

Мы пачулі грукат. Нехта барабаніў па батарэях у суседняй кватэры. Мабыць, паверхам ніжэй.

— Гэта што? — здзівіўся Бардак.

— Суседзі, — сказаў я, — папярэджваюць, што мы гучна размаўляем.

— А мы гучна размаўляем? — здзівіўся Бардак.

— Хто яго ведае? — сказаў я. — Можа, зуб гучна тупаў?

— Бардак, — канстатаваў Бардак.

— І я пра тое ж, — пагадзіўся я.

**4.**

Крыкніце: “Кнігарня!” Крыкніце: “Крумкачы, на поўнач!” Залямантуйце!.. Не стрымлівайцеся. Кнігарню падзяляем на сектары. Мне падабаецца сектар пад назвай “Лупавокія”. (Сюды трапілі тыя, хто запісвае ўсё — ад жамярыцы да гары Кіліманджара.) Гэтыя не прапускаюць аніводнага пука і мараць быць знакамітымі, як Мікола Гусоўскі.

**5.**

**Прамова мастака БЕРЛІНА РОДЗІМА ў кнігарні перад велікодным шакаладным зайцам:**

“Будзем да канца паслядоўнымі. Не станем здраджваць сваім запаветам. Мы верым у слушнасць нашай

канцэпцыі. Наш Казімір Малевіч без сумневу самы сапраўдны. Нашыя супрэматычныя ідэі самыя перадавыя.

Не эксперымент дзеля эксперыменту. Не перформанс дзеля перформансу. Не для клаўнады. Мы працуем на вечнасць.

Зразумеў?"

Родзім паглядзеў на шакаладнага зайца і даў яму пстрычку па вуху. Заяц заварушыўся, нібыта пластылінавы, расплюшчыў вочы і патлумачыў мастаку:

— Я ў прынцыпе згодны. У мяне няма пярэчанняў у цэлым. Мабыць, ёсць толькі сумневы наконт пэўных дэталяў.

Родзім папярхнуўся, пракашляўся і хрыпла запытаў:

— А што ты думаеш наконт чорнага квадрата?

— Я хутчэй за роварнае кола — яно мне маральна бліжэй. Хаця мяне найбольш натхняюць звералюдзі Акулава.

— А са мной як?

Заяц, здавалася, не пачуў і працягваў:

— Шамякін мяне часам палохае дробнымі галовамі волатаў.

Родзім маўчаў, толькі перамінаўся з нагі на нагу.

— Да цябе я пакуль не дарос, — нечакана прызнаўся заяц.

— Праўда? — узрадаваўся Родзім.

— Пакуль манументальны жывапіс — гэта не маё. Буйная трава не смачная — ды і не дацягнуцца мне.

**6.**

Ноч. За акном трамваі. Тут рэйкі яшчэ не хаваюць грукату цяжкога жалеза. Ліхтары ператвараюць вуліцы ў рабрысты калідор. Я раздумваю пра тое, што мой голас губляецца ў бясконцых прасторах цямрэчы. Мяне ніхто не чуе. Колькі ні намагайся — усе глухія. Быццам паўсюль накідалі гумовых манекенаў. Хочацца крычаць — і не атрымоўваецца. Страшна. Думаеш, а што калі нехта спыніцца і прыслухаецца… Будзе ўсё марна. Бо голас губляецца. Ужо заціхае і шэпт. Варушацца вусны. Словы не гучаць. Здаецца, што на патэльні запякаецца не яечня — запякаецца жоўты крык. Слова.

**7.**

Маніпуляцыі мне не дапамагаюць. Хочацца ўдакладніць: "маніпуляцыі з розумам". Але ці ёсць ён — гэты розум? Мне здаецца, што мазгі атрафіраваліся. Уяўляю сябе з вялікай лыжкай над уласным чэрапам. І быццам выбіраю з галавы не проста шэрае змесціва — халву. Думка скача, як злоўленая ў слоік аса. Няўжо мне наканавана весці гэтую вечную барацьбу з самім сабой? Чым яна скончыцца? Уласнай паразай?

**8.**

— Пакуль ты тут пішаш, — сказала жонка, — суседзі паставілі новыя вокны.

— Ну, ты ж была ў камандзіроўцы, — заўважыў я.

— Пакуль я была ў ад'ездзе, Коневы набылі новую канапу!

— На тое яны і Коневы, каб цягаць канапы.

— Між іншым у прыбіральні лямпачка перагарэла, — нагадала жонка.

— На тое яна і лямпачка, каб перагараць.

— Там цёмна! Я анічога не бачу! — крыкнула жонка.

— Вазьмі мой ліхтарык, — прапанаваў я.

— Я больш так не магу! — абурылася жонка.

— Выпаўзай, — рашуча сказаў я і адкрыў тумбачку.

Жук-насарог вылез, нібы мініяцюрны танк, і скіраваўся да маёй жонкі. Тая не верыла сваім вачам. Ад здзіўлення выпучыла вочы і знямела. "Бз-з-з-з-з-з", — загудзеў жук і з цяжкасцю ўзляцеў. Жонка залямантавала: "Ратуйце!!! Вусякі!!!"

— Родная, супакойся! Я хацеў толькі зрабіць табе сюрпрыз. Гэты жук з ірландскіх балотаў! Умее танчыць і спяваць! Ён неверагодна разумны — ты яго палюбіш.

— Ратуйце!!! Вусякі!!! — не сунімалася мая любая.

Тым часам жук прызямліўся каля жонкі. "О богі, што гэта за рогі! О божа, божа!.. Мой няшчасны ложак!.."

— Жук можа несці маленькі ліхтар, — усцешыў я.

**9.**

— Маё мастацтва трымаецца сігналамі іншапланетнікаў, — прызнаўся Родзім. — Штодня, штохвілінна я лаўлю гэтыя імпульсы і пераношу іх на палотны. Зразумеў?

Шакаладны заяц кіўнуў і пацёр лапай нос.

— Космас — гэта тое, што нас трымае, — працягваў Родзім. — Без яго не было б анічога. Імпульсы — гэта святое.

Заяц звузіў вочы:

— Можа быць. Можа быць. Але як жа: “Ад зямлі і ад сахі”? Некаторыя кажуць пра свае карані ад зямлі і пра тое, што іх мастацтва тут ад прадзедаў-прашчураў…

Родзім захмыкаў і загундзеў:

— Усё праз партвейн!.. Калі дзень пачынаць з яго — усё вельмі добра заканчваецца. Менавіта. Я люблю крымскія партвейны. Хаця апошнім часам захапіўся партугальскімі.

**10.**

Трамвай пратараніў танк на вуліцы Чырвонай. Гэта не было спланаванай дыверсіяй. Так склалася, што адначасова сустрэліся два выпівохі, адзін сядзеў за стырном трамвая, другі — танка. Адзін ехаў на рэпетыцыю параду, другі рабіў замоўленую трамвайную экскурсію. У выніку сустрэчы атрымаўся таран. І гэта было падобным да грукату гранёных шклянак. Адначасова нагадвала братэрскія абдымкі і бой аленяў. Параненых і загінулых не было. Кіроўцы вываліліся на тратуар і пачалі поўзаць адзін вакол аднаго. Яны мяўчылі і крумкалі. Загадкава размахвалі рукамі. Выгіналіся ў дзіўных танцах. І так працягвалася да прыезду экіпажа ДАІ — потым гэтая неверагодная какафонія, на жаль, скончылася. Амін!

**11.**

Як памятаю, у кнігарні было ціха, толькі пазвоньваў насценны гадзіннік. Я падышоў да паліцы і ўзяў кнігу. Не памятаю дакладна, але, здаецца, гэта быў раман Хуана Мануэля Маркаса “Зіма Гюнтэра”. Раптам кніга пачала выгінацца ў руках і нечакана ператварылася ў гадзюку. Я ў жаху адкінуў змяю ад сябе падалей. Яна поўзала па падлозе і шыпела. Калі я закрычаў, на мой крык падбегла прадавачка, якая мяне пачала супакойваць і казаць, што анічога страшнага не адбылося. Не ведаю, не ведаю, толькі я напраўду вельмі напалохаўся. Гадзюку тым часам нейтралізавалі — запхнулі ў нейкі кошык і вынеслі на вуліцу. Але на гэтым прыгоды не скончыліся. Калі прадавачка пайшла па шклянку вады для мяне, я вырашыў пагартаць нейкі фотаальбом з краявідамі прыроды. І толькі разгарнуў яго, як адтуль пасыпаліся яблыкі… Напраўду гэта было вельмі нечакана — я ледзь здолеў закрыць той дзіўны альбом. Таму супрацоўніца, калі вярнулася, была вельмі ўражаная, пабачыўшы мяне на гары з чырвоных яблыкаў.

Люстэркі бываюць рознымі. Што галоўнае ў люстэрку? Вы падумалі пра тое, што і я? Разглядваць свае прышчы? Чысціць зубы? Галіцца? Паказваць фігі? Не! Яшчэ шмат разоў не! У люстэрку самае галоўнае — памяць!.. Яно шмат чаго памятае. І ад гэтага не схавацца — яно як бясконцая кінастужка ў часе. Але гэтую памяць можна пры жаданні знішчыць! Дзе мой малаток?!!

## 12.

Капітонычу зусім дрэнна. З белага ён робіцца чорным. Пабачыўшы ў люстэрку свой счарнелы твар, лямантуе.

Капітоныч... Капітоныч... Што ж цябе можа выратаваць? Хіба што тая вялікая ружовая пігулка ад лекара дзядзькі Фёдара. Ён пакладзе яе на белую талерачку і скажа некалькі ласкавых словаў: “Ну, давай, мой маленькі спаніэль”. І можа, як таго сабаку, пагладзіць па галоўцы.

## 13.

Сямёра аднаго не чакаюць… Нешта ў гэтым ёсць. А можа, чакаюць? Усялякае бывае.

Стаіш у ванным пакоі каля люстэрка — голішся. І раптам з люстэрка выплывае незнаёмы твар і побач матэрыялізуецца незнаёмец.

— Вітаю, — кажа незнаёмы.

— Вітаю, — мармычаш ты, — калі не жартуеш.

— Чаго мне жартаваць? — кажа незнаёмы. — Я чалавек сур’ёзны.

— А трапляеш у госці гэтак несур’ёзна.

Незнаёмы апрануты ў чорны гарнітур. З выгляду клерк клеркам.

## 14.

Я нікому не веру. Мая недаверлівасць выпешчаная і ўзгадаваная на бульбе. Я падыходжу да рондаля з бульбай і паведамляю:

— Наступны!

## 15.

Я зайшоў у кнігарню. І, здаецца, трапіў у іншае вымярэнне, бо тут не проста… тут складана. Як гэта патлумачыць? Паспрабую распавесці. Паглядзіце на сябе ў крывое люстэрка — падабаецца? Думаю, што не вельмі. Тым не менш у гэтым нешта ёсць, ці не праўда? Так-так — ёсць. У крывых люстэрках могуць быць непрыемныя для нас адбіткі, але яны прыцягваюць сваёй выродлівасцю. Нават часам весяляць. Так і тут. Кнігарня насычаная нейкай неверагоднай атмасферай, якую цяжка патлумачыць. Першы, хто цябе тут сустракае, гэта кот, які плавае ў паветры на прасавальнай дошцы. Кот папыхвае люлькай і шырока ўсміхаецца. Далей некалькі вайскоўцаў голасна чытаюць нешта паэтычнае… ты прыслухоўваешся… ага… дык гэта паэма “Дзяды” Адама Міцкевіча!.. А там з правага боку за столікам кнігагандляры і наведнікі п’юць гарбату з пернікамі. У цэнтры гэтага хаўрусу раскарачыўся вялікі самавар. Ба-брр!!! Што гэта? Глядзіш на згук — уверсе пад столлю на драбінах невядомы ў аранжавай спецвопратцы працуе з перфаратарам “Ба-брр!!! Ба-брр!!! Ба-брр!!!” Какафонія. Як тут выбіраць кнігі?!! Як тут знаходзіцца?!! Як тут чытаць нешта? Фантастыка. Першая рэакцыя — адвярнуцца і сысці, але цябе нехта хапае за руку:

— Вітаем, спадар капітан! — дзяўчына ветліва ўсміхаецца. — Мы заўсёды радыя бачыць у сябе такога слыннага чалавека!..

— Добры дзень! Вось зайшоў — думаю, што сябру на дзень народзінаў падарыць… Даўно ў вас не быў. Можа, што параіце?

— А можа, жадаеце прайсціся па нашай экскурсійнай зале? — раптоўна прапаноўвае дзяўчына.

— У вас такая ёсць? — дзіўлюся я.

Дзяўчына хіхікае і паказвае рукой, куды ісці. Падыходзім да лесвіцы, якая

якая нібыта абрываецца.

Якая быццам у нікуды.

разлом у прасторы часу.

— Што там? — шапчу я.

— Там добрыя весткі. У банкетнай зале за дзясятым столікам вас чакаюць бацькі.

— Бацькі? — я здзіўляюся.

— Яны прасілі перадаць, каб вы не хваляваліся. Што з імі ўсё добра. Яны ўсім задаволеныя. І вельмі чакаюць і сумуюць.

— Яны не памерлі? — пытаюся я.

— Не, — кажа дзяўчына. — Толькі не сёння.

**16.**

— Мне надакучыла апраўдвацца за свае ўчынкі, — сказаў я. — Я раблю, і значыць, так трэба. Я дарослы чалавек. І ўсе мае выбрыкі — толькі мае! Я памру, а яны застануцца і будуць нагадваць людзям пра мяне.

— І што тут добрага? — здзівіўся Майкл Крывы. — Хочаш застацца ў памяці людзей блазнам? Маўляў, паглядзіце, гэта вось той казёл хадзіў з расфарбаванай пысай і гаўкаў на людзей! Вельмі пераканаўча — няма чаго казаць.

— А як жа перформары?

— Твае перформансы — гэта адстой!..

**17.**

(атруціўся? Пакаціўся? Паклалі ў шуфляду? Рукі завязалі? Кляп (затычку) у рот запхнулі? Мабыць, вельмі хочацца, каб так і было? Каму патрэбны гэты надакучлівы чытач? Твае пытанні ўжо папярок горла!.. Калі не разумееш, што лішні, — тады бяда. Гэта не проста надоўга — гэта назаўжды. Будзем спадзявацца, што мой рэвальвер на месцы.)

**18.**

— Чаму муха не спіць? — запыталася Караліна.

— Стала спякотна, — сказала мама. — Пацяплела — вось яна і не спіць.

— Гэта паэт, — сказаў тата. — П’яны Чарльз Букоўскі лётае, вершы піша — не спіцца яму.

— Пад мухай, — дадала мама.

— Чаму муха лётае? — зноўку запыталася Караліна. — Чаму муха не спіць?

**19.**

— Я хачу, каб твая галава больш маўчала! — заявіла жонка.

— Што ты маеш на ўвазе? — спалохаўся я. — Табе не падабаецца са мной размаўляць?

— Гаворка не пра цябе! Тваё балабольства яшчэ трываць можна. А вось да капітана Барады і ягонай сяброўкі галавы — гэта паўз усялякія межы! Трызненне! Думкі ні пра што!

— Не хвалюйся, дарагая, паводле маіх звестак галава прыдбала сабе шыю цмока, які згубіў адну з сваіх галоваў, — цяпер яна не сумуе.

— А як жа капітан Барада?

— Загінуў смерцю героя!

Жонка, мабыць, здзівілася, бо паглядзела на мяне неяк сумна і толькі цяжка ўздыхнула. Яна заўсёды ўздыхала і ціха нурылася, незалежна ад надвор'я ці настрою. Рытуал быў такі. Трэба пашаптаць. Начараваць. Чагосьці набубніць. Можа, нават нешта паражагнаць. Але ціхенька, незаўважна. Як быццам і не было нічога. Можна і прыхаваную цацку ў кутку пацалаваць.

* * *

Галава задумалася і запісала: "Караліна, ты дзе? Касманаўт Каралёў — ты дзе? Каноплі ці плямы на стале? Кароль, ты дзе? Пальцы бягуць па запыленым плінтусе. Кароль нягучна выконвае сваю ролю. Кароль выпускае кольцы дыму".

Цмок агледзеўся.

У чым сэнс існавання галавы? Адны хочуць запхнуць у рот кляп, другія — смяюцца і паблажліва дазваляюць ёй мармытаць. З аднаго боку падаецца, што існаванне галавы парушае законы светабудовы. Хаця калі ўзважыць, дык кожны другі парушае нейкія законы. Нехта закрычыць: "Турмы перапоўненыя! А вы туды ж?!!"Дык мо гэта і да лепшага? Шпацыраваць пад адзін капыл — у гэтым мала чаго вартага. Я б нават дадаў, што ў гэтым шмат чаго выродлівага.

А можа, галава — гэта не галава? А бокс, дзе захоўваецца інфармацыя для бібліятэчнага фонду? Магчыма,

гэта электронная прылада, зробленая ў выглядзе чалавечай галавы? Нанатэхналогіі?!! Камп'ютар будучыні?!! А можа, усё значна прасцей? Цябе, як кажуць у народзе, наведалі вавёркі? Гэта значыць — алкагольныя галюцынацыі? І галава — гэта не проста галава, а твая расшкамутаная запаленая свядомасць? Размова з самім сабой? Гы-гы. Усё можа быць. Галоўнае не пераймацца.

Цмок агледзеўся, пашлёпаў крыламі, выплюхнуў з пашчы сполах агню, пацёр ад задавальнення лапкі.

— Ну што, з чаго пачнем? — гыркнула першая з ягоных галоваў.

— Я — за партвейн, — адгукнулася другая.

— Я — за піва! — прапанавала трэцяя.

Першая незадаволена хмыкнула — гэтая першая была прыблудная, капітанская, выхаваная марскімі традыцыямі:

— Можа, усё ж з рому пачнем?

Я таксама сядзеў за сталом, таму вырашыў падтрымаць гэтую цудоўную прапанову. Мы выпілі. На чатыры галавы бутэлька скончылася за два заходы.

Караліна паглядзела на нас і засмяялася. Смех быў гучным і пераможным.

— Што здарылася?!! — здзівілася адна з галоваў цмока.

— Нічога не разумею, — падхапіла другая.

— І я анічога не разумею, — пагадзілася трэцяя.

Я таксама не змаўчаў:

— Патлумач!..

— Вы пілі мой фірмовы квас! — прызналася Караліна. — А ром яшчэ ўчора я выліла ва ўнітаз!

І яна паказала нам язык.

Не дзіўна, што мы не зап'янелі. Ром не ўстаўляў. Ром быў не ромам. Сапраўдны ром пратух ва ўнітазе.

Выснова: квас — нашая будучыня! Прэч ром! Віват квас!

Кефірная Барада замаўчаў і паглядзеў на дыктафон. Дзіўная атрымалася гісторыя.

Караліна абцерла яго кефірны твар ручніком.

# ЧАСТКА
# ПРА ТАЕМНАГА АСІЛКА,

## ЯКІ ПАДНЯЎ РУКАМІ ЦЭЛЫ ГОРАД І ТРЫМАЎ ЯГО, ПАКУЛЬ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ ПАВОДКА



## 1.

Я ўсміхаюся вам. Я ўсміхаюся кожнаму. Усміхаюся штодня. Усміхаюся штохвіліны. Я, напэўна, ідыёт? Ці проста выхаваны чалавек? “Ты — алкаголік!” — ускрыкне мой тлусты сябрук. Дзякуй, сябрук, я ніколі не сумняваўся ў тваёй шчырасці. Маленькая рэмарка: мой тлусты сябрук таксама шмат п’е і прыкідваецца гісторыкам — не верце яму!

Я ўсміхаюся, паколькі не магу інакш. Я ўсміхаюся, бо напраўду раззлаваны. А калі я злуюся, дык раблю выгляд, што ў мяне ўсё добра! Я ўсміхаюся сінімі ад віна вуснамі. І мая ўсмешка нагадвае хутчэй шчыліну кулямётнага дзота. Мае зубы пабліскваюць, нібы руля зброі. Вочы мае вузяцца і ператвараюцца ў баявыя агні. Я папраўляю капітанскую фуражку, і жыццё наладжваецца. Сёння і больш ніколі! Менавіта сёння я вып’ю мора да самага дна!

* * *

— Вельмі паэтычна. Многа літараў. Словы саспяваюць, нібыта вінаград. Радкі струменяцца і ўсміхаюцца чырвонымі вуснамі. А дзе сюжэтная хада? Хто будзе каго забіваць? Хто і за кім будзе бегаць з сякерай? Хто — я пытаюся?

Гэта, безумоўна, пыталася нашая старая знаёмая — галава.

— Хада. Хада — яна анікуды не падзенецца, — запэўніў я. — А вось тваё з'яўленне мяне бянтэжыць.

— Ты мне павыпендрывайся, — злосна сыкнула галава. — Я тут хутка з вамі ўпраўлюся.

Галава відавочна нешта недагаворвала. І ейнае з'яўленне было не выпадковым. Я паглядзеў на галаву. Яна нервова перакочвалася па пакоі, валасы раскудлачыліся, вочы злосна круціліся. І раптам яна пачала крычаць:

— Дастала мяне ўсё!!! — З гэтымі словамі яна падскочыла да мяне і ўчапілася зубамі за левае вуха.

— А-а-а-а!!! — залямантаваў я не столькі ад болю, колькі ад нечаканасці, і паспрабаваў аддзерці галаву ад вуха. Але хватка была жалезнай, як у ратвейлера. Я схапіў са стала дзіракол і стукнуў драпежніцу па зубах. Галава залямантавала і адвалілася ад майго вуха.

**2.**

Ровар паклалі ў снег. Ён хутка заінеў і ператварыўся ў лядзяш. Але мне патрэбны не аб'ект — інсталяцыя.

Без раварыста гэта будзе падман, інсінуацыя. Падбіраю суб’екта вельмі патрабавальна. Вывучаю ягоныя рысы твару. Мне патрэбны валявы твар. Каб падбароддзе было цаглінай, каб вочы выпіналіся і патрабавалі супу. Мне патрэбны камікадзэ! Знаходжу такога ў карчме — бяру за каўнер і кідаю на ровар у снег! Брам! Заледзянелая рама гучыць векавечнай брамай. Я-ха! Відавочна, інсталяцыя ўжо амаль гатовая.

* * *

— Спрабуеш падымаць нібыта складаныя сацыяльныя пытанні? — злосна сказала галава і зарагатала. — Раварыстаў забіваеш? Ну-ну, паглядзім, на які тэрмін напрацаваў, працаголік. Героя з сякерай не знайшоў і думаеш, што ўсё ціп-топ? Ды твая сюжэтная хада вельмі простая — ты хаця б высветліў пра аплату халоднай і гарачай вады!.. Тут, мабыць, ужо трэба падключаць дэтэктыўнае агенцтва.

**3.**

Верыш у поспех? Поспех чаго? Большасць з нас верыць у нейкі міфічны поспех. З чым ядуць гэты поспех? Поспех. Поспех. Прыдбаў боты — поспех? Нарадзіў дзіця — поспех? Стаў дэпутатам — поспех? А калі паслаў усіх далёка-далёка — можа, таксама поспех? Гэты міфічны поспех — гідра, якая бярэ нас у палон. Мы мусім жыць іншымі катэгорыямі. Не поспех шчасце! Я не думаю, што яно нараджаецца з поспеху. Нават упэўнены. Можна быць шчаслівым і не паспяховым з гледзішча

большасці. Не хачу быць паспяховым! Хачу быць п’яным, дурным і старым, як мох, каб слухаць цішыню дрэваў і быць шчаслівым.

**4.**

ты вясёлы
я вясёлы
мае вусны распаўзаюцца быццам ртутныя цягнікі
зубы выглядаюць гарошынамі Сонца падае на дно глоткі
Кадык плюхае вёсламі Празрыстыя валошкавыя вочы
перакочваюцца хвалямі На захад бягуць не спыняючыся радзімкі Падаюць у ваду стрэлы Свішча вецер
Перакочваецца паветра нібы студзень Перакульваецца нібыта кісель Крык “Га!” І зноўку ты хаваешся на дно лодкі Прыціскаеш рукі да грудзей Падлюка муха паўзе па носе Нехта цябе шукае і крычыць: “Га!” Ты маўчыш і спрабуеш адмахнуцца ад надакучлівай мухі “Га-га! Га-га!” — “Пурга!” — шэптам адказваеш ты.

**5.**

Трупы. Трупы. Хацелася ванітаваць. Яшчэ ўчора гэтыя людзі думалі, марылі — жылі. Некалі іх нарадзілі бацькі, якія цешыліся, што іх маленькі чалавечак ідзе ў свет. Песцілі гэтага чалавечка, даглядалі яго — верылі ў ягоны лёс. І хто ж ведаў, што гэты чалавек праз шмат гадоў сустрэнецца з забойцам?

**6.**

Чалавек. Чалавек без галавы і без ног, але ўвесь белы і цукровы, як крэм. Хаця, можа быць, гэта быў не чалавек, а ягоны прывід? Гэты самы прывід, без галавы і ног, выкаціўся з пад'езда шматпавярховіка і заспяваў пузам: "Мур-мур-мур!" Ён каціўся вельмі доўга і спяваў усё больш гучна і гучна, пакуль яму не сустрэлася Вялікая Кітайская сцяна. Тады ён напружыўся і прашаптаў: "Пусці! Пусці! Пусці!" Сцяна зморшчыла свой каменны лоб, падумала, пачухалася і адказала: "А навошта?" "Я — добры", — папрасіўся прывід. "Адкуль я ведаю? — засумнявалася сцяна. — Учора тут таксама праходзілі нейкія і казалі пра братэрства, дык у мяне дагэтуль усё баліць і колецца. Не! Не пушчу!" Прывід падумаў-падумаў і як скочыць! Быццам пончык ці гумовы мячык. І лавіла яго сцяна сценамі-серпанцінамі, спрабавала засмактаць шматлікімі байніцамі. Не — збег прывід. "Мум-мур-мур".
Гэта казка пра тое, як не варта пісаць вершы.

**7.**

Капітан прысеў побач і паклаў галаву на стол. Я прыгледзеўся і пабачыў у вачах галавы знаёмыя хуліганскія агеньчыкі.

— Даўно не бачыліся, — заўважыў я.

— Угу, — адгукнулася галава.

— І як табе новы статус? — пацікавіўся я.

— Абавязвае.

— Абавязвае да чаго?

— Шмат клопатаў.

— Не выдумляй. Ты ж не служыш, а толькі тым і займаешся, што бухаеш ды дзецям казкі на ноч распавядаеш.

— Штодзённа, штохвілінна я нясу крыж пакутніка — крыж капітана, — урачыста абвясціла галава.

Я зарагатаў:

— Віславухая, ды ты зусім шарыкі з ролікамі паблытала. Ты ж пенсіянерка ці пенсіянер — нават не ведаю, як цяпер правільна.

Галава пачырванела і гучна забулькала.

— Булькай-булькай, — сказаў я. — Капітанская пенсіянерка.

Галава скокнула на шыю капітана. Капітан кінуўся на мяне з кулакамі.

**8.**

груз Груз Ты загрыз гарбуз Абуза Мазгоў няма Замест сейфа — Акварыум-пуза Выбіў пярэдні зуб Гэта значыць бузіна Будзённасць і ўсялякія наступствы Усё — лухта Толькі супрацоўнікі службы народнай бяспекі Прымаеш на душу кілішак настойкі І не знаходзіш прыназоўніка і прыметніка Бо вечар закаціўся манетай пад рыпучую канапу Чухаеш за вухам Так — няхай усё пухам

**бровы загарацца вогнішчамі**
**абвугленыя твары — крык паштальёна**
Паглядзі на гэтага куртатага паштальёна! Ён няшчасны і закатаваны. Забеганы. А заробак малы. Часам ён нездаровы. Зрэдку п’яны. Можа, гэта Чарльз Букоўскі ў маладосці?

* * *

Волма стаяла на каленях у цэнтры кнігарні "Марс" і таемна нашэптвала:

"...ствары сабе кокан. Адключы ўсе кантакты са светам. Будзе цудоўны анабіёз. Паляціш у космас. Залатыя зоркі на лацкане твайго начальніка — адно прыгожы значак. Змайструй сваю касмічную ракету. Гэта так проста. Не больш складана за электрычную разетку. Уначы ўсе мы касманаўты. Усе мы лётаем. Лепшыя палёты адбываюцца, калі мы снім. А ў жыцці? І ў жыцці таксама. Нехта лётае з даху, нехта — са скалы, нехта — з трampліна, нехта — у ракеце. Змайструй свой міжпланетны кокан".

**9.**

— Чалавек абураецца, разумееш, — сказаў Майкл Крывы.

— Ён заўсёды абураецца. Ты згадай адваротнае. Колькі памятаю, ён заўсёды быў панкам. А цяпер начапіў пінжак і акуляры, вырасціў сівую бародку і думае, што схаваў панка ў шафе. Ні фіга! Шкілет — яшчэ не шкілет. Варушыцца панк! Ён яшчэ жывы! — крыкнуў я.

Крывы заўсміхаўся — ад вуха да вуха:

— Ён такі. Яму патрэбны канфлікт. Патрэбны адрэналін. Штодня ён выпальвае цыгарэтку і нешта запісвае ў нататнік — інакш не можа.

— Можа, ён вялікі інтэлектуал? — выказаў я здагадку.

— "Ле" ў слове ёсць. А "ін" — згубілася. Ён "тэле"...

— Фон! — крыкнуў я.

— Фон-барон, — падхапіў Крывы. — Барон — Нуф-Нуф, Ніф-Ніф і Наф-Наф.

— Пат! — крыкнуў я. — Факс!

— Тэлеквас, — зарагатаў Крывы. — Дакладна ён Інблін.

— Быў інтэлектуал — стаў тэлеканал. Інжынер — інжыр. Жаўнер ператварыўся ў жоўтую нерпу!

## 10.

— Усім заняць свае месцы! Я паспрабую аддрэсіраваць гэтых зялёных гадаў!

Караліна вылазіць з шафы. Каралінка-Каралінка. Караліначка. Мая маленькая дачка. Каралінка палічыла на руках кіпцюры і папярэдзіла:

— Усім ляжаць! Я сказала. Не рыпацца! Мне надакучыў Шэкспір. Сёння я прыхільніца Генры Мілера. Таму рэкамендую са мной не жартаваць. Жарты могуць скончыцца дрэнна! Чык-чык!

## 11.

**Кнігарня Марс**

Я сядзеў у крэсле. Праглядаў кнігу аўтара-дэбютанта, калі заўважыў, што побач матэрыялізаваўся нехта знаёмы. Чалавек проста ўзнік з ніадкуль. Я прыгледзеўся: побач сядзеў Ярыла Пшанічны. Ружовашчокі і вясёлы.

— Вітаю, — сказаў я. — Рады бачыць. Як нам цябе не хапала...

— Вітаю! Ну што, нешта прыдумаем? — запытаўся Ярыла і ў прадчуванні смачнага бухла пацёр рукі.

— А што будзем? — запытаўся я.

— Што заўгодна, — адказаў Пшанічны. І нечакана закрычаў: — Я — Вова!

Ён рашуча рвануў сваю кашулю. Хрась! Яна разляцелася крыламі.

**12.**

Ты завітваеш у гэты пакой. З жырандолі звешваецца вараны бурак. Тым не менш ён рэагуе на тваё з'яўленне; з бурака вылузваецца нос, вока, рот, які ашчэрваецца і паказвае мармеладавыя зубы. Потым рот дэманструе барвовы язык, які нагадвае смактульку. Рот пачынае вібраваць, і чуваць: "Жывёла, давай скачы! Ты куды прыйшоў? Ты прыйшоў у культурную ўстанову! Скачы, падла!"

Аднекуль у цябе ляцяць гнілыя памідоры. Ты па інерцыі падпарадкоўваешся — скачаш. Бурак звальваецца на падлогу ў…

На язык паклалі пігулку, і яна запішчала, забалбатала, зашаптала і прапаліла. Прапаліла язык! "Ква-ква-мана-ба-ба-рукалла-мукалла"… Пігулка, як тая куля, прадзіравіла язык. Цяпер можна рабіць пірсінг. "Гэй, пігулка! — закрычаў ты. — Не псуй мой страўнік! Вярніся ў ангар-бутэлечку!"

Трафарэт чалавека застаўся на сцяне. Тынкоўка счарнела і абвалілася. Лямпачка ў пакоі згасла. Я расфарба-

ваў твар баявымі палоскамі. Потым узяў у рукі тамагаўк і кінуўся на сцяну. Сцяна мяне засмактала, нібыта чорная дзюрка, і выплюнула з адваротнага боку. Я выскачыў на сонечную паляну.

З люка выпаўз янот і заспяваў: “Пятнаццаць чалавек на куфар нябожчыка! Ё-хо-хо-хо! І бутэлька рому!” Потым янот закашляўся і выплюнуў жабу. Пайшоў дождж. Разам з кроплямі падалі бублікі. Жаба крумкала.

У ката Сірыуса былі дзіўныя спартовыя практыкаванні. Ён выпучваў і напружваў пуза — у гэтыя моманты яно было вялікім і чырвоным, нібыта надзьмуты геліем балонік. Часам кот са свістам уцягваў у сябе паветра і пуза ператваралася ў сухую грушу. Тады Сірыус свяціўся ад шчасця чыгуначным ліхтаром.

З прынтара выскачыла слова, якое курчылася і танчыла; яно праспявала: “Ты хворы не мной! Я хворы не табой!” Слова было чорным, але мела квяцісты сонечны гальштук. У памяшканні, куды трапіла слова, за сталом сядзеў Майкл Крывы і піў гарбату з мёдам. Па ягоным твары поўзалі мушкі, якія зляталіся на салодкі пах. Слова паглядзела на Крывога, булькнула, шморгнула і паведаміла:

— Лайно.

— Што? — не зразумеў Майкл. — Ты адкуль узялося?

— Я гляджу на цябе і думаю тое самае, — сказала слова.

**13.**

**Кнігарня Марс**

Дробс пракрычаў:

“Выйшаў месяц на парог! І давай крывіць свой рог! Буду рэзаць, буду біць — усё адно табе вадзіць!”

**14.**

Што такое лапа вусяка? Лапа. Лапа, акрэсленая атрамантам ці алоўкам. Афсетная папера, апырсканая адэкалонам, выступае ў якасці выдатнага матэрыялу. Паглядзіце — з лапы вылузваюцца залацістыя кіпцюры. А вось ужо і вока вытыркнулася. Фантастычная лапа — вусякамутант.

* * *

Караблі прабіваюць сцены піцейных дамоў Люкі задраеныя і вецер закаркаваны ў бутэлькі Капітан у бінокль аглядае меню Зімовы ранак запальвае на столі зоркі Русалка прыцмоквае і круціцца ваўчком Ком у горле пухне і пячэ мацней і мацней І здаецца што гэта адбываецца ў паралельным свеце

* * *

муза ты мая Мазутам выпацканая Злоўленая на жывога матыля Матавая меланома майго цела Ляцела быццам бацыла Спявала “ла-ла-ла” Раптам — наросхрыст Кроплі пабеглі хутчэй і хутчэй І вось дождж зашаптаў

пра грыбны сезон пра граблі і касмічны зонд Пра парабэлум каля грудзей Спаць! тваю

— Як пажываеш, Капітоныч?

Чалавек, да якога звярталіся, скалануўся і паглядзеў на таго, хто задаў пытанне. У акенцы ён пабачыў толькі вока.

— Ты хто?!! — абурыўся Капітоныч. — Ты хто такі?!!

— Капітоныч, гэта я, — сказаў невядомы. — Ці, дакладней, частка мяне.

**15.**

Зноў прыдумалі ворага. Прага да крыві — яна ў чалавека на падсвядомым узроўні. Гэта такія драпежніцкія паводзіны. Што можа быць больш важкім за чалавечае жыццё?!! Якая ідэалогія? Я — па-за кантэкстам. Гульні ў вайнушкі ператвараюцца ў банальныя забойствы. Герой вайны для мяне звычайны забойца.

**16.**

Сінія шпалы. Бліскучыя рэйкі.

Гном напружыўся і выцягнуў з кішэні мабільны тэлефон, які залівaўся музыкай з мульціка пра Свінку Пэпу.

— Слухаю, — сказаў гном.

— Што ты слухаеш?!! — хрыпла крычаў невядомы. — Што ты слухаеш, гнамяціна недабітая?!! Я цябе пытаюся!.. Ты калі вернеш мне смарагды?!!

— Вы, можа, памыліліся? Якія смарагды? — здзівіўся гном. — Я анікому і анічога...

— Гэй ты, гнамяціна!!! — равеў невядомы. — Якія смарагды, кажаш?!! Такія-разгэтакія! На маім рудніку мусяць быць смарагды! Інакш табе будзе каюк! Я цябе папярэдзіў, каўпакападобны!!! Мы капаем тыдзень, і смарагдаў няма!!! Калі яны тут не з'явяцца, я за сябе не адказваю!!! Рыхтуй драўляную скрыню, гнамяціна!!!

**17.**

— Я вельмі хачу дранікаў, — сказаў чараўнік.

— Ты хто такі? — спытаў яго Майкл Крывы.

— Я — звычайны чараўнік.

— І што, ты не можаш начараваць сабе дранікаў?

— Не, чаму? Магу. Але атрымаецца не тое — баюся сапсаваць смак.

**18.**

— Маральна я падрыхтаваны да горшага, — сказаў Майкл Крывы. — Можа, гэтую гарэлку нельга змешваць з парэчкавым лікёрам?

— Не бойся, — супакоіў я. — Мінулы раз ты бляваў нядоўга — недзе з палову гадзіны.

— Ты думаеш? — засумняваўся Майкл. — Нешта мяне твае высновы не натхняюць.

**19.**

— Кіліманджара, Кіліманджара, — сказаў Майкл Крывы.

## 20.

— Вы мне не падабаецеся. Больш за тое, вы мне непрыемны як чалавек. Мяне ванітуе ад вас. Мне хочацца бляваць, калі я чую вашы крокі. У творчасці павінны быць творца. Таму калі адсутнічае мастак — твора не можа быць!.. Тое, што вы дэманструеце, нагадвае экскрэменты волата. Вас нельга пускаць у прыстойныя месцы. І ўвогуле я думаю, што вы не чалавек. Вы — пародыя на яго. Вы пабочны эфект нашай шматпакутнай прасторы. Але я вас знішчу. Спакойна і без асаблівых высілкаў. Я вас расцісну, як атрутнага вусяка. У мяне моцныя ногі і цяжкія боты — тое, што і патрэбна ў гэтай сітуацыі.

## 21.

— Разумееш, Крывы, трамваі я люблю. Яны мне нагадваюць падводныя лодкі. Едзеш у такой капсуле, быццам плёскаешся ў паветраных хвалях. Гэтак з аднаго боку. А з другога, жыць з вокнамі на трамвайныя лініі — суцэльныя праблемы. Грукат такі, нібыта рота вайскоўцаў грыміць пустымі бляшанкамі. Калі трамваі прапаўзаюць, нават тэлевізар не чуваць. Што там тэлевізар!.. Я жонку не чую! А ейны пранізлівы голас не пачуць — гэта трэба быць глуханом. Таму мы з жонкай пачалі разважаць... Можа, нам змяніць не месца дыслакацыі, а рытм жыцця? Днём наглуха зачыкляемся ў кватэры — вокны, дзверы, занавешваем фіранкі — і спім, а ўначы бадзёра слухаем цішыню?!! Ператвараемся ў начных жыхароў!.. У дзве гадзіны ночы

транспарт заціхае, і падаецца, што ты знаходзішся ў нейкай забытай усімі вёсцы!.. Чым не рамантыка? Не, мне даспадобы такія ідэі. Трэба змяняць графік жыцця. Днём спаць — уначы весці актыўны лад жыцця!..

Адразу прымроіўся замест кватэры велізарны акварыум. Кветачкі сінеюць на паверхні вады, слімакі поўзаюць па сценках... а ў цэнтры плаваем мы з жонкай — бліскучыя паласатыя рыбінкі.

Крывы паглядзеў на мяне, сплюнуў і заўважыў:

— Купі паласатую піжаму і не пакутуй.

— А навошта?

— Будзе прасцей абгрунтаваць грукат. Маўляў, мы жывем не ў кватэры — нас трымаюць за кратамі.

— І дзе лагічны працяг? Нешта не даганяю...

— Піжамы — гэта робы вязняў.

**22.**

знікаюць танкі Вядуць размову з імі безгалосыя рамонкі Сіні і жоўты — колеры флегматычных людзей Захлынаюся вобразамі Магчыма выцягваю праз пятку апошнюю нітку нерваў Укусіць Разгрызці Раструшчыць Мезазойскі перыяд Надакучылі

**23. Прызнанні Майкла Крывога напярэдадні юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі:**

— Раней я быў вясёлы. Я ўсміхаўся, як амерыканец. Усміхаўся ўсімі дзесяццю зубамі, якія былі ў наяўнасці.

Я рагатаў, нібы каліфарнійскі конь. Рогат быў гучным і разносіўся паўсюдна. Гэты конепадобны рогат быў бясконцым. Ён цягнуўся, нібыта гумка, і быў здольны ахапіць гарады і горы, лясы і палі. Рогат гучаў настолькі выразна ды пераканаўча, што мог заглушыць гудкі паравоза і рокат трактара. Толькі ў адначассе ўсё знікла. Быццам памёр чалавек. Быў — і няма. Цяпер я заўсёды пахмурны. Дзень за днём я прымушаю сябе выглядаць сумна. Часам нават выпускаю слязіну. Маска няшчаснага і закатаванага чалавека мне не вельмі пасуе, аднак падабаецца маёй жонцы. Яна, праўда, у гэтым не прызнаецца, але ўвесь яе выгляд пра гэта сведчыць. І ў пэўны момант рашэнне знайшлося само сабой — з вясёлага чалавека я мушу ператварыцца ў сухар з цвіллю. Пэўна, мой заўсёдны добры настрой правакаваў вечна сумную жонку на згрызоты. А цяпер нуда нас аб’ядноўвае. Карацей, жыццё, якое забадала, тым самым злучыла нас у шчаслівым суладдзі.

**24.**

**Сосны сплюнулі і сказалі:**

— Чаго стаіш? Руш наперад! Тут няма чаго стаяць.

Майкл Крывы скрывіўся і пайшоў. Ісці яму было цяжка — ногі не слухаліся. Размаўляць было таксама цяжка — язык нагадваў чэрствы піражок.

— Майкл, як ты дакаціўся да гэткага жыцця? — запытаў я.

Майкл наважыўся нешта сказаць, але не мог. Не атрымоўваліся ў сябра словы. Разбягаліся літары ва ўсе бакі.

— Майкл, — запытаўся я, — як ты пішаш кнігі, калі нават размаўляць не можаш?

Майкл заўсміхаўся і замармытаў кшталту:

— Какманду, Какманду — афрыканскі шлях. Непал. Пальмы, какосы, бананавая гарэлка і верш у гонар вялікага Мугабэ. Зімбабвэ. Ы-ы-ы-ы. Я — чорны марпех!

— Гэх, Майкл-Майкл, — паспачуваў я. — Мабыць, твой мозг высмактала п'яўка чорнага бальзаму. Дарма ты захапіўся гэтым небяспечным напоем.

**25.**

— Час ідзе, — сказаў чалавек. — Ты не маеш маральнага права ўхіляцца ад справаў. Ты проста абавязаны нешта рабіць. Сітуацыя, калі ты кажаш, што цябе гэта не тычыцца, непрымальная! Не пракаціць. Усе мы ведаем, чаго ты варты і на што здатны. Таму не маўчы.

**26.**

**Кнігарня Марс**

Час абмеркавання літаратурнага працэсу.

Хто пукнуў гучна, той і атрымаў прэмію. Не паводле таленту, а паводле тусовачнасці. Як кажуць разумныя людзі: "Капялюх не па Рыгору".

"Паэтка павінна быць прыгожай знешне, тады і радкі загучаць", — заяўляе нехта пыхлівы. Я запярэчу

гэтаму пыхліўцу. Не! Паэтка абавязана быць моцнай і страшнай, як гаўбіца. Тады недзе ўнутры запаліцца ліхтарык цеплыні таленту. Знешняя прыгажосць лялькі Барбі ёй відавочна не патрэбная! Але ж у нас што ні ногі ад вушэй — паэтка! Нават вушэй ужо не бачна за тымі нагамі. Затое гэтыя ногі натхняюць удзельнікаў журы розных прэмій да адназначных высноваў: "Талент! Безумоўна — талент! Такая моц радка!" І калі прыгледзецца, разумееш, што напраўду ў гэтым калыханні клубоў гучыць непаўторны рытм верша. Геніяльна! І не трэба пісаць! Адбярыце паперу і асадкі, камп'ютары і тэлефоны! Не трэба ствараць! Усё ўжо ёсць! Ногі! Ногі! Трохкроць крыкнуць: "Ногі!" Якія яшчэ аргументы? Маленькія свінападобныя гурткі ствараюць сваіх куміраў. Нараджаюць міфы. Адно аднаго ўзносяць і хваляць. Раздаюць кампліменты і лаўры.

— Феміністкі, шыхтуйцеся! Прыйшоў вам капец! — крыкнуў вусень і спалохаўся. Бо аднекуль выскачыла бочкападобная фраў з кухоннай сякерай.

Вусень круціўся, нібы на вуглях, а фраў старанна махала сякерай: "Бам-бам-бам!" Але кожны раз прамахвалася. Вусень заліваўся ваўчыным воем. Фраў цяжка дыхала і прыгаворвала: "Паразіт зялёны!.. Гэта табе за феміністак!.. Пасяку гада!.."

"Феміністка — сябра чалавека!" — равеў вусень і выкручваўся ад сякеры.

"Сякера — сябра вусеня", — пагражала фраў.

У нейкі момант, калі фраў стамілася, вусень даў нырца ў шчыліну, што была ў падлозе.

"Стой! — зараўла фраў. — Куды?!!"

"На танцы!" — адказаў здалёк вусень.

Фраў села на крэсла, адкінула сякеру і змрочна працадзіла:

“Ужо хутка. Нашыя сёстры вырашаць праблему. Нядоўга ўжо”.

**27.**

— Што такое вышыванка, капітан Барада?

— Вышыванка — гэта добра. Кепска быць вышыванячнікам, бо адразу ператвараешся ў люстраную воблу.

— Гэта як?

— Падыходзіш да люстэрка і паказваеш язык. Адразу спрацоўвае. Тут на цябе цуд і навальваецца. Думаеш пра чысціню каранёў. Выцягваеш з абутку ногі і пачынаеш націраць пальцы наждачнай паперай — маўляў, я крышталёвы і чысцюткі. Як арыец!

— Арыец — гэта ад рыльца і яйка?

— Мабыць, так.

— Дык што ў выніку?

— У выніку, калі адбываецца люстрацыя, свіны лыч ператвараецца ў дзюбу пеўня, а бывае і наадварот.

**28.**

— Ён напісаў кнігу на дзевяцьсот старонак, — сказаў фазан і заклекатаў.

— Ён што, шызануўся? — здзівіўся капітан Барада.

— Не, ён вырашыў паказаць усім сваю веліч, — замармытаў фазан.

— А гэтая велічыня выяўляецца ў колькасці старонак тэксту? — удакладніў Барада.

— Не, яна выяўляецца ў колькасці напісаных сімвалаў.

— Аптымістычна, — пагадзіўся Барада. — Мабыць, гэтыя сімвалы шліфуюць складаны жыццёвы сюжэт.

— Так-так — яны шліфуюць.

— Што?

— Штосьці дакладна. Прынамсі цягам некалькіх старонак апісваюцца пакуты на запор.

— Ну што ж — годная справа. Вельмі патрэбная, мабыць, у медычных даследаваннях.

Барада выцягнуў люльку, запаліў, выпусціў клуб дыму і ў задуменнасці рэзюмаваў: “Ад запору дапамагае дзюфалак”.

**29.**

Дрывасек махаў сякерай: “Ужы-ы-ык!” — і дрэва падала, нібы вораг! “Чмы-ык!” — яшчэ адно дрэва ляцела ніцма. “Бр-ы-ык!” — наступнае грымела і валілася. “Хрась!” — яшчэ і яшчэ. “Хрусь!” Хамякі і вераб’і разбягаліся і разляталіся. Ваўкі ціха вылі і адпаўзалі ў нетры лесу. Лісы давалі нырца ў таемныя норы. Спалоханыя пугачы накрывалі галовы крыламі. Вожыкі прыкідваліся шышкамі. Мядзведзь прыпадабняўся да гары.

**30.**

І калі джала захрасла ў горле, надышло прасвятленне. Вось яно. Мае пляўкі больш не шкварчэлі. Атрута з мяне не вылівалася. Здавалася, што я тая гадзюка, якую пазбавілі яду.

**31.**

Думкі разбягаюцца і сыходзяцца ў карагоды. Абмацваеш твар і пытаешся: няўжо гэта я? Здаецца, што раней скура абцягвала чэрап мацней. Магчыма. Час бяжыць няўмольна. Не стрымаць. Не схапіць. Ён як бы здзекуецца. І паказвае язык.

— А што ты хацеў? — пытаецца галава. — Толькі так.

— Ты зноў беспрытульная? — дзіўлюся я. — Цябе пазбавілі твайго шыкоўнага цела?

— Не, — пярэчыць старая знаёміца. — У мяне ранішні шпацыр. Так бы мовіць — трымаю сябе ў тонусе. І табе не зашкодзіла б, бо цябе ўжо не пазнаць. Губляеш форму. Пуза выпеставаў, нібы курган славы.

— Гэй, — злуюся я. — Валі адсюль, свінападобная!

— Ты чаго завёўся? — здзіўляецца галава. — Выпусці пару. Ты ж не імбрык — звычайны асацыяльны тып.

Я люблю футбол. Гы-гы.

**32.**

Мяне хвалюе. І хвалюе вельмі моцна. Да дрыжыкаў у пазногцях. Да перхаці ў горле. Да стрэлаў у левым вуху. І калі я хвалююся, нібы вада ў тазіку, мне трэба нейкім чынам браць сябе ў рукі. Лёгка сказаць — складана зрабіць.

**33.**

Я спыніўся каля кнігарні і доўга ўглядваўся ў бліскучыя вокны. Бясконцыя шэрагі кніг. Рэдкія пакупнікі. Здавалася, што гэтая маленькая прастора па-за кантэкстам краіны. Здавалася, што гэта фурункул, які варта выдаліць з чыстага, беласнежнага цела дзяржавы. А потым мне падалося, што вокны і не бліскучыя зусім — брудныя ды заляпаныя. Не зашкодзіла б тут памыць і пабраць.

**34.**

Кнігарня пракашлялася, вытыркнула з-пад шафаў чырвоную дзюбу, выцягнула з пяску курыныя лапкі і абвесціла:

— Ну што, мурзацікі, колькі можна мяне гнабіць? Кнігі купляць будзем ці задаволімся марнатраўствам часу? Яшчэ трошкі, і я буду з вамі размаўляць інакш!

Кнігарня напружылася і выштурхнула сваё распухлае цела з будынка былога завода. Страсянулася, скідваючы з сябе пыл і тынкоўку, шкрабанула дзюбай па сценах, нібыта па пёрках, і задаволена фыркнула.

**35.**

Я складаю гарбузы на падваконні. Развешваю часнык па кутах кватэры. Раскідваю цыбуліны пад батарэямі.

— Няўжо дапаможа?

— Мінулым разам, здаецца, дапамагло.

Гном зірнуў на мяне і пакруціў каля скроні:

— У цябе сапраўды не ўсе дома. Яшчэ трошкі — і цябе прыме ў свае абдымкі жоўты дом.

**36.**

Я люблю холад. Я люблю снег. Зіма — гэта цуд! Белыя сумёты натхняюць на подзвігі. Так-так, але ёсць адна непрыемнасць — куртка. Брытанцы кажуць, што кепскага надвор'я няма — ёсць кепская вопратка. Я згодны, бо цяпер холад мяне прыціскае; ён мяне пляжыць. Я дыхаю на замёрзлыя бледныя пальцы. Я выпускаю пару. Мой твар ахутвае туман — верагодна, ператвараюся ў снегавіка? Што з гэтага вынікае? Любоў і нянавісць аб'ядналіся ў вялікія белыя шары.

**37.**

Скрозь. Наскрозь. Спаўна. Ціха, як у склепе. Капітан Барада прыслухаўся — здавалася, што ён чуе сэрца. І больш анічога. У цямрэчы ён мог толькі разгледзець камоду, на якой высілася нейкая скульптурка. Мяркуючы па абрысах — выява анёла. Капітан уздыхнуў і, спрабуючы не грукатаць, падышоў да акна. Там, за фіранкамі, стаяла шмат машынаў. Але ягоны позірк сфакусаваўся на адной — вялікай, падобнай да джыпа. Выглядала, што ў ёй нікога няма. Тады трэба на вуліцу!.. Доўга не думаючы, Барада пстрыкнуў замком, прыадчыніў дзверы кватэры і адразу атрымаў удар па галаве, у вачах пацямнела. Капітан паваліўся. “А, сцука, — прашыпеў незнаёмы голас. — Ляжы спакойна”.

**38.**

Мы прачнуліся. Нас многа.

— Ярыла! Ты тут?!!

— Тут.

— Міхал! А-ау-у-у! Тут?!!

— Так, тут.

— Васіль?!! І ты тут?!! Хлопцы, хадзем вып’ем!.. — Сонечны дзень. Стол сярод дрэў. Стравы і featureрознакаляровыя пляшкі. І папугай Фенікс праспявае нам аб вечнасці.

**39.**

Трамвай грукатаў, як звар’яцелы.

— Які ж ты капітан? Згадай сваю працу з кнігамі,— павучальна вуркатаў таўстун.

Капітан пазіраў на суразмоўцу і не мог зразумець, што той ад яго хоча? Чым ён пакрыўдзіў гэтага таўстуна? Можа, зорка звалілася з неба не ў тым месцы? Ці ракета стартавала на Марс без таўстуна? Што здарылася? Гэта было таямніцай. Капітан падумаў-падумаў і абнавіў думку: “Гэта было таямніцай са шчупальцамі медузы”. Як гэта магло выглядаць? А халера яго ведае. Медуза была. Шчупальцы былі. Ну і таямніца, натуральна, прысутнічала. А таўстун? А таўстун быў звычайным зайздроснікам. Ён зайздросціў капітану і таму выдумляў розныя прэтэнзіі да яго. Усё добра было з нашым капітанам. І з ягоным караблём. І з ягонымі кнігамі. А з таўстуном? А з таўстуном, мабыць, былі праблемы; пэўна, сэрца ягонае пабольвала. Вось і напрыдумляў у сваёй затлушчанай галаве featureрознага брыдоцця.

## 40.

Крытыкеса сядзела за шырокім светлым сталом, на якім стаялі камп’ютар Apple і кубак з гарбатай. І яшчэ ляжала навюткая кніга. Крытыкеса скрывілася. Кнігу яна, праўда, прагартала ўжо. Чытаць не збіралася. А навошта? Не заслугоўвае. Яна гідліва прачытала: “Калі прыгледзецца — Марс сіні... Ха-ха! Гэты аўтар ужо зусім ахранеў!.. Што за спалучэнне “Марс” і “сіні”?!! Нават складана вымавіць!.. Яшчэ напісаў бы: уЖО ПАступова!.. Таксама добрае спалучэнне. Ха-ха! Як дасталі гэтыя графаманы!..” Крытыкеса пашкрабала пазногцем свой шырокі нос, ашчэрылася: “Што б мне сказаць добрага пра гэтую кнігу? Ды што пра яе добрага можна сказаць? Графаман, ён і ў Афрыцы графаман!..” Крытыкеса зноўку скрывілася. Аўтара яна не паважала, той не ўваходзіў у знаныя тусоўкі, не свяціўся там, дзе трэба, сапсаваў свой імідж п’янымі загуламі ды ўвогуле быў ёй зусім несімпатычны. Таму крытыкеса нават і не ведала, з якога боку падабрацца да гэтага опуса. Не напісаць жа пра кнігу яна не магла. Надта ж гучная пайшла пра яе пагалоска. Крытыкеса рашуча забарабаніла па клавіятуры, набіраючы назву будучай рэцэнзіі: “Няздарныя высілкі аўтара Сіняга Марса”. Потым злосна пацерла лоб, глынула гарбаты і выдаліла назву. Не!.. Трэба інакш. І забарабаніла зноў па клавіятуры: “Безгаловы раман і засохлы Сіні Марс”. Крытыкеса задумалася. Безгаловы? Ну так. У рамане нейкія бясконцыя дыялогі з галавой. Значыць, ёсць безгаловае цела. Значыць, і раман безгаловы!.. Крытыкеса ўскочыла і нервова захадзіла па пакоі.

Галава сядзела ў клетцы для папугая і, нядобра на мяне пазіраючы, сплёўвала скрозь зубы:

— Азірніся — свет перакуліўся і пайшоў расколінамі. Тыя сінія кіты, што трымалі зямлю, выпусцілі апошнія фантаны і сплылі за небакрай. Мы згубленыя дзеці. Мы рушым навобмацак, і цемра нас паглынае.

— Ты ўпэўненая? Мне здаецца, што ты абрала хібны шлях. Нашто займацца злачынствам? Ці варта скрадаць тое, што табе не належыць?

— Я выконваю сваю місію!

— Ну-ну, лягчэй, — супакоіў я галаву. — Інакш зладжу табе халодны душ.

— Я вырвуся адсюль. Май на ўвазе, — паабяцала галава. — І табе мала не падасца.

— Магчыма, — пагадзіўся я.

— Мая клетка — гэта жыццё. Таму гэтая, — галава паскрыгатала зубамі аб клетку, — усяго толькі пародыя на зняволенне.

— І што мне з табой рабіць?

— А хочаш, я гісторыю распавяду, — нечакана прапанавала галава.

Я паглядзеў на клетку. Сядзіць такі сіні мяч і нешта курлыкае.

— Ну, давай.

Галава пракашлялася і распачала:

— Сустрэліся два сябры. Адзін кажа: “Давай вып’ем!”

Другі: “Не буду. Я з табой так пасяджу”. У чым справа? Што здарылася? Усё вельмі проста. Першы — свабодны як вецер. У ягонай галаве таксама вецер. А другі — закатаваны сямейным жыццём. У хаце жонка-піла, дзеці-плаксы, цешча-праграміст.

— Ты на што намякаеш? — абурыўся я.

Нечакана галава вытрасла з валасоў нейкі грабеньчык і давай ім пілаваць клетку!..

— Спыніся! — закрычаў я.

Галава не слухала і працягвала пілаваць пруты.

— Волю! — крычала галава. — Свабоду папугаям!

* * *

Я падумаў-падумаў і запісаў: “Волю!” Каму? Дзеля чаго? Можа, наступнае? “Мы патрабуем волю пачуццяў!” Так, сапраўды, нашмат лепей. Эфемернае гэта ўсё. І самі мы несапраўдныя. Выдуманыя. Складзеныя. Вада. Мяса. Канструктар.

# ГАЛАВА, ЯКАЯ БЫЛА ПРЫКЛЕЕНАЯ ДА ІЛЮМІНАТАРА

**гэта было ў пэўным сэнсе рамантычна, але яна не магла адарвацца. Бо клей “Момант” надзейна прыхапіў ейныя валасы**



Я паглядзеў на гэтую прыклееную весялуху, паказаў на яе пальцам:

— Ну, вось, Крывы, гэта можа напаткаць кожнага, хто злоўжывае бальзамам і гарэлкай.

— А віскі і тэкілай? — занепакоіўся Крывы.

— Віскі і тэкіла не лічацца, — запэўніў я. — Піва таксама слабаалкагольны напой.

— Навошта ты п’еш? — спытала мяне жанчына.

У мяне не было адказу. Ейныя вочы напаўзалі на мяне чорным.

— Ты больш піць не будзеш, — упэўнена сказала жанчына. — Ніколі.

Пасля гэтых слоў я зразумеў, што ўсё вельмі кепска. Пайшоў у прыбіральню і выліў тры кілішкі ва ўнітаз. Я здагадаўся, што мяне закадзіравалі. Наслалі на мяне гіпнатычныя хвалі!.. З гэтым я змагаўся тры дні. Хадзіў як у тумане. Было ўражанне, што патрапіў у акварыум. Сябры ад мяне адварочваліся.

А потым я сніў, што прыехаў да Крывога ў госці. Вялікі дом быў падобны да замка. Я хаджу, ледзь не падаю.

Не магу стаяць на нагах. Усё разумею, а стаяць не магу. Потым высвятляецца, што побач з домам Крывога стаіць дом маіх бацькоў.

* * *

пытанне толькі ў тым. І больш анічога. Я адчуваў, што капітан Барада доўга не працягне. Ад сілы месяц, другі — не больш. Вецер у маёй галаве троху супакоіўся, і я мог цяпер спакойна ўсё ўзважыць і разабрацца ў падзеях апошніх месяцаў. Лёс Рыгора Каваля мяне больш не турбаваў — дробная асоба, не вартая таго розгаласу, што ёй прысвяцілі.

— Адчыняй, сябра! — пачуўся крык і грук у дзверы.

На парозе стаяў чалавек. У такі запозні час — гэта было падазроным і дзіўным. Твар незнаёмца быў увесь у шнарах і радзімках, але ён мне адразу спадабаўся.

— Вы тут здымаеце кватэру? Суседзі кажуць, што вы ўчора гралі на кантрабасе. Цешацца — добра граеце.

— А вы хто?

— Я барабаншчык з пятага паверха — Мікалай Фёдаравіч Раманчук, — прадставіўся музыка. — Нам якраз патрэбны кантрабандыст… дакладней, той, хто грае на кантрабасе.

— Гэта цудоўна! Якраз думаў, з кім тут павесяліцца! Аніякіх дэбошаў тут не было апошнія гадзінаў восем. Жонка цяпер б’е суседзяў. Прыйдзе — можа пацвердзіць.

— Так? — запытаўся са здзіўленнем Мікалай Фёдаравіч і звузіў правае чырвонае вока ў манаклі. Гэтае вока

мне таксама вельмі спадабалася, бо ў левым не было чырвані. Барабаншчык вытрымаў паўзу і запрасіў:

— Дайце мне вады — я паміраю ад смагі. Хаця лепш кока-колы — мне яна больш даспадобы.

— А можа, спачатку кілішак самагонкі? — запытаўся я. — З учарашняга дня засталося, пасля пасядзелкі з суседзямі. Увогуле ў нашым доме ёсць хоць нейкія нармальныя буяны? Ці тут усе кончаныя ціхушы?

— Ды няма тут анікога, — з сумам паведаміў вечаровы госць і выцягнуў з кішэні партабак.— У мяне тут трошкі травы засталося — падзьмем?

— З ахвотай! Якраз думаў пра нешта такое!

Рукой я прапанаваў завітаць на кухню.

Барабаншчык зірнуў на мяне вясёлымі вачамі і заклікаў:

— Гуляць дык гуляць! — А праз імгненне запытаў: — Хто яшчэ кокс мае? Можа, сусед злева? Ці, можа, сусед справа?

— Не ведаю, ні злева, ні справа, ні пад столлю, ні пад падлогай — жывем па-сяброўску, але сумна.

Мы прыселі на кухні, каб паразмаўляць пра музыку і жыццё.

Праз дзве гадзіны ў мяне не ўзнікла пытанняў, хто такі Мікалай Фёдаравіч. Гэта быў цудоўны чалавек!

“Не, так не пойдзе! Да балкампёса самагон! Прэч кокс! І што там — касячок? Гэтак званая марыхуана?!! Прэч-прэч! Да дупы! І кока-кока-кола?!! Распілаваць гэтых герояў на кавалкі! Капітана Бараду і Рыгора Каваля — адназначна на звалку! У нас відавочна розныя шляхі! Не апраўдалі вы наш давер!” — Волма ўстала на ка-

лені і пачала заклінанні. Валасы яе раскудлачыліся, вочы загарэліся. Па твары пабеглі сінія палоскі. Нават нешта заіскрылася. Волма ўскінула рукі дагары і замармытала: "БББББ… ММММ… ГГГГГ… Трах-цібідох! Цібідох! Мура-шаурма! Фіры-муры-гуры! Няхай адбудзецца!" і г. д.

— Та-а-ак-та-а-ак, — сказаў, расцягваючы словы, мажны міліцэйскі чын, праціскаючыся ў дзвярны праём. — Я не спазніўся? На чым вы спыніліся? Коксам забаўляецеся? ЛСД ужываеце? Марыхуану пакурваеце? За распаўсюд наркаты вам да васямнаццаці гадоў!.. І не менш!!! А ўвогуле я б расстрэльваў гэткіх, як вы. У мяне рукі знямелі ад беспрацоўя. — І міліцэйскі чын паказаў свае тлустыя пальцы, якія моцна нагадвалі смажаныя сардэлкі.

— Я, — працягваў тым часам міліцэйскі чын, — мяркую, што грамадства нашае разбэсцілася — аніякай павагі да маіх залатых пагонаў і какарды. Свавольства. Усюды адно свавольства. Мы будзем вас катаваць, будзем злоўжываць сваімі пасадамі. Мы будзем вас трошкі піф-паф. Ха-ха.

І міліцэйскі чын, задаволены сваімі словамі, пачаў хадзіць узад і ўперад. Важны, як павіян.

**1.**

Калі спакойна разабрацца, дык увогуле справы ішлі някепска. Мне заставалася толькі ўпарадкаваць свой гардэроб. Я любіў гальштукі ў кветачку.

**2.**

Самае прыкольнае, што так было прасцей. Думкі разбягаліся па закутках гэтага дома. Ты выцягваў з паліцы трактат

У шатры ўжо

Спружыны вылецелі з кішэні. Я не стаў іх падбіраць. Навошта?

Спружыны былі паўсюдна. І ў галаве была вялікая чорная спружына. Па панядзелках я слухаў лекцыі, падчас якіх і мае рукі ператвараліся ў спружыны.

— Што трымае цябе на свеце?

— Спружына.

* * *

платформы форма Плафон На плато стаяў мікрафон Папкорн — корм Для кармавых быкоў Не трамвай — карабель Выплыў з запыленага тунэля Капітан памахаў рукой Хвалі часу

**3.**

Як павінна пісацца проза? Я вось іду цяпер да крамы па піва і бачу зялёную траву, дык мне хочацца бачыць ейны колер і цень… а нехта дадаў бы, каб і ў галаве паплыло… бо трава. Проза можа быць рознай. Мне блізкая каляровая проза з элементамі паэзіі. Мне даспадобы,

калі з прозы пачынаюць вытыркацца незвычайныя рэчы: усялякія шыпы і калючы дрот. Бачыш траву — і раптоўна праз яе пачынаюць прарастаць… металёвыя гайкі.

**4.**

**Барада ці Рыгор Каваль?**

Вось як у Вентспілсе на рынку не набыць вэнджанай траскі? Ляжыць такая рыбіна сярод сваіх братоў і сясцёр, без галавы, з прапоратым брухам і смярдзіць вогнішчам. Як не набыць? Глядзіш на яе і думаеш: вось набуду яе, з'ем, а потым апішу, як яе паядаў. Дык абавязкова скажуць: зноўку пра ежу! Колькі можна жэрці? Пісьменнік мусіць ствараць разнапланавыя і панарамныя творы. Выпісваць псіхалагічныя партрэты. Разбіраць чалавечыя драмы. Распавядаць пра тое, што яго хвалюе. Дык можа, калі мяне акрамя ежы і алкаголю анічога не хвалюе — я пусты чалавек? Бяздарны творца? Анічога не магу распавесці чытачу. Толькі пра бруха рыбіны ды пра сваё пуза. Не, гэта вельмі сумна. Таму сяджу на кухні і гляджу няшчасна на гэтую выгнутую траску. Трасца яе бяры. І чаго ёй у моры не сядзелася? Трэба ж было трапіць у сеткі, каб потым апынуцца на стале няздарнага пісакі.

* * *

бяздарны пісака-без рыбы не пісака-з траской і сакэ, прыгледзься, ну, проста самурай-рай без суму-мус без рака-на бязрыб'і і няздар пісака

гы-гы

а калі інакш? Калі зазірнуць у пустыя вачніцы гэтага рыбнага трупа? Там, глядзіш, і папаўзла таленавітая думка. Там, бачыш, нешта і заварушылася белае… Можа, чарвяк? Не — гэта, відавочна, мясная думка. Ці, дакладней, рыбная. Я настойваць не магу на няздарнасці або таленавітасці, але адно магу сцвярджаць з поўнай упэўненасцю: думка была.

**5.**

Капітан Барада паглядзеўся ў люстэрка і зразумеў, што ў яго з’явіліся сівыя валасы. Месцамі. “Раз, два, тры, — налічыў капітан. — Гэх, вы, дзяўбаныя пенапластавыя гады”. Ён узяў пінцэт і старанна іх адлавіў. “Раз, два, тры, капыты, гы-гы”, — сказаў капітан Барада.

“Чык-чырык!” — раптам выгукнуў верабей і пачаў раскручвацца ў паветры, нібыта тамагаўк. Потым ён знік. Вецер прашыпеў: “Чык-чырык!” Быццам нешта здарылася. І напраўду здарылася, у паветры нечакана матэрыялізавалася дзяўчынка. Ды не проста дзяўчынка. Яна прагудзела, нібыта электраімбрык: “Я — снягурка!” “А я, — загучаў бас, — Дзядуля Мароз! Падарункі вам прынёс!” Якія падарункі і для каго ён прынёс, сказаць было няможна. Услед за снягуркай матэрыялізаваўся плюгавы дзядуля. Ён усміхнуўся бяззубым ротам. Стуль адразу вылецела вялікая пчала, якая прагудзела: “Чык-чырык”. І на гэтым магло ўсё скончыцца, але не! Пчала выбухнула феерверкам, і ў паветры запахла не порахам — міндалем. Феерверк рассыпаўся

на тысячы сняжынак, якія ўсміхаліся ледзянымі вуснамі. А ў гэты час ледакол “Сямёнаў” разломваў носам акіянскія льды.

**6.**

Настрой быў кепскі. Ён увогуле быў не лепшым апошнія гады. Не хапала драйва. Не хапала прыгодаў. Хаця жыццё цяжка было назваць упарадкаваным — яно было кенгуровым. Скокала.

здаецца, што галава зараз трэсне. Шукаць патаемныя сэнсы і знаходзіць пустыя бутэлькі. Вось вынік маіх пошукаў. Хаця, з іншага боку, вынік — гэта ўжо добра. Значыць, недарма працаваў, мучыўся, пакутваў ад перапояў. У кожным разе мне здаецца, што падобныя даследаванні варта праводзіць у розных месцах. Каб застаўся смак прыгодаў ад гэтых вясёлых гісторый і казак. Менавіта гісторый і казак.

Тут мне згадаўся Янка Брыль. Літаратар, які фіксаваў кожную падзею свайго жыцця. Дык што мне цяпер, толькі бары і казіно апісваць? Сумны занятак. Тут жа й Букоўскі згадваецца. Хаця, наколькі памятаю, ён любіў наведваць іпадромы. Харызматычны быў дзядзечка.

— Лепш пісаць пра малако, — сказаў Майкл Крывы. — Тым больш ад малака можа быць вельмі цудоўны прыход. Два з паловай працэнты, тры і восем працэнтаў.

Бацька мне казаў, што ў іх дзяцінстве было сяміпрацэнтнае малако. Цяпер разбаўляюць.

— Тады лепш піць кумыс. Ён трохі бадзёрыць.

* * *

Янка паглядзеў на Чарльза і працягнуў яму руку. Чарльз падскокнуў і злавіў мажную руку — Янка быў у два разы вышэйшы. На гэтым усё магло скончыцца, але не скончылася. Нечакана Чарльз дзіка зароў па-ангельску. Янка не зразумеў і таму адпусціў руку, і Чарльз шмякнуўся на брукаванку. Янка пачухаў патыліцу і сказаў: “Шкада, вядома, але што ён хацеў патлумачыць словам фанера?” Тым часам на брукаванцы ляжала барвовая горка, якая нешта шаптала і шаптала пра фанеру.

* * *

(другая частка Марлезонскага балета)

Я аступіўся і ўпаў. “Усё — каюк”, — пранеслася ў галаве. Аднак я ўсё ляцеў і ляцеў і ніяк не мог упасці. Чакаў: “Ну, вось-вось”. Толькі чаканні былі дарэмнымі — я працягваў ляцець. “Дзіўна, — думаў. — Здаецца, не ем галюцынагенных грыбоў”. “Затое яны ядуць цябе”, — сказаў мухамор. Я прыгледзеўся — побач ляцеў Майкл Крывы, ягоны твар быў чамусьці чырвоны і ў белых плямах. Мухамор! Я заплюшчыў вочы і закрычаў: “Мухамор-Мухамор — я дыму не ем! Адпусці маю душу, вярні мне рэальнасць! Вярні мне згубленую ўчора тэчку з дакументамі. Іх не шкада, але там было фота з аўтографам Майкла Джэксана! Вярні мне яго! —

Я працягваў мармытаць: — Мухар-мухамор! Мутабор!” “Гы-гы, — засмяялася рэальнасць, — я тут побач, трымайся мацней, каб не збегла”. І напраўду побач з Майклам Крывым ляцеў вялізны кебаб — вельмі-вельмі рэальны кебаб. “Зараз-зараз”, — крыкнуў я і пачаў лавіць смачную рэальнасць. Кебаб выслізгваў і пляваўся часнычным соусам.

Голас соуса: “Я соус! Я хачу быць самастойным! Можаш пажаліцца мне — і, магчыма, тады я дарую!”

Я прыглядаюся, а там у соусе сядзіць мой закляты вораг Белагон Белагоныч, ці проста Светлая надзея.

* * *

Рука плыла — агінала ўзгоркі і балоты, лясныя выспачкі. У рукі былі белыя даўгія пальцы. Жаўцелі пазногці. Рука была досыць самастойнай. Яна не імкнулася вярнуцца да свайго цела. Яе задавальняла такое вандраванне. Яна рушыла не ў нікуды. Яна рушыла ў бок палаца, дзе быў барабан. Палац стаяў на вялікай гары, а гара стаяла на выспе, а выспа караваілася ў моры, якое плёскала вялікія хвалі. І там месціўся гучны барабан. Барабан! Вух, барабан. Гэты барабан мог крыкнуць: “Усім стаяць!” Гэты барабан мог прымусіць усіх легчы, заплюшчыць вочы і заціснуць вушы. Гэта быў дзёрзкі грукатун — ён не баяўся анікога і анічога. І, відавочна, ён чакаў гэтую руку. А рука шукала гэты барабан.

**7.**

Трэба ўвесці ў кантэкст аповеду сябра капітана. Сябра з юнацтва.

* * *

прыціснуцца вуснамі да шкла. І зразумець гэтае імгненне. Той і гэты самалёт. Крылы, хвост, матор… І ты прыціскаешся вуснамі да халоднага шкла. І глядзіш, як бяжыць узлётная паласа. Яшчэ імгненне — і самалёт адарвецца ад зямлі. Матор набірае моцы, і вось дамы ператвараюцца ў маленькія скрынкі для запалак. Наплываюць аблокі. Сюррэалізм. Здаецца, што ты разглядаеш мастацкую карціну.

**8.**

Галава саскочыла з крэсла на падлогу і пачала качацца, нібы яе нехта казытаў.

— Вельмі весела, — пагадзіўся я. — Пэўна, у цябе быў добры дзень.

— Дзень быў так сабе, а настрой напраўду добры. Сёння я пачала даследаваць злачынныя месцы. У сэнсе — месцы, дзе граюць у рулетку.

— І як поспехі?

— Спачатку мне шанцавала. А потым я зарвалася — пачала ставіць на суседзяў і ўсё прафукала. Мне б спыніцца. Але апанаваў азарт. Нельга піць віно пасля гарэлкі — дабром гэта не заканчваецца.

* * *

Небасхіл нахіліўся над целам. Цела зварухнулася, і здавалася, што на ім заварушыліся белыя валасы.

## 9.

Сякера праляцела над галавой і захрасла ў сцяне.

Я перахрысціўся і з палёгкай уздыхнуў.

— Страшна? — запытаўся лысы чалавек.

— Вельмі, — шчыра адказаў я.

— Не бойся, такім спосабам я выб'ю з цябе дурноцце. Проста метады ў мяне свае. Ты, інтэлігенцкая навалач, больш піць не будзеш, — паабяцаў мне лысы.

— А вы хто?

— Хто-хто? — перадражніў лысы і засмяяўся, паказваючы карыесныя зубы. — Дзед Пыхто. Я твой новы ўчастковы! Я цяпер за тваёй сям'ёй наглядаю. Вы ў маім нататніку запісаныя як небяспечная і кепска выхаваная ячэйка грамадства. Я цябе навучу любіць радзіму. І піць будзеш не паводле ўласнага жадання — а з нагоды дзяржаўных святаў. Мы цябе тады і санаторыем забяспечым — лячэбна-працоўным прафілакторыем! Гы-гы, — сказаў задаволены сабой лысы і дадаў: — Контра літаратурная.

— Навошта вам гэта? — здзівіўся я.

— Я буду хадзіць да цябе штодня. Каб у тваім горле перасохла, каб завялася перхаць. Мне падабаецца гнабіць такіх вырадкаў. Прыемна расціскаць усялякі гнюс. Зразумела, моль?

Нечакана Лысы ператварыўся ў кракадзіла. Быў чалавек і раптам — ба-бах! Грукат і туман. Туман разыходзіцца, і перад табой замест паскуднага лысага — кракадзіл!.. Ляжыць і пашчай шчоўкае. У гэтым зялёным нават нешта сімпатычнае было.

Я не разгубіўся і паведаміў:

— Таварыш начальнік, я ў вас аніколі не сумняваўся! Ведаў насамрэч, адкуль ногі растуць… дакладней лапы і хвост. Таму вы моцна не шчоўкайце — зараз у лядоўні пашукаю чаго мяснога для спатолення вашай мясаедскай сутнасці. Здаецца, там яшчэ кавалак кракаўскай трэцяй уцэненай катэгорыі заставаўся — тое, што трэба, для такога кракадзіла, як вы. Прабачце — участковага кракадзіла, як вы. Прабачце — участковай персоны, як вы. Так будзе больш дакладна. А калі яшчэ ў маразільні пакапацца, дык, наколькі памятаю, там яшчэ і кавалак вясковага сала заставаўся з кменам ды часныком. Праўда, ужо з жоўцю — як-ніяк тры гады поўнай замарозкі. Для вас, на галодны страўнік, самае тое.

— Ну што, малахольны, — прашчоўкаў зубамі кракадзіл. — Трапіў ты ў гісторыю. У нашай краіне дзяржаўная машына працуе без збояў.

**10.**

— Атрымайце маленькую асалоду, — сказаў ты і выпусціў з клеткі сінюю птушку. Тая запішчала, заклекатала, зарагатала і ўзляцела да шпіля замка.

!!!

Што цябе хвалюе, галоўны герой? Што цябе хвалюе, літаратар? Хто такі капітан Барада? І хто яна такая, гэтая галава? Нашто яна прыйшла ў гэты свет? Нашто ты пішаш пра гэта? Дзеля таго, каб проста пісаць?

Пытанні, пытанкі, і здаецца, што ты не ведаеш на іх адказу. Гэтыя бясконцыя п’яныя сцэны — дзеля чаго яны? Якi ў іх хаваецца сакральны сэнс? Колькі ўжыта алкаголю на гэтых старонках? Колькі дэкалітраў? Гэта прапаганда асацыяльнага ладу жыцця? Ці сіндром Даўна? Можа, праблема палягае глыбей, чым падаецца з першага погляду? Магчыма, яна ў адсутнасці рэгулярнай працы са словам? Ці праблема якраз у тым, што яе няма? Я думаю, сутнасць гэтага твора ў адсутнасці праблемаў. Ставіць пытанні і адказваць на іх, што можа быць больш банальным? Вар’яцтва гэтага свету якраз у тым, што ўсе імкнуцца да банальнасці — выдумляюць пакручасты сюжэт, станоўчага героя, выкрываюць злачынствы, а потым яго абсмоктваюць, як нейкую смачную костку. Навошта? Чаму нельга жыць не напружваючыся і не напружваючы. “Война и мир” ужо створаныя Львом Талстовым. Пеперштэйн ужо змагаўся з фашызмам і, здаецца, пераўзышоў многіх у сваім памкненні да вар’яцтва. Магчыма, свет ужо даўно звар’яцеў. “Людзі! — крычыць герой. — Спыніцеся!”

А можа, галоўны герой майго рамана — паэт-вар’ят, які запісвае п’яныя фантазіі ў сшытак? Ну, самі мяркуйце: у першай частцы ідзе размова пра дырэктара кнігарні, якому ягоны баявы супрацоўнік адразае галаву. А далей — болей. Нейкія абарваныя сцэны перамяжоўваюцца каментарамі аўтара з Галавой. Відаць, аўтар сам не сябруе са сваёй галавой. Нейкая ярка выяўленая шызафрэнія — нейкі капітан Барада прыдбаў у кнігарні галаву і звінціў у латышскі Вентспілс. Людзі, вы што, зусім не бум-бум? Сапраўды не сябруеце з галавой? Далей ідуць дзіўныя парады ад гэтага самага капітана Барады. І свет ужо зусім бы перакуліўся, калі б гэты спірт

не быў разбаўлены падазронай паэзіяй. Хаця і паэзіяй яе абазваць цяжка, бо малазразумелыя дыялогі мяжуюць з сцэнамі відавочна выпісанымі ў п’яным угары. А далей яшчэ цікавей, ці скажам наадварот: далей зусім нецікава. Ні табе сюжэта, адно нейкія абдзяўбаныя вершасказы. І табе ні якіх падзей, ні яркіх пазнавальных вобразаў. Здаецца, што гэты твор быў створаны дзеля таго, каб заставацца па сваёй сутнасці адсутным. Тут ужо і выдуманы філосаф Акудовіч прыгадаецца са сваёй канцэпцыяй “Мяне няма”. Дык пра што тут яшчэ казаць? Хіба адно пра татальны маразм твора “Калі прыгледзецца — Марс сіні”. Гэта пусты і няздарны раман. Раман ні пра што. Ці, рахуючы, “гэта канец свету, дзе ўсе з’язджаюць з глузду”. А тыя, што засталіся на старонках, таму аргумент. Напрыканцы чытанкі апошнія некалькі старонак увогуле ні пра што. Каб канчаткова запэўніцца ў вышэйсказаным.

Галава заўсміхалася, як быццам не было ўсяго раней напісанага:

— А ты наіўны. Думаеш, расставіў усе кропкі над “і”? Памыляешся, даражэнькі.

Я паглядзеў на галаву і, не шкадуючы, пастукаў па лобе. Гэта гучала, нібыта я грукаюся ў зачыненыя дзверы. Гук быў глухі і драўляны.

Ад нечаканасці галава ледзь не падавілася:

— Ты што, зусім ахранеў, канцэптуаліст мухаморны? Прыдумваеш усялякую гуйню.

— Значыць, ты анічога не зразумела. І не зразумееш. У творы нават паўторы наўмысныя. Вялікі ўплыў яны не зробяць, а настрой відавочна сапсуюць.

Галава звузіла вочы і прашыпела:

— Анічога ў цябе не атрымаецца. Шызафрэнікам і параноікам месца ў лякарні. Пішчы, пішчы. Мышаня з пытальнікамі.

Спрачацца не хацелася. Я выцягнуў цыгару, запаліў і зацягнуўся. Потым, не думаючы, выпусціў дым прама ў вочы галавы.

Галава закашляла, заплакала ад дыму, але ўпарцілася і працягвала з пагрозай:

— У аўторак усё скончыцца. І будзе апраметная на зямлі!

— З гэтым мушу пагадзіцца! Так яно і будзе! — рэзюмаваў я і затушыў цыгарэту аб лоб галавы.

## 11.

Вусаты і патлаты Камал. Ён заўсёды вылучаўся любоўю да выпіўкі і жанчын. Капітан яго любіў за шчырую размову і адкрытую душу. Любіў за апухлы добры твар, за вечна мокрыя піўныя вусы, за шкляныя вочы. Кожны раз Камал звальваўся невядома адкуль і правакаваў на ўчынкі.

— Прывіт, — сказаў Камал і заваліўся ў кватэру капітана, дзе той стаяў каля люстэрка з пінцэтам і раздумваў, што яму рабіць далей.

— Камал, ты якраз да месца. У мяне дэпрэсія, і жыццё сёння падаецца бессэнсоўным. Я ўжо падумваю, як ліцэістка, якая страціла веру ў каханне, здзейсніць акт суіцыду. На дванаццаты паверх, нагой у акно і гудбай! З якім задавальненнем пасля гэтага я б паглядзеў на рудыя пысы сваіх крэдытораў. Так і бачу, як яны выва-

рочваюць свае тлустыя рукі і крывяць тлустыя вусны. А я ім з неба: “Гудбай, крэтыны!”

* * *

Нагой неба не праткнеш. Кноты запаленыя. Коні брэшуць. Нехта спявае, а нехта плача. Ты мне верыш? Я не веру сабе сам, бо ўчора пахаваў на балоце жабку. Цяпер я няшчасны і шчыры. Шчыры верай у чалавека. Што табе сказаць, дружа, на развітанне?

**12.**

— Я стаў баяцца людзей. Мяне запрашаюць на абед, а я баюся. Я не магу сказаць, што мне непрыемная грамада. Я баюся, што ў мяне нехта тыркне відэльцам ці лыжкай. Мне здаецца, што я не разумею іх мовы. У мяне адчуванне, што вакол размаўляюць на латгальскай мове. У маёй галаве абед-каша! Камал, я вар’яцею! Мяне трэба тэрмінова ратаваць!

— Ідзі п’яным на абед. П’яным не страшна, — сказаў Камал. — Інакш аніяк. Накаціў грамаў дзвесце віскі, апрануў спартовы гарнітур і наперад. Цяпер ты круты гопнік — цябе мусіць баяцца, а не наадварот.

Капітан пачухаў патыліцу. Было адчуванне, што ягоныя вены напружыліся і праступілі на лбе, шыі, руках. Быццам нябачны вайсковец нацягваў на целе капітана цеціву лука. Здавалася, што капітана выгінала ад напругі. Відавочна, што яго выгіналі нервы, якія нацяг-

валі вены. Вены былі дротам. Дрот абкручваў капітана, выгінаў і душыў. У горле нешта забулькала і зарыпела. Капітан не мог супакоіцца. Ён не быў гатовы ісці на абед і п’яным. Ён адчуваў сябе спалоханым. “Ці бываюць капітаны баязліўцамі? — задаваў капітан сам сабе пытанне. — Не, не бываюць. Яны мусяць сыходзіць з карабля падчас бедства самымі апошнімі. Інакш гэта не капітаны”.

* * *

— Аўторак наперадзе! — нагадала галава. — І хмары цябе не выратуюць!

— Выратуюць грыбы, не галюцынагенныя, а самыя звычайныя! — адказаў я.

— Гэта чаму? — здзівілася галава.

— А таму, што я зрабіў грыбны суп. І чытач разам з табой яго праглынуў.

— Ну ты і з’еда, — агрызнулася галава. — Ведаеш, як пацвеліць.

— Я ведаю псіхалогію чытача.

Галава ашчэрылася, і было ў ёй столькі брыды ды злосці, што я не стрымаўся і сплюнуў.

На гэта галава заўважыла:

— І не харкайся, быдла рагатае. Табе не хапае шляхетнасці.

**13.**

Канкрэтнага анічога не было. Нават птушкі былі гумовыя. Таму гэтыя дэкарацыі здаваліся плюшавымі.

Паэтка закашлялася, захіхікала, заблішчэла вачыма і надрыўна пачала чытаць з паперы:

— Калі ластаўкі зробяць свае гнёзды ў маіх валасах

Калі пірс загайдаецца і лакатар праб'ецца праз марскія хвалі Калі сэрца згасне і ціхая кроў закрычыць Ровары зашыпяць па мокрым асфальце Адзінокія дрэвы ў пяску Я лаўлю вуснамі пырскі Дзюны нібыта з дзяцінства Махае рукой мне хлопчык Такі знаёмы і ў кірзавых ботах На фотаздымку мінулы дзень Цыгарэта скурчылася ў халодных пальцах

* * *

Я загасіў цыгарэту і задумаўся. Мне было цікава зразумець, што далей.

* * *

Задача гэтага твора ў знішчэнні чытача. Пачнеш чытанне з Набокава і Кафкі. А скончыш — у страшнай агоніі — тут.

* * *

Я наліў сабе. Мне да дупы, што вы пра ўсё гэта думаеце. Больш за тое, я зараз уключу тэлевізар і буду глядзець вайсковы парад. Грукат тракаў, дзынькaнне медалёў, харавое рохканне і стогны. Што можа быць лепей? Пацыфісты, гаўкайце ад злосці!.. Мне падабаецца мой палітычны шал. Гэта ж заапарк!.. Экзотыка. Тут моцныя жаруць слабых. Тут не сумна!.. Я наліў яшчэ і выпіў. Адпусціла.

## 14.

Герой выйшаў з ценю і пачаў мне нашэптваць на вуха: “Было зразумела, што ўнутры штосьці зламалася. Нейкая шасцярня. Аналізуючы, ён здагадаўся, што нечакана пасталеў, і гэтае сталенне абрынулася на яго раптоўна пасля смерці прыяцеля. Як быццам усё засталося за спінай: маладосць, смех. Ціхамірнае існаванне скончылася. Не было, як раней, жадання ўскочыць на ровар і гойсаць па сонечным горадзе. Нават вуліцы здаваліся цяпер нейкімі сюррэалістычнымі. Людзі выглядалі напаўжывымі. Раптам увесь свет напоўніўся манекенамі. Не хапала і той радасці ў п’янках, што весялілі раней. Быццам цела акупавалі п’яўкі. Новыя прыгоды перасталі быць прыгодамі. Здавалася, што не толькі навакольны свет, але і сам ён зрабіўся ніякім”.

— Цьфу! — сплюнуў я. — Заканчвай гэтую рамантычную гігіену. Давай лепш вып’ем. Я за звычайную гарэлку з маразільні. І каб пад агурок і капусту.

Герой нядобра на мяне паглядзеў, паправіў гальштук, таксама сплюнуў і адвярнуўся.

## 15.

Я выпіў грамаў дзвесце гарэлкі, заеў маласольным агурком, і настрой мой відавочна палепшаў. Нехта за спінай ціха нэндзіў, але я на гэта не звяртаў увагі.

— У цябе няма сэрца! — нарэшце паведаміў нехта. — Ты прапіў усё — жыццё, працу, сям’ю! У цябе абрыдлае і нецікавае існаванне! І ў тваіх кнігах мала сэксу! І многа пляўкоў!

Я павярнуўся і паглядзеў на гэтага нахабніка, які ўздумаў мяне павучаць. Гэта быў ён. Той, хто нядаўна мне нашэптваў розныя жыццёвыя бздуры. Знаёмы чырвоны расплюшчаны твар. Твар сюжэтнага героя, ад якога адлятаюць кулі. Гэта быў ён!.. Супергерой напрошваўся ў сябры.

— А гэта зноўку ты, — усміхнуўся я. — Бяжы да мамкі! Бяжы адсюль да прызнаных творцаў — тут табе няма чаго рабіць! Тут табе не месца!

Супергерой набраў у грудзі паветра і выдыхнуў:

— Тады слухай, што было далей!

Ад такога нахабства я напраўду прыціх і пачаў слухаць ягоныя бздуры…

— Мой подых быў роўны, як ніколі. Быццам не было пагоні. Нібыта мне ўсё прымроілася. Я ішоў па вуліцы. Дрэвы хіліліся да мяне і ціха шапталі: “Табе не збегчы… Не збегчы…” Вокны ў дамах цьмяна мігцелі і здавалася, што ўсе яны пазапальвалі свечкі. Але дыхалася спакойна, толькі мерзлі рукі і я не мог зразумець, ці гэта ад холаду, ці ад нерваў?

У небе пракакатаў верталёт. Я зірнуў дагары і пабачыў велізарнага чорнага жука з вусамі, што шчэрыліся кулямётамі. Было адчуванне, што вакол зацішша перад бурай. Яшчэ імгненне — і з кожнага пад’езда, з кожнай шчыліны, яміны пачнуць выпаўзаць людзі з аўтаматамі.

Розум працаваў цвяроза і разважліва. Бегчы з горада? Яны, пэўна, ужо перагарадзілі ўсе выхады. Што рабіць? У гэты момант на вочы патрапіла шыльда бара пад

назвай “Флінт”. Без доўгіх развагаў я вырашыў схавацца туды, каб усё ўзважыць і абдумаць.
За стойкай бара, якая нагадвала гіганцкі памідор, стаяў не менш важкі барадаты хлопец у фартуху кухара. Ён іранічна ўсміхаўся.

Наведнікаў было няшмат. Злева ў кутку за столікам сядзеў з куфлем піва пажылы мужчына ў акулярах. У глыбіні залы былі юнак з дзяўчынай.

— Цёмнага піва, — сказаў я.

Бармэн няспешліва нацадзіў цёмнага напою. Я прысеў за стойку бара і ўзяў у рукі куфаль. Было адчуванне, што ў руках кавалак радасці і свабоды. Пальцы абмацвалі холад шкла. Я зрабіў першы глыток… Адчуў гаркавы смак…

— Устаць! — пачуў я рэзкі голас.

Супергерой нарэшце змоўк. Я паглядзеў на яго, і мне чамусьці зрабілася сумна. Гэтыя бясконцыя гульні. Марыянетачныя атланты. Не доўга думаючы, я накаціў яшчэ сто грамаў. Палягчэла.

— А што з кнігарняй? — запытаўся я.

— З кнігарняй? — перапытаў супергерой.

— Так. Што сталася з Марсам?

— Дык у аўторак знеслі, — прамармытаў супергерой. — Усе газеты пра гэта пісалі.

— А кнігі куды падзелі?

— Ды на макулатуру здалі. Бібліятэкі нават бясплатна адмовіліся браць. Сказалі, што анічога арыгінальнага няма.

— А чытачы?!! — ускрыкнуў я.

— Хіба яны ёсць? — здзівіўся супергерой. — Вымерлі, як дыназаўры.

Я накаціў яшчэ сто грамаў. І згадаў чамусьці пра Паўла Убіратана. Пра гэтага бразільскага лекара я даведаўся праз інтэрнэт. Убіратана казаў: “Жыццё павінна быць вандроўкай да магілы не з намерам з’явіцца ў прыгожым, добра захаваным целе, а хутчэй з заносам, у клубах дыму, цалкам выматаным і зношаным, гучна апавядаючы: “Вось гэта вандроўка!”

І я выпіў яшчэ. За Убіратана.

**16.**

Супергерой пачухаў чырвоны няголены твар і працягнуў сваю гісторыю:

— Я нічога не разумеў. Я не мог выціснуць ані слова, бо вусны мяне не слухаліся. Яны былі як драўляныя. Я агледзеўся — гэтых людзей я не ведаў. Яны сядзелі вакол мяне. І замест слоў выгуквалі нешта дзіўнае і страшнае. Разам з гэтымі гукамі з рота кожнага выплюхвалася чырвоная пена. Да таго ж яны жэстыкулявалі. Як глуханямыя, хаця жэсты мелі іншае паходжанне. Усе прысутныя былі апранутыя ў паласатыя піжамы, і таму карціна выглядала проста фантастычнай. Нельга было сказаць, што я ў доме вар’ятаў, бо, відавочна, гэта паходзіла з нечага іншага. Можна было б падумаць, што я трапіў у спектакль рэжысёра-авангардыста. Ці ўявіць патаемную секту. Але чым гэта было насамрэч, я не разумеў.

Супергерой змоўк і паглядзеў на мяне:

— Што ты пра ўсё гэта думаеш?

— А што я магу пра гэта думаць? Я выпіць хачу. У мяне перасохла ў горле. Мне думаць увогуле шкодна. Я калі пачынаю шмат думаць — тады піць не магу. А без пітва мне яшчэ горай. Лепш распавядзі пра апошнія дні кнігарні.

— Зноў пра кнігарню? — здзівіўся супергерой. — Які ў гэтым сэнс? Як і з прыватнай гандлёвай кропкай…

— Не трындзі, — абарваў я. — І без каментароў. Пачынай!

Супергерой незадаволена хмыкнуў, расправіў плечы і выразным голасам гучна пачаў:

— *Кнігарня Марс. 18:36. Пятніца. Пяць дзён да закрыцця.* (Я ўдакладніў: “Пяць дзён да смерці!”)

Волма стаяла насупраць Дашуні — абедзве махалі рукамі. Абедзве былі ў чырвоных піжамах, басанож. Што адбывалася? Яны збіраліся ў неба? Раптам жанчыны пачалі гучна спяваць. Гарлавыя спевы. З кніг выходзілі людзі ў піжамах — чалавек пятнаццаць. Усе трымалі ў руках выбівалкі для кілімаў. Яны стварылі кола вакол жанчын, махаючы выбівалкамі. Тыя спынілі спевы. Волма ўзняла рукі дагары, і на яе пачаў сыпацца дождж. Яна крыкнула: “Прыйдзі!” Усе пачалі кашляць. У цэнтры кнігарні грымела і бліскалі маланкі. Сярод іх узнікла груваcткая кніга, на ёй вялікімі літарамі было напісана: “Джэймс Джойс «Уліс»”.

Супергерой сціх.

— Слухай, — запытаўся я, — як ты сам маешся? У вольны ад працы час?

Супергерой надзьмуўся, нібы пончык, і паспавядаўся:

— Не п’ю. Нядзеляй хаджу ў царкву, увечары пасля працы наведваю клуб ананімных алкаголікаў.

— І зубы чысціш? — здзівіўся я.

— Штодня! Зранку і ўвечары. І нават часам удзень пасля маннай кашы!

— А на жанчын звяртаеш увагу? — між іншым запытаўся я.

Супергерой раптам з чырвонага стаў бурым і канчаткова змоўк.

— Зразумела, — зрабіў я выснову.

**17.**

голас: узяць і прэпарыраваць цябе, сынок. Паглядзець на тваю распухлую пячо-о-онку. Абкруціць свае рукі тваімі кішкамі. З сэрца выштукаваць свяцільню. З мазгоў, гэх, мазгоў… атрымаюцца цудоўныя сэндвічы. Самае мярзотнае, што ў цябе ёсць, — гэта твая правая пятка. З яе я зрабіў бы хатні малаток ці палачку для барабана.

**18.**

Пасля некалькіх запойных дзён пабачыў маленькую мушку, падыхаў на яе — і яна павесялела.

Мне нельга разганяцца. Не ўмею піць. Пасля шкадую.

Вуліцы Вентспілса ўпрыгожваюць каровы. Можна сказаць, што карова стала сімвалам горада. Я глядзеў на markdown рознакаровыя выявы, і мне хацелася не малака. Га. Мне хацелася біфштэкс!..

Чалавечы арганізм — вельмі складаны гадзіннік. І з ім трэба акуратна, бо ён можа зламацца ці даць збой. Тыдзень знік імгненна, я нават не заўважыў. Проста прачнуўся аднойчы і зразумеў, што не ведаю, якая сёння дата і дзень тыдня. Самае крыўднае ў гэтай сітуацыі, што не было грошай. “Карова!..” — заныла мая галава.

Але калі мая галава паскакала, я супакоіўся.

* * *

Шнары быццам шары бягуць па твары Прыйдзе герой і павядзе за сабой войска ў бой Прыйдуць караваны і стане ў хаце весялей Дапамажы свайму сыну Вярні ласку і любоў

Гы-гы.

Супергерой стаяў нада мной і паблажліва пасміхаўся.

— Што было далей?.. — прахрыпеў я. І адчуваў, што сілы мяне пакідаюць. Я задыхаюся.

— Далей? — здзівіўся супергерой. — Далей усе пабачылі гнома, які зваліўся на кнігу Джойса, нібыта на канапу.

— Гнома? — у сваю чаргу здзівіўся я. — А потым?

— Дашуня запыталася ў гнома, хто ён такі і што тут робіць. На што той нахабна заявіў, быццам ён і ёсць Джэймс Джойс!..

**19.**

— Ну, што вы, бацюхна, стаміліся круціццаваўчком? Ды яно і не дзіўна. Народ патрабуе відовішчаў; пагоні, дакументалістыкі, трупаў, слёзаў. Няшчасці яго ўзрушаюць. Чалавек як быў жывёлінай, гэтак ёй і застаўся. Розніца толькі ў тым, што раней у яго была голая дубіна, а цяпер дубіна з тэхнічнымі прыбамбасамі.

Таму мы адслонімся ад гэтых тэмаў і паспрабуем паразумецца.

Аратар выцер з ілба кропелькі поту.

**20.**

**а ў гэты самы час**
**кнігарня Марс**
**момант ікс**

Мюнхгаўзэн прыляцеў на ядры і рагатаў. Ягоная трохвуголка бурбулілася, нібыта кіпень. Пахла порахам і грэцкімі арэхамі.

Крот, які прагрыз падлогу ў кнігарню і выпаўз на паверхню, раптам павялічыўся да памераў газавай пліты,

урэшце ў якую і ператварыўся. З духоўкі вылез пыхлівы казацкі генерал з медалямі і шашкай. Ён пачаў раўці, каб усе разышліся! Але ніхто не разыходзіўся. Чытачы і гандляры стаялі сцяной — усе чагосьці чакалі. Тады ён моцна раззлаваўся, скінуў папаху і выскачыў у вакно — праз шкло. У кнігарні зрабілася халодна і чамусьці пайшоў снег.

Да гандляроў і чытачоў выйшла Волма. Сёння яна апранулася ва ўсё чорнае. На галаве быў какетлівы капялюшык з пёркамі. Снег адразу спыніўся. Волма:

— Я хачу абвесціць, што час прыспеў! Пяць кавуноў і дзесяць гарбузоў прадраклі сённяшні дзень! Я мушу раскалоць загадку на до, рэ, мі, фа, со, ля, сі!

Адзін з чытачоў ператварыўся ў Кашчэя Несмяротнага і пачаў танчыць ламбаду — пры гэтым у яго адвалілася шпора.

— Я прызнаюся, што ўсе гэтыя месяцы дырэктарам кнігарні была я! Астатнія з’яўляліся падстаўнымі асобамі! Я была, прабачце за такое параўнанне, лялькаводам!

Цішыня. Твары прысутных змярцвелі. Шэпт: “І ўсе гэтыя месяцы... мы... такія... сякія... разгэтакія... мы... такія дурні... мы...”

— Правільна, — сказала пераможна Волма. — Вы ўсе елі бублікі! Бублікі!!! Вуха вам ад печкура!

## 21.

Я паглядзеў на апавядальніка. Голас яму ўжо не належаў, бо не падпарадкоўваўся. Здавалася, што паветра поўніцца трэскам кружэлак, якія ламаюць. Святло падала яму на твар, і ён падаваўся злавесным.

Я не вытрымаў і запытаўся:

— І што адбылося насамрэч? Што было паперадзе гэтых падзеяў?

Апавядальнік быў незадаволены маім пытаннем, але, тым не менш, пераказаў:

— Калі ў кнігарні паднялі масніцы, высветлілася, што там схаваны драўляны бокс. Агульнымі намаганнямі яго выцягнулі наверх і ўскрылі.

— Капітан Барада крычаў? — са спадзяваннем запытаўся я.

— Не крычаў. Там была галава Неферціці. Зачараваная мазгаўня.

Тут да нашай размовы далучыўся Дробс:

— А мне падаецца, што гэта была гіпсавая галава Генры Чынаскі — менавіта тая, якую з яго ляпіла Лідзія.

— У кожным разе, — здагадаўся я, — гэта галава Неферціці, энд Хрэн Чынаскі ва ўсім і вінаваты!.. Гэта яна пасылала сігналы. Гэта яна стварала ў кнігарні электрамагнітнае поле. Папросту кажучы — адмысловы Бермудскі трохкутнік, дзе знікаюць людзі… Так-так, капітан Барада, вы ахвяра гэтай анамаліі.

Капітан Барада здрыгануўся, смутна на нас паглядзеў і заскуголіў.

**22.**

Ну, што заціх? Выпаўзай ужо. Нікога няма. Біць ніхто не будзе.

У пакоі быў паўзмрок. У цэнтры стаяў жоўты непрыбраны ложак. З-пад яго, крэкчучы, выпаўз нехта. Гэтым

“нехта” быў Капітоныч. Толькі яго цяжка было пазнаць; схуднелы, няголены, з нездаровымі бліскучымі вачыма. Да таго ж Капітоныч дрыжэў і шчоўкаў ад страху зубамі.

— Капітоныч!

— Я, я, я, — пацвердзіў Капітоныч.

— Ты верыш у будучыню, Капітоныч?

— Не, не, не, — заікаючыся, прамямліў Капітоныч. — Я веру ў ррррэчаіснасць.

— Навошта ты забіў дырэктара кнігарні?

— Я не забіваў! — заенчыў Капітоныч. — Я не забіваў!.. Я дапамог яму з рэінкарнацыяй!..

— Як гэта?

Капітоныч прыклаў палец да вуснаў і, азіраючыся, зашаптаў:

— У юнацтве Рыгор Вельветавіч пакрыўдзіў шмат дзяўчат… Да мяне дайшла інфармацыя, што рудая паэтка Каміла збіраецца падаць на яго ў суд за сэксуальны гвалт… У іх там утварыўся вялікі клуб пакрыўджаных і згвалтаваных Вельветавічам. Вось мы і вырашылі прадухіліць…

— Забіць — гэта значыць прадухіліць?!!

— Не забіць, а перавесці ў іншы стан. — З гэтымі словамі Капітоныч падскочыў да тумбы і выцягнуў адтуль кардонную скрыню.

— Глядзіце!

Ён разадраў кардонку. Там ляжала жаночая галава, якая гідліва на нас пазірала і крывілася.

— Што гэта, Капітоныч? Хто гэта?

— Запасная, — зашаптаў Капітоныч. — Гэта тая самая — толькі запасная.

— Нічога не разумею.

— Дык я і кажу — не забіваў!.. Не! Не рабіў я гэтага!.. — хрыпеў Капітоныч. Яго трэсла.

Галава ў скрыні шморгнула носам і прасіпела:

— Гэта мая была ідэя. Недаразлічыла я…

Раптам загрукаталі ў дзверы. Пацуком замітусіўся холад. Металёвымі зубамі заскрыгатала паветра. Пабеглі нябачныя вагоны, тамбуры, цені.

Пранізлівы голас ахоўніка:

— Наведнікам пакінуць тэрыторыю! Пяць хвілінаў!

Голас са скрыні:

— Нешта атрымалася не так! Мы няправільна разлічылі гравітацыйнае поле! Квантавыя гадзіннікі выпарыліся. Механіка закінула ў мінулае. Божухна, мы не хацелі! Не хацелі! Не хацелі!

За спінай грукаталі дзверы. Ад калідорных ліхтароў вочы засціла рабацінне, а ў галаве звінела “мы не хацелі”. Звінела ціха, але не спынялася.

**23.**

Уключыўся тэлевізар. Бледны дыктар пракашляўся, выцер лоб хустачкай і дрыжачым голасам паведаміў: “Зараз будзе экстранны выпуск навінаў”.

На экране матэрыялізаваліся тры адкормленыя ружовыя галавы, кожная з іх па чарзе нешта невыразна рохкала. Чамусьці згадвалася казка Юрыя Алешы “Тры таўстуны”… І закадравы голас паведаміў: “…на цырымоніі пахавання сабраліся лепшыя людзі краіны…”

* * *

Крытыкеса дэманстратыўна пагрукала абцасамі па каналізацыйным люку (нечым яна нагадвала маленькага поні з падкоўкамі) і сказала:

— Мне здаецца, што атрымалася не ўсё так кепска. У другой частцы ты нарэшце перамог сюжэтную лінію канчаткова і яна абрынулася ў бездань. Героі пашаравалі свае бляклыя абрысы і неўпрыкмет распушыліся ў літаратурным студзені. Так бы мовіць, туман рассеяўся. Ты мяне не расчараваў — не. Ты мяне згвалціў маральна. (Я хацеў спытаць: "І фізічна?")

Крытыкеса ўтаропілася ў мяне сваімі вадзяністымі вачыма, нібыта запрашаючы: "Ну, давай! Смялей, мой юны празаік!" Але гэта толькі флюіды і застылыя ў паветры думкі, бо голас крытыкесы прагнусавіў зусім іншае:

— Ты даўно, на жаль, не малады празаік. Не той, хто падае надзеі. Замусолены графаман. Спарахнелы старпёр. ("І не здатны на фізічны гвалт", — падумаў я, ці, хутчэй, дадаў да словаў крытыкесы.)

Раптам крытыкеса захрыпела і пачала страшна рагатаць. Здавалася, што ў гэтых гуках паміраюць нават начныя інсекты. Але неўзабаве рогат рэзка абарваўся. Як быццам з кружэлкі саскочыла голка. Погляд крытыкесы быў змрочным і чорным. Мне зрабілася зусім нядобра. Крытыкеса ашчэрылася і рэзкім рухам з трэскам адарвала сваю галаву: "Хрусь!" Так адрываюць спелы кавун.

Я прыгледзеўся. Я прыгледзеўся, і мне стала ўсё зразумелым. Марс сапраўды быў сінім! Хмары насунуліся і паказалі іклы! Я згадаў халодны пакой лякарні.

Згадаў кардонную скрынку і крывы позірк той запасной галавы. І я дзіка зароў:

— Я цябе пазнаў, мымра крывабокая! Я цябе пазнаў, хрэнакеса пільнавокая!

Усё таемнае робіцца яўным. Я жыў і падсвядома прадчуваў нейкае змоўніцтва. Карагоды галоваў і разарваных целаў мяне змэнчылі канчаткова. Я пачуўся знішчаным ушчэнт. Стаяў каля люстэрка і падпальваў свой парадны сурдут.

**24.**

Волма паглядзела на прысутных і паведаміла: "Ганудя ўжо разліла сланечнікавы алей".

* * *

Вагонаважатая Мося ўпэўнена кіравала трамваем.

— Мося, давай! — равеў дужы пасажыр у адзенні марака і біў сябе ў грудзі.

Сіні трамвай з маляванай рэкламай памперсаў шалёна грукатаў. Здавалася, ён ператварыўся ў гоначны аўтамабіль. Памперсы нагадвалі крылы. Завываў вецер, скуголілі гномы. Рэклама крычала: "Лепшы камфорт дзіцяці!"

Пасажыраў у трамваі было мала — тры чалавекі і два гномы; вышэйзгаданы марак, мастак Родзім, пісьменнік Майкл Крывы, гномы Чук і Гек.

Крывы крыва ўсміхаўся і гучна нашэптаваў:

— Давай!.. Давай!.. Мосенька!.. Мы не павінны спазніцца!.. У камуне наш прыпынак!.. Давай! Давай!.. Мосенька!..

Родзім пахмурна глядзеў на сустрэчныя аўтамабілі. Па ягоным хударлявым твары напружана бегалі зморшчыны. Запэцканыя ў фарбу рукі нервова церусілі палітон.

Раптам усё змянілася. Мося заўлюлюкала. Пасажыры заціхлі. Усе заўважылі наперадзе чалавека, які неабачліва пераходзіў дарогу ў недазволеным месцы і набліжаўся да трамвайных рэек, — гэта быў капітан Барада.

*ДАІ папярэджвае: “Пераходзьце дарогу толькі ў дазволеным месцы і на зялёнае святло!”*

— Расцісні яго, Мося! — залямантаваў Родзім. — Рэж гэтае масла! Рэж!!!

Капітан Барада нечакана паслізнуўся на трамвайных рэйках. Апошняе, што ён пабачыў, — шалёныя вочы вагонаважатай Мосі і ейную чырвоную павязку, на якой красаваліся серп і молат.

Трамвай сказаў гучнае: “В-жык!!!” — і адрэзаў галаву легендарнага капітана Барады. Галава адляцела ў завулак Коласа. Калі яна закацілася пад міліцэйскі пастарунак, дык ачомалася там, радасна заўсміхалася і хуценька скіравала ў глыбіню двароў — падалей ад вачэй разявакаў. (Голас: “Хрусь і напалам!”)

**25.**

Супергерой адкашляўся і заўважыў:

— Па другой версіі ўсё было інакш. Нібыта і не было трамвая. Бо Міхаіл Булгакаў нечакана захварэў і ў гэты

перыяд быў не здатны да творчасці. А галава адляцела ад капітана неяк нечакана. Ніхто нават не зразумеў, што здарылася. Стаяў чалавек, капітан, махаў усім рукой, нават усміхаўся. І раптам — р-а-а-аз! — і галава саскочыла з плеч, капітанская фуражка, натуральна, звалілася, а галава, як мячык, паскакала далей ад натоўпу. Безгаловы чалавек заваліўся на бок і распластаўся на зямлі. А галава ўцякала — усё хутчэй і хутчэй. Людзі знямелі — ніхто не мог нічога зразумець. Усе шырока расплюшчылі вочы і разявілі раты. Толькі маленькі хлопчык, які смактаў чырвонага пеўніка на палачцы, тыцкнуў пальцам у той бок і сказаў: “Ну ні храна сабе жартачкі! Гэта ж калабок нейкі!”

Галава збочыла ў завулак.

Супергерой уздыхнуў.

**26.**

Галава і цела былі ў кабінеце паасобку. Галава ўсміхалася бяскроўнымі вуснамі. А безгаловае цела абмацвала стол, шукаючы пратаколы затрыманняў. Галава паглядзела на цела, ашчэрылася і патлумачыла:“З пункту гледжання сістэмы, я сацыяльна небяспечная асоба. Сёння скончыўся тэрмін міліцэйскага нагляду. Алілуя”. У гэты час рукі безгаловага цела спехам камечылі і рвалі шматлікія паперчыны. Пратаколы і пастановы вялікіх начальнікаў ляцелі ў тартарары.

— Яны паляцелі, нібы птушкі ў вырай, — дадаў нехта.

## 27.

У такія хвіліны хацелася чытаць. У кнігарні наведнікаў амаль не было. Я ўзяў першае, што трапіла ў рукі, разгарнуў кнігу наўздагад і прачытаў: "Са знакамі прыпынку ў вялікага пісьменніка былі надзвычай інтымныя стасункі. Працяжнікі шанаваў… а дужкі ненавідзеў: любіў падкрэсліваць, а не нашэптваць. Прыкрымі былі яму і двукоссі на балонцы: «…не паважаў гэтае грымасы ў голасе. Кропка — як спрэс чорны гарнітур. У ёй было нешта панскае. І вялікі пісьменнік быў рады да яе дапісаўшыся. На коскі, як на вулічны натоўп, паглядаў абыякава»".*

— Хто так разумна напісаў? — пачуў я шэпт.

— А вось самі здагадвайцеся.

За прылаўкам сядзела галава, яна сумна пазірала на мяне і пускала мыльныя бурбалкі. "Ну вось, — падумаў я. — Усё расклалася ў сваім парадку. Месца гандляра заняў той, хто заслужыў. Кніжны злодзей цяпер будзе гандляваць думкамі". Задаволены такімі высновамі, я заўсміхаўся.

"Нешта выбралі?" — ляніва запыталася галава.

"Так! — адказаў я. — Вось гэтую кніжачку, што трымаю ў руках!"

Галава абыякава паглядзела на кнігу і заўважыла:

"Спадчыну чытаеце… Не сумна?"

"Не, не сумна! Самае тое!"

---

* Рэдактар не стрымаўся і адрэдагаваў цытату класіка беларускай літаратуры.

Нечакана вельмі знаёмы голас падказаў аднекуль з-за шафаў: “Галава, ды дай яму шклянку атруты, каб не сумаваў, сцука!”

І падумалася: “Дзякуй табе, Бармалей”.

**28.**

У кватэры панавала цішыня. Нягучна пырхала моль. У вокны зазірала сонца, і ягоныя прамяні рэзалі прастору на залатыя зліткі. Крытыкеса глынула кавы і задумалася. Яна расчаравалася ў літаратурным працэсе. І гэтае расчараванне было татальным. Ужо даўно яна анічога не чакала ад літаратуры. Яе больш цікавілі кулінарныя рэцэпты. Крытыкеса зглынула сліну і ўявіла чахахбілі, чырвоны аксаміт перцаў і памідораў, свежыя лісцікі кінзы і базіліка. Яна ўжо ў думках смакавала страву і таму закаціла ад задавальнення вочы. Хаця яшчэ быў патрэбны імярэцінскі шафран. І не забыцца пасыпаць хмелі-сунэлі ды арэгана. Не лішне дадаць даўленага часныку…

Крытыкеса, як сабака, высалапіла язык і пусціла сліну. Язык у крытыкесы быў вялікі, ружовы і нагадваў кракаўскую каўбаску.

*2018*

# ЗМЕСТ

Зміцер Вішнёў нарадзіўся ў 1973 г. у Дэбрэцэне (Вугоршчына), вывучаў філалогію і журналістыку ў Менску і Маскве. Удзельнік літаратурнага руху “Бум-Бам-Літ”. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтра. Аўтар кніг “Штабкавы тамтам” (1998), “Тамбурны маскіт” (2001), “Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віду грызуноў” (2002), “Верыфікацыя нараджэння” (2005), “Фараон у заапарку” (2007), “Замак пабудаваны з крапівы” (2010), “Шоргат жукоў” (2011), “Спітыя баркасы” (2014). У 2014 годзе раман “Das Brennesselhaus” выйшаў у Нямеччыне ў выдавецтве Luxbooks.

Займаецца жывапісам, працы выстаўляліся ў Беларусі і за мяжой, у тым ліку ў мастацкім доме Tacheles (Берлін), Музеі нонканфармісцкага мастацтва (Санкт-Пецярбург). Узначальваў перформар-групу “Спецбрыгада афрыканскіх братоў”.